


ВЫПУСК 30

ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ

# Мястэчка G...
# ...і ваколіцы...

## Дзевятнаццаць апавяданняў і п’еса

МІНСК
«КНІГАЗБОР»
2012

УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
Ш18

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 30.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

Дзякуй Амбасадару Шведскае Кароны спадару **Стэфану Эрыксану**, дырэктару Польскага Інстытута спадару **Пятру Казакевічу**

**Шалкевіч, В.**

Ш18 Мястэчка G... ...і ваколіцы... : дзевятнаццаць апавяданняў і п'еса / Віктар Шалкевіч. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 112 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 30).

ISBN 978-985-7007-83-7.

Гэтая кніга перадусім не пра мястэчка G. і ваколіцы, а пра людзей, якія там жылі, таму што без людзей любое мястэчка робіцца звыклаю горбаю камення. Гэтая кніга пра нашую прыгожую страчаную Айчыну — Вялікае Княства Літоўскае... Яго даўно няма на мапах, тым не менш яно дзесьці глыбока сядзіць у кожным з нас...

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(Беи)**

**ISBN 978-985-7007-83-7**

Z Wilna przeskoczył do Grodna, tego brudnego, żydowskiego Grodna, w którego rynsztokach jak w zasmolonym szkle przeglądały się kamieniczki dawnych lat.

*Józef Mackiewicz. «Na S.W.1» Dzieła, tom 12, s. 245*

# МЯСТЭЧКА G.

Мястэчка стаяла на рацэ, якая спрадвеку цякла ў Балтыйскае мора. Мора было далёка, а як выглядала — чорт яго ведае — ніхто не ўяўляў і не бачыў... Можа, дзяды і прадзеды калісь...

Пра раку спяваліся розныя інтымна-лірычныя і ваенна-патрыятычныя песні, у якіх яна абвяшчалася ледзь што не фарпостам усходняй візантыйскай цывілізацыі, Кронанам і Барысфенам, крыніцай ісцінна-сапраўднай Веры і Бацькам усіх людзей, жывучых на яе левым і правым берагах, хаця якраз бацьку яна меней за ўсё прыпамінала, была рака не вельмі вялікая, нячысценькая, у некаторых месцах, дзе з іржавых трубаў у яе ўліваліся падазронага колеру вадкасці, увогуле нагадвала падручнік па хіміі для сёмага класа, а ўлетку, калі мялела, усялякая адважная варона каб схацела, то перайшла б яе пехатою... А калісьці, кажуць, па ёй сунуліся цяжкія віціны ці лайбы з таварамі аж у міфічную

Усходнюю Прусію, альбо з самога Кіева даплывалі да тутэйшага замка на горцы чаўны з рознымі легендарнымі рускімі князямі і цівунамі...

Мелася ў мястэчку некалькі рухлівых вуліцаў, пара вышэйшых вучэбных установаў, медыцынскіх і сельскагаспадарчых, пара абавязковых савецкіх помнікаў правадырам і паходням нацыі, адзін з іх, бюст заснавальніка тутэйшай літаратуры, каторы стаяў ля сценаў мясцовага ўніверсітэта, быў вечна метка і густа загаджаны несвядомымі непісьменнымі птушкамі... Былі ў мястэчку чатыры прыгожыя сярэднявечныя касцёлы з кляштарамі і некалькі цэркваў, адна царква — ну вельмі старажытная, дакладней, тое, што ад яе засталося... Сінагогі, зразумела, таксама, і кірха лютэранская, і спешна набудаваныя напачатку дзевяностых на замежныя грошы не надта файныя малітоўныя баптысцкія дамы... І было некалькі музеяў і чатыры мастацкія галерэі, два прафесійныя тэатры, два кансулаты — польскі і літоўскі, польскі на вуліцы гарачага прыяцеля ўсіх шляхціцаў таварыша Будзённага, а літоўскі — на вуліцы пралетарскага пісьменніцкага генія Максіма Горкага, была філармонія і палацы розных культураў — тэкстыльнай, тонкасуконнай, чырвонаармейскай, хімічнай, будаўнічай, гарадской і раённай, былі аўтобусы і тралейбусы — трамваяў не было ніколі, бо інакш мястэчка сталася б Віцебскам і ў ім пачалі б нараджацца сотнямі і тысячамі Юдалі Пэны і Маркі Шагалы, былі два вакзалы — чыгуначны і аўтобусны, а перад імі заўсёды столькі таксовак, што, здавалася, адныя таксісты, каб не скіснуць ад нуды, проста вазілі другіх таксістаў, быў нават аэрапорт, з якога перыядычна то лёталі, то не лёталі дробныя самалёцікі ў недалёкі Калінінград ці далёкую Маскву, была мытня, скуль грамадзяне стартавалі на гандаль у блізкую Польшчу, нашпігаваныя смярдзючымі тытунёвымі вырабамі мясцовай (былой) фабрыкі Шарашэўскага, як эстонская каўбаса — салам, а самі мытнікі, здаецца, ледзь не выварочвалі сабе сківіцы ад асуджанасці і аднастайнасці сваёй штодзённай няхітрай працы — праверыць і пусціць туды — праверыць і пусціць назад, туды — назад, туды — назад... Трапляліся ім часам ці нахабныя пачаткоўцы-

кантрабандысты, ці барацьбіты з законна абраным канстытуцыйным ладам — тады прыходзілася ўжываць суворую дзягу айчыннага заканадаўства, адбіраючы забароненае да ўвозу нашмат таннейшае за айчыннае сырое мяса ці сала альбо літаратуру і іншыя нехарошыя матэрыялы, якія зневажалі гонар і годнасць першай асобы ў дзяржаве. Але гэта здаралася не вельмі часта — які неразумны будзе перці праз мяжу небяспечную кнігу, калі ўсё зараз можна знайсці ў Інтэрнэце...

Стаяла калісь у мястэчку нават ратуша на Высокім рынку, што яскрава магло б засведчыць сённяшнім месцічам дый нешматлікім покуль гасцям аб старадаўнасці і высакароднасці паходжання G., толькі ж ратушу па вайне разабралі, падмуркі пазалівалі асфальтам — і як бы яе не было, і магдэбургскага права не было, і нічога не было...

Процьма існавала ў мястэчку чыноўнікаў, абласных, раённых і гарадскіх, былых камсамольцаў і сяброў КПСС; гарадскія і абласныя сядзелі амаль вокны ў вокны — адныя па правую руку Леніна, другія — за яго плячыма, ці, каб да канца быць дакладным, за сракай правадыра. Чыноўнікі — і тыя, і тыя, і тыя — баяліся вельмі трох рэчаў: звальнення з працы, магчымага далейшага часовага арышту і — самае страшнае — нечаканай Смерці на аўтобусным прыпынку, таму што Смерць звыкла адразу надыходзіла за першым і другім; уладкавацца куды працаваць на іншую пасаду было амаль немагчыма, і прыходзілася цэлае жыццё па-мастацку гнуцца і падладжвацца пад чарговую грамадска-палітычную сітуацыю альбо прывезенага з Мінска ці Магілёва начальніка, каб даседзець да пенсіі. Ці кралі чыноўнікі і ці бралі хабар — пытанне, на якое магла, каб вельмі схацела адказаць, пракуратура — хутчэй за ўсё так, ды ясна, што так, толькі дурны не браў, а як жа, аб гэтым нават у газетах пісалі — кралі яны і бралі, і так часам адчайна, як быццам не было ні Бога, ні сумлення, ні бацькоў, якія павінныя былі іх выхаваць на нармальных людзей, толькі ж гэтых грошай няможна было нідзе выкарыстаць — ані яхты на іх купіць, ані васьміпавярховай вілы збудаваць, таму і ляжалі яны гадамі, незапатрабаваныя, закручаныя ў цёмна-сіні цэлафанавы пакет з надпісам

«Торговый дом Неман», пад адмысловаю плыткаю-схоўкаю за ўнітазам у туалеце...

Вельмі многа з’яўлялася на цэнтральных вуліцах чыноўнікаў у абед, паміж трынаццатай і чатырнаццатай гадзінамі — усялякіх там Марыяў Міхайлаўнаў і Барысаў Мікалаевічаў, — і, адначасова з імі, вар’ятаў, але да вар’ятаў усе жыхары мястэчка прызвычаіліся і не звярталі на іх увагі. Вар’яты даўно ўпісаліся ў краявід, боўталіся, неахайна апранутыя, па вуліцах, базарах і крамах, ездзілі ў аўтобусах, не плоцячы за праезд, там жа агітавалі за Ісуса Хрыста, блытана называючы яго то Сынам Божым, то Святым Духам, а дзесяць запаведзяў — канспектам, які Бог уручыў Майсею. Вар’яты спрабавалі перараккацца з запісаным голасам дыктара, які па-вясковаму, выкваквачы галосныя гукі, аб’яўляў наступны прыпынак, ці стаялі каля дзвярэй аблвыканкама, здзекліва пытаючы ў кожнага адтуль выходзячага: «Чаму ты не ў камеры?», і асабліва ўжо нічым не адрозніваліся ад людзей пакуль нармальных; вар’яты калолі вочы толькі прыездным, якія не хавалі свайго здзіўлення іх колькасцю і насычанасцю на квадратны кіламетр і каментавалі ўголас: «Такое прыгожае мястэчка... і столькі дурных!»

Вар’яты былі розныя — і камуністычнага накірунку, і рэлігійна арыентаваныя, і сексуальна заклапочаныя, і нацыянальна афарбаваныя вар’яты-радыкалы, і вар’яты дэмакратычныя — дэмавар’яты — апошніх было ці не найбольш, у асноўным выкладчыкаў мясцовых вышэйшых установаў — спітых і спрацаваных парабкаў ад айчыннай адукацыі, філолагаў, гісторыкаў ці медыкаў, але самую вялікую пагрозу вар’яты ўяўлялі пад весну, калі іх хвароба традыцыйна абвастралася, ці калі збіраліся разам пасля якога вялікага напаўафіцыйнага свята альбо нефармальнага мітынгу апазіцыі альбо на чарговыя інтэлігенцкія пасядзелкі ў нячыстай халоднай зале ў сутарэннях былых складоў тытунёвай фабрыкі — яны тады страшэнна лямантавалі, крычалі і з усімі спрачаліся, запырскваючы ўласнаю слінаю ці то аслізлыя сцены ў будынку, ці то парэшткі старажытных вулічных камянёў, ці то вышараваны сотнямі ног лінолеум на малюпасенькай кухні ва ўласнай кватэры-хрушчоўцы...

Зачапілася ў свой час і абцёрлася аб мястэчка колькі там вядомых мастакоў, неблагіх пісьменнікаў і вартых паэтаў, нават з два ці тры тутэйшыя класікі, выдатных музыкаў, аднойчы сам маэстра Святаслаў Рыхтэр, а потым Андрэс Мустанэн са сваім «Хортус музікус» па-майстэрску ўпрыгожылі шыкоўным выступам сцэну аднаго з палацаў культуры, а два рыма-каталіцкія святыя — святы Казімір Ягелончык і святы Максімілян Марыя Кольбэ — калісь штодня хадзілі па местачковых вуліцах як звыклыя шэрыя пярэхадні, і ніхто нават і меркаваць не мог, КІМ яны потым стануць... Але гэта было калісьці, ой калісьці... а зараз... Словам, мястэчка было маленькае, беднае... Стаяла на рацэ... Заносіла сюды часам адно закадаваных ад алкагалізму колішніх СССРаўскіх збяднелых зорак пакрыўляцца пад уласную фанаграму ў збудаваным на былым жыдоўскім могільніку Лядовым палацы, ці сквапных да грошай маскоўскіх артыстаў з лёгка распазнавальнымі серыяльнымі мордамі, ці пачынаючых слізкую спявацкую кар'еру айчынных Жанэтаў, Гюнэшаў, Пятроў, Тодараў ды Лявонаў...

Жылі-дажывалі тут свой век шматлікія вайсковыя пенсіянеры, прывабленыя ў свой час ціхасцю і зялёнасцю гарадка і анацыяналістычнасцю мясцовага паспольства, співаліся і дагаралі самотныя ўдаўцы, а насупраць, дзверы ў дзверы з імі на адной лесвічнай пляцоўцы, жылі жанчыны без мужоў, іх, па статыстыцы, было ажно восем на аднаго самага захудалага і горшага бедалагу, асвойваліся з мясцовымі абставінамі экзатычныя кітайцы і в'етнамцы, лівійцы і жменя асобаў каўказскай нацыянальнасці, паадчыняўшы сумнеўныя рэстараны і кавярні, і існавалі ўсе тутнароджаныя, тыя, хто ў свой час не адчуў, што можна было кудысьці ўцякаць — у Еўропу ці на Усход, а потым ужо было позна, потым толькі трэба было махнуць рукою на свой лёс і пацешыць сябе самога: «А, неяк выкруцімся, да пенсіі дацягнем, павінен і тут жа нехта хадзіць па вуліцах, а там, як трэба, то на плячах занясуць...»

# КАЛІСЬЦІ...

*Ліст да маскоўскага сябра пісьменніка
Валерыя Казакова*

Ты пытаеш мяне, дарагі Валерык, як сталася, што з нашага мястэчка адправіўся ў лепшы свет кароль польскі, вялікі князь літоўскі, не вельмі любімы пыхлівымі падданымі, зарослы барадой па самыя вочы Стэфан-Сцяпан-Іштван Баторый?

Каб табе на гэтае пытанне адказаць, я вымушаны буду, як прыгожа кажуць у нас, пачынаць ад Скідаля.

Дык вось, мястэчка нашае было хоць маленькае, беднае, але ганаровае — са старажытнаславянскага паселішча на ўзгорку даспела і паднялося да годнасці нефармальнай сталіцы Рэчы Паспалітай некалькіх народаў пры венгры румынскага паходжання Стэфане Баторыі, ці, як яго любяць называць сучасныя неафіцыйныя гісторыкі, Сцяпане Сцяпанавічы Батуры. І я, карыстаючыся ў тым ліку і іх досведам, паспрабую табе нешта распавесці пра ягонае жыццё, дзіўную смерць і ўва што гэта вылілася нашаму мястэчку.

Кароль ён быў не дынастычны, а выбарны, запрошаны, як бы зараз акрэслілі — кароль-менеджар. Далі яму паны-шляхта ў якасці бонуса жонку — Ганну Ягелонку — непрыгожую і нашмат старэйшую за яго. Кабецінай Ягелонка была рэлігійнаю, хадзіла да касцёла, гаварыла пацеры, часта і многа спавядалася, а гэтыя самыя рэчы, якімі любяць займацца наважонцы, яе, наколькі спраўджаныя крыніцы падаюць, не цікавілі ўвогуле, так што маладому мужу Сцяпану Сцяпанавічу нічога не заставалася рабіць, ано толькі ваяваць з суседзямі, паляваць ды цішком цёгацца па чужых бабах. Да таго ж ён не гаварыў на «шипучем змеином языке», у сэнсе — не ведаў польскае мовы, затое, на зайздрасць некаторым біскупам, выдатна валіў лацінаю, якая ў шаснаццатым стагоддзі была нейкім аналагам сучаснай прымітыўнай

ангельшчыны, так што падрыхтоўку меў салідную, не ў крыўду сённяшнім некаторым малаінтэлектуальным калгасным паганялам.

Прыехаўшы на сваё новае месца працы, Сцяпан Сцяпанавіч распісаўся ва ўсіх патрэбных паперах, склаў розныя прысягі, раздаў абяцанні і пачаў наводзіць свае парадкі. Фінансавыя справы былі заблытаныя, шляхта з панамі паводзіла сябе нахабна і пляла розныя складаныя інтрыгі, цягнучы дахаты ўсё, што далося ў рукі ўзяць, пры тым строіла з караля здзекі: «Бачыш ты, узяўся кіраваць, а мовы нашае дзяржаўнае не ведае, цыганіска праклятае!» З суседзямі — маскалямі, немцамі, шведамі і туркамі — Рэчы Паспалітай увогуле не пашчасціла, прыходзілася ўвесь час біцца за нейкія малаатракцыйныя гарады і правінцыйныя паселішчы кшталту Пскова ці Апочкі. Бываў я, дарагі Валерык, у тых краях, і дагэтуль не магу ўцяміць — на якую халеру нам былі патрэбныя гэтыя панурыя мясціны, парослыя хмызняком і асакою, з вечна п’яным і гультайскім народам?

Дык вось, хаця Сцяпан Сцяпанавіч Батура з’яўляўся перш за ўсё кіраўніком не самай благой у Еўропе дзяржавы, ваяром і зацятым паляўнічым, але, як сапраўдны мужчына, і на прыгожых жанчынаў таксама знаходзіў і хвіліну і натхненне, і, дзякуючы гэтаму натхненню, распачалася праз некаторы час ва Усходняй Еўропе найвялікшая інтрыга — я маю на ўвазе справу Дзмітрыя Самазванца. Некаторыя сур’ёзныя еўрапейскія гісторыкі лічаць, што Сцяпан Сцяпанавіч быў Зміцеру родным бацькам, а мамаю яму была прыгожая дачка ляснічага з фальварка Кундзін з-пад Сакулкі, людзі так тутэйшыя казалі, а людзі з-пад Сакулкі ніколі не брэшуць...

Сцяпан Сцяпанавіч усё жыццё праводзіў па-рыцарску — у сядле, лічыўся здаровым, моцным, вось толькі адна бяда штодзённа дапякала — чырак наназе, і такі вялікі — часам рабіўся з далонь, і ў бацькі ягонага, таксама Сцяпана, такая ж бяда была, і памёр бацька менавіта ад яе.

А другая бяда — працавалі ў караля Сцяпана ў штаце ажно два дактары, каторых ён мусіў слухацца, адзін — Бучэла, другі — Сімоніюш. Справядліва нехта з нашых

дасціпных паэтаў заўважыў: «Вось такія дахтары вымуць душу без пары» — гэтыя два не толькі душу па кроплі вымалі, але бясконца лаялі адзін аднаго, узаемна абвінавачваліся, слінаапырскваліся, сапернічалі, інтрыгавалі, даносы пісалі ў гродскія суды, прапісвалі каралю дыяметральна супрацьлеглыя лекі і давялі гэтым беднага Баторыя да магілы. У тыя часы дастаткова было паслядоўна слухацца аднаго доктара, каб панурыцца ў дошкі, а тут жа ажно два былі, ды такія ганарлівыя і ўпартыя.

Паміраў кароль Сцяпан доўга і цяжка — яму то рабілася горш, то рабілася лепш, а калі лепш, то ён кідаў усё і ўцякаў у Гарадзенскую пушчу на паляванне, нібы прадчуваючы, што хутка ўжо будзе па ім, пэйгер яму будзе!!!

Так і сталася — дванаццатага снежня 1586 года каля сямнаццатай гадзіны ўвечары ў адным з пакояў Старога Замка з'явілася сумнавядомая цётка з касою і запрасіла слаўнага ваяра ў супольнае вечнае падарожжа, і ён ад нас пайшоў... назаўсёды.

Што пачалося пасля ягонае смерці!!! Не паверыш, дарагі Валерык!

Ён памёр вельмі нечакана для ўсёй Еўропы, у момант пачатку склёпвання вялікае антытурэцкае кааліцыі, таму што тыя туркі, у адрозненне ад цяперашніх, не гандлявалі кебабамі і таннымі скуранымі вырабамі на кожным кроку, тыя туркі вось-вось былі гатовыя без візаў і пашпартоў непрыемна здзівіць Еўропу сваёй колькаснаю прысутнасцю і прымусіць мірных бюргераў падзяліцца часткай свайго набытку — каму б гэта спадабалася? Таму ўсе больш-менш цвяроза рахуючыя еўраманархі на чале са Святым Айцом проста на каленях прасілі Баторыя: «Сцяпан Сцяпанавіч, мы табе і грошы дамо, і нававбранцамі паможамо, і тэхнікай, ты толькі з гэтымі ерэтыкамі разбярыся, нешта пачні рабіць!», і бедны кароль Сцяпан пачаў, толькі запозна...

Ды яшчэ да таго старая Еўропа мела сваіх унутраных ворагаў хатняга гадунку — пратэстантаў, каторыя вельмі не любілі нашую святую маці — рыма-каталіцкую царкву — і яе вернікаў і шкодзілі каталікам па-чорнаму, калі ў тых нешта путнае атрымоўвалася, накшталт антытурэц-

кай кааліцыі. Пачалося гаварыцца ў голас, што ваяўнічага трансільванца атруцілі менавіта яны, лютара-кальвіны, таму што веліч аўтарытэту рыма-каталікоў ім заснуць не давала, і гэта сур'ёзныя людзі сцвярджалі, адукаваныя, не абы-што вам, прытым на еўрапейскіх дварах у кулуарах...

А што рабілася ў нашым мястэчку G. у пакоі замка, дзе перабывалі каралеўскія парэшткі? Тут пачаліся разборкі на мясцовым узроўні — Бучэла абвінавачваў Сімоніюша, а Сімоніюш Бучэлу ў некампетэнтнасці і зламысных дзеяннях у дачыненні да першай асобы ў дзяржаве. Яны лаяліся, аббрэхвалі адзін аднаго і ўжо гатовыя былі хапацца за калы ці рваць штыкеткі з плоту, каб учыніць хамскую бойку, калі раптам хлопчык гадоў трынаццаці па прозвішчы Сняжыцкі, сын селяніна з маёнтка Гарнастаевічы, вучань-выдатнік мясцовай лекарскай школы, мудра ўратаваў сітуацыю. Ён ім так сказаў: «Дзядзечкі, як не брыдка, тут яшчэ чалавек не астыў, ксяндзы з бацюшкамі модляцца, свечкі паляцца, а вы гаўкаецеся... нічога святога!!! Вазьміце лепш свае прымітыўныя хірургічныя інструменты і, пакуль нікога няма, парэжце Сцяпана Сцяпанавіча — там усё ў працэсе і высветліце!»

І што ты думаеш, дарагі Валерык, дзякуючы радзе разумнага падлетка гэтыя два ветэрынары зрабілі першае паталагаанатамічнае ўскрыццё ва Усходняй Еўропе і засталіся прыкладам для патомных і аздобаю нашае медычнае навукі.

Паўстала потым актуальнае пытанне — дзе ж будзе пахаванае цела караля і вялікага князя?

Сам нябожчык вельмі шанаваў нашае мястэчка і хацеў ляжаць у скляпеннях езуіцкага касцёла, які толькі пачалі будаваць на Высокім рынку. І ўсе былі не супраць — і месцічы, і падданыя, і мястэчковыя ўлады, не супраць выказваліся і самыя езуіты — дальнабачныя былі людзі, пралічвалі на некалькі соцень гадоў наперад, ведалі, што такое мартыралагічная турыстыка, але ў справу ўлезла кракаўская мафія на чале са старою непрыгожаю жонкаю Ганнаю: «Якое мястэчка G., які езуіцкі касцёл, што за хам-

ства, што за правінцыйнасць, што за прымітывізм, мы такую пахавальню на Вавелі збудавалі, столькі грошай укінулі, аддавайце цела, бо будзе горш, да Гаагі дойдзем, калі што!»

Так яны палохалі нашых мясцовых з год, і хабары з Кракава вазілі, і дзевак прыгожых падкладалі, і дарагім алкаголем апойвалі, і пасады цікавыя і грашовыя абяцалі, і нашыя лохі нарэшце паддаліся і аднойчы, пасля жалобнай імшы, урачыста адправілі на перакладных парэзанае цела Сцяпана Сцяпанавіча на Вавель...

Не, Валерык, з аднаго боку, я разумею, што парадак ёсць парадак, і калі ўсё высокае начальства ляжыць у горбе ў адным месцы, то зручней усялякія цырымоніі адпраўляць над ім, крапідлапакрапленні, імшы жалобныя і гадавіны, толькі ж у Кракаве столькі іх панапіхвалі пад катэдру, што ў вачах ад нябожчыкаў цёмна, і нецікава робіцца! Дый увогуле, нашых там замнога: на Рынку — стаіць Адам Міцкевіч з Наваградка, на надворку Вавельскага замка — Тадэвуш Касцюшка з-пад Косава на кані сядзіць. Сваіх герояў не было, то бачыш ты іх, хітрыя мазуры, у ліцвіноў пазабіралі...

Хай бы ляжаў Сцяпан Сцяпанавіч у нашым мястэчку, эх, я баюся нават уяўляць, як бы ён тут ляжаў і што б было!!! А то прыедзеш у Кракаў, прыйдзеш да ягонае магілы, а на ёй ані свечкі, ані кветкі, адно малыя венгерскія сцяжкі. Дый туркаў зараз столькі ў Еўропу панапрыпіралася, што так і хочацца крыкнуць галосна: «Дык за што ж нашыя продкі кроў лілі?» Не, не падумай нічога дрэннага пра мяне, Валерык, я там нікога ганяць за Басфор не збіраюся, дый часы не тыя, толькі калі на мяжы Чарнагорыі і Сербіі, у мястэчку Белае Поле, муэдзін нешта незразумелае крычыць з мінарэта, то сумнавата зусім мне робіцца, Валерык...

# БАЙКІ ПРА ТАЯМНІЦЫ, СТРАХІ, ПАДЗЕМНЫЯ ХАДЫ, ЖЫДОЎСКАЕ ЗОЛАТА І СТАРАЖЫТНЫЯ G...СКІЯ СКАРБЫ...

...І адразу ўва ўсіх пачынаюць загарацца вочы, і ўспамінаюцца старазапаветныя легенды накшталт той, што аднойчы малыя дзеці, гуляючы на горцы каля Старога замка, ўлезлі ў нейкую нару, а нара гэтая была не нарой, а толькі падземным ходам, і ішлі дзеці па ім з гадзіну якую, натыкаючыся на куфры з золатам і срэбрам, на шкілеты з мячамі і ў латах, на чарапы і косці, сыпаўся на іх са шчылінаў пясок — страху набраліся на ўсё жыццё, а выйшаўшы з нары, апынуліся на супрацьлеглым беразе Нёмана, акурат паміж домам пробашча Францішканаў і касцельнаю брамаю. І колькі яны ні шукалі гэтае нары на другі дзень, нават з бацькамі, а болей ужо знайсці не маглі. З таго падарожжа засталіся толькі гэтыя ўспаміны і нейкая вельмі старажытная капейчына, якую адзін з дзяцей здагадаўся заціснуць у потнай далоньцы і вынесці на свет Божы, праўда, ён яе нікому не паказваў, а потым яна згубілася...

А вось шляхецкая сям'я О'Брыен дэ Ласі, перад тым як уцячы ад Саветаў у верасні 1939 года, усе свае радзінныя скарбы запакавала ў куфар і закапала пад старою таполяю каля стаўка, а калі праз многа год малодшая дачка прыехала з Аргенціны сюды, то на месцы тапалі стаяла пяціпавярховая хрушчоўка... І малодшая дачка, крыва ўсміхнуўшыся, сказала, што таму экскаватаршчыку, які капаў катлаван пад дом, вельмі пашанцавала...

...А старыя людзі распавядалі, што закрыстыян з Фары Алойзы Камяга, калі быў яшчэ ў кавалерскім стане, аднойчы па нейкіх касцельных справах пайшоў у капліцу Маці Божае Кангрэгацкае, глянуў — ажно акурат каля алтара праселa каменная падлога. Кранўў закрыстыян рукою камяні, а тыя і праваліліся. Пасвяціў Алойзы ліхтарыкам — а там

глыбокая цёмная мураваная яміна, відаць, што падземны ход, і нешта блішчыць на дне...

...А Марыся Маліноўская з Падкрыжакаў бачыла, казалі, апоўначы каля крыжа на раздарожжы нейкага дзіўна апранутага пана, пан у яе папытаў па-польску, як дайсці да карчмы «Раскоша», Марыся перажагналася — і пан прапаў! А як паказалі ёй дзеці малюнак з энцыклапедыі, то пазнала Марыся ў пане памерлага пад канец васямнаццатага стагоддзя падскарбія надворнага літоўскага графа Антонія Тызенгаўза...

...А дырэктар гісторыка-археалагічнага музея знаходзіў штораніцы ў пакоі, дзе дакончыў жыццё Стэфан Баторый, пустыя пляшкі з-пад чырвонага венгерскага віна «Кекфранкош», і што хочаш, тое пра гэта і думай...

...А Зыгмунт Гумянюк з Пярэселкі ўвосень п'яны ўваліўся ў нейкую шчыліну на Нававіленскай, а вылез з гэтае шчыліны ажно на Дзевятоўцы, ля ветэрынарнай лякарні, дзе здаровіць коцікаў і сабак добры доктар Вераб'ёў...

...А Саша Сурык з Гнойнікаў разам з Вовікам Кіслым прапалі аднойчы з горада на тры дні, а калі вярнуліся, то іх ніхто не пазнаў...

Такіх гісторыяў старыя людзі вам могуць нараспавядаць мех з кошыкам, толькі закрыстыян Алойзы Камяга падумае і скажа, што нічога такога не было на яго памяці, колькі ён ходзіць у Кангрэгацкую капліцу... А калі жывуць на Пярэселцы Гуменюкі, то пайдзіце і папытайце — няма між імі аніякага Зыгмунда, і не было ніколі... як і Маліноўскіх у Падкрыжаках — ну смех, дый годзе!!!

І ўвогуле, шаноўныя чытачы, мястэчка нашае беднае, малое, глыбока канфесійнае, якія падземныя хады, якія Тызенгаўзы пад крыжамі, якія скарбы, хопіць ужо гэтай монтэкрыстаўшчыны! Большасць людзей тут спрадвеку ўласнымі мазалямі штодзённа зарабляла цяжкі грош на кавалак хлеба, а ўжо брыльянты і куфры з золатам — скуль ім узяцца, скажэце мне?

Ну добра, можаце пачаць спрачацца вы, беднае яно, малое, яшчэ там штосьці... Але ж не могуць усе месцічы быць беднымі — хтосьці ж, хоць адзін, мусіў быць багатым,

тым больш што ізраэлітаў у нас жыло ці не столькі, колькі каталікоў і праваслаўных разам, а яны, ізраэліты, людзі дасведчаныя, умелі зарабляць на рублі сто рублёў, а на тысячы — мільён. Куды гэтыя сотні і мільёны падзеліся?

Ды не, адкажу я вам — гэта ўсё таксама праўда, як у рэшаце вада! Большасць нашых жыдочкаў ледзь-ледзь дацягвала ад шостага да дваццаць першага, гандлюючы селядцамі з бочкі ці абаранкамі-байгелямі паштучна, так вось яны і мыкаліся з гэтымі селядцамі і абаранкамі ад трынаццатага стагоддзя па нашай зямлі, і не надта, ах, салодкім было іх жыццё, як гэта іншым здавалася, і не было ім чаго асабліва закопваць у глебу, гандлюючы такім таварам...

І колькі, пагляньце, у нашым слаўным G. адбылося падзеяў за няпоўную тысячу год існавання —то літвіны дамовіліся з Каронаю і разам адлупцавалі крыжакоў, то вялікія князі і каралі гасцявалі і жылі ў двух замках — спярша Старым, потым Новым, то шляхта збіралася на розныя паспалітыя рушэнні, сеймы і сеймікі, то грамадзяне Рэчы Паспалітай і шведы, французы і рускія, казакі Хмяльніцкага і крымскія татары, прусы і няведама якая навалач узаемна ганяліся адныя за другімі па нашай зямлі з Усходу на Захад і наадварот, і мардавалі, мардавалі, мардавалі адзін аднаго, і палілі, і знішчалі, і рабавалі, і гвалцілі, і ўсё валілася, гарэла і рушылася, — а ціхія ўпартыя жыдкі, цярпліва перачакаўшы найгоршае — мор, пажары ці вайну, выбіраліся з-пад руінаў, бралі ў рукі ацалелую вязку абаранкаў альбо латок з селядцамі і паволі распачыналі свой няхітры гандаль ад пачатку.

І толькі ў іхнім бізнесе нешта акрэсленае наладжвалася, капейка склёпвалася, як на іх кідаліся, як на грушу, трасці і прыціскаць, свае ж уласныя суседзі-хрысціяне, учарашнія сябры, і так, на жаль, было, пачынаючы ад караля і вялікага князя Аляксандра, і за цара Мікалая, было ў 1935 годзе пры Другой Рэчы Паспалітай, а праз чатыры гады прыперліся першыя Саветы з Усходу, а праз два гады немцы з Захаду, і спярша Саветы загадалі гандлю доўга жыць, а потым усіх жыдкоў немцы змарнавалі ў гета — от табе і на! А схаваных

імі кладаў ці скарбаў ніхто з мясцовых жыхароў ніколі не знаходзіў, як быццам не было іх — ну і ўсё!

Не было дык не было, а толькі аднойчы, калі рабочыя разбіралі стары будынак на вуліцы Карла Маркса і не паспелі раскідаць кафельную печку-галандку, то калі прыйшлі на наступны дзень — з печкі нехта ўжо павыбіваў кафлі, павымаў цэглы і НЕШТА з сабой прыхапіў, бо ляжала на бруднай падлозе бляшаная вялікая скрынка з-пад гарбаты, ясна, што пустая, і толькі...

# ПРА ЛЕНІНАЎ І СТАЛІНАЎ

Бьют часы двенадцать раз —
Сталин думает о нас! —

*гэтымі словамі пачынаўся верш, які мой брат Стась чытаў на вечары ў школе.*

Ленин родился в апреле,
Когда расцветает земля,
Когда позабыты метели
И в рощах цветут тополя, —

*а гэтымі словамі пачынаўся верш, каторы ўжо я чытаў на школьным конкурсе, прысвечаным стагоддзю з дня нараджэння Правадыра.*

З вышэй згаданымі асобамі мястэчка нашае G. аніякімі вузамі звязанае не было. Ані Ільіч, ані Вісарыёнавіч ніколі не паставілі бота ці чаравіка на слаўныя g...скія ходнікі, таксама ніхто з тутэйшых жыхароў з імі за руку не вітаўся, не меў такога шчасця... Знаходзіліся, праўда, напрыканцы дваццатага стагоддзя людзі далёка не маладыя, якія, тым не менш, бессаромна лыгалі, распавядаючы байкі пра тое, што нібы «...стаю я, гэта, браток ты мой, на варце ў Смольным (Зімовым палацы, Крамлі — не памятаю дакладна...), а тут валяцць яны каля мяне, Ленін са Сталінам, як жывыя, адзін з другім, абняўшыся, як браты, а я ў мэтры каля іх стаю...». Байку гэтую я на ўласныя вушы чуў ад нейкага старога, засморканага дзеда ў гумовых ботах, бедна апранутага, марнага, адным словам, дзеда. Відаць, ідэю пра стаянне ў карауле дзеду падкінулі ягоныя больш адукаваныя дзеці альбо кан'юнктурныя ўнукі, каторыя мелі надзею, што дзедавыя расповеды дапамогуць нейкім чынам фінансава падправіць у лепшы бок цяжкае агульнасямейнае становішча. Але дзед пра сустрэчу з выдатнымі бальшавікамі так паскудна і малаўпэўнена распавядаў, што яму не верыў ніхто нідзе, нават, відаць, і ва ўладных калідорах, тым больш

што мода на ленінскія ідэалы паволі праходзіла, носьбітаў і прапаведнікаў рабілася з кожным годам меней і меней, дзякаваць Богу, і толькі рэдкія зацятыя старыя камунякі, падобныя на класічных галівудскіх упыроў, прыносілі на дзень нараджэння пад нос бронзаваму Ільічу бедныя танныя чырвоныя гваздзікі і брыдкія вянкі з самае ніжняе паліцы крамы рытуальных вырабаў.

Пра правадыроў наш працоўны местачковы народ у шырокай масе сваёй мала што ведаў і чуў, таму што да 1939 года жыў на тэрыторыі, часова занятай белапольскімі інтэрвентамі, як пісалася ў палітычнай літаратуры. Свабода прыпёрлася да яго з Усходу ў другой палове верасня 1939 года, і, як неад'емныя сімвалы шчасця і дабрабыту, разам з ёй, апрача «варанкоў» і начальнікаў, прывандравалі на галоўныя плошчы гарадоў і мястэчак мастацкія ўвасабленні гэнае свабоды ў выглядзе помнікаў Леніну і Сталіну, але толькі на пэўны час, да прыйсця немцаў, а потым тыя, калі прыйшлі, прымусілі мясцовых жыдкоў з толькі што зарганізаванага гета гэтыя творы высокага мастацтва знішчыць. Бедная Савецкая ўлада вечна падвойна мусіла фінансаваць свае эстэтычна-прапагандысцкія манументальныя праекты.

Другі раз Леніны і Сталіны прытэпалі ў нашыя мясціны ўжо на час даўжэйшы пасля сканчэння Другой сусветнай вайны ў выглядзе трошкі лепшых бронзавых, адносна неблагіх гранітных і большасці дрэнных гіпсавых копіяў — чым далей ад мястэчка G., тым горшая копія. Напрыклад, у раённым мястэчку S., што прытулілася да ўскрайку Белавежскае пушчы, Ленін тварам увогуле нагадваў мангола-татарскага захопніка — скулы як апалонікі, вузкія шчыліністыя вочы, разяўлены рот — агідны, словам, як чорт!!!

Тым не менш Уладзімір Ільіч лічыўся ў прагрэсіўным свеце непадважальным аўтарытэтам, і была дамова ўва ўсіх бальшавікоў: што б там ні рабілася, але муміі ягонай у Маўзалеі ніколі не зачапаць і дрэннага з ім і яго спадчынай не рабіць. А вось з парэшткамі Іосіфа Вісарыёнавіча пасля ягонае смерці і легендарнага дваццатага з'езда КПСС пачаліся акрэсленыя праблемы. Высветлілася, што ўжо не такі ён быў харошы, мудры і бяскрыўдны, таму спярша

ягоную мумію цішком вынеслі з Маўзалея, і, абадраўшы залатыя пагоны і гузікі з мундзіра, закапалі ля Крамлёўскай сцяны, а потым пачаліся прыбіранні шматлікіх помнікаў, і ў нашых краях таксама...

Вось як гэта адбылося ў мястэчку Р., што адлегла ад нашага мястэчка G. роўна на сто дванаццаць кіламетраў. Ладзіла мясцовая сярэдняя школа баль выпускнікоў — тады гэта афіцыйна было можна рабіць. Ставіліся ў актавай зале на другім паверсе сталы і доўгія шырокія лавы, сталы накрываліся, сядалі да іх настаўнікі, вучні-выпускнікі і іхнія бацькі і балявалі сабе, выпіваючы і закусваючы. Народ наш па вайне не вельмі быў заможны, так што, што маглі зрабіць у хаце — рабілі ў хаце — салаты і вінегрэты, што маглі — куплялі ў краме. А хадзіў тады паміж будынкамі школы ўначы сторaж па прозвішчы Сакалоўскі — пільнаваў, дык добрыя людзі далі яму бутэльку гарэлкі, велізарную місу вінегрэту — хай і табе будзе свята. Стораж годна прыняў пачастунак, падзякаваў, акуратна ўмастаколіўся пад кустамі бэзу, афуярыў гэную бутэльку, закусіў вінегрэтам і заснуў. Праз некалькі гадзінаў прачнуўся — а помніка Сталіну, які стаяў на пастаменце перад будынкам школы, няма!!!

Назаўтра з ранку бедны стораж, прысеўшы ля акна на табурэтку, чакаў прыезду «чорнага ворана», малілася і плакала жонка, і выбіраўся ўжо грамадзянін Сакалоўскі ў магаданскія катаргі, праўда, на працу-такі школу вартаваць хадзіў, але тоячыся, позна ўвечары... Мінуў дзень, другі і трэці, па яго так ніхто і не прыязджаў, і неяк гэта ўсё само сабою тыдні праз два забылася, і капцы — як не было ніколі Сталіна ў мястэчку Р.

Так паціху гэтыя фокусныя бальшавікі сваімі ўласнымі рукамі знішчылі ўсялякі след па волаце, сейбіту і лепшым сябры фізкультурнікаў. І калі яшчэ напачатку пяцідзясятых беларускія мястэчкі і гарады былі ўпрыгожаныя двума абавязковымі помнікамі, то ў сярэдзіне шасцідзясятых застаўся ў нас толькі асірацелы Ільіч. Каля яго мы стаялі ў ганаровым каравуле кожнае дваццаць другое красавіка, яму чыталі вершы, аддавалі салюты, дзякавалі за шчаслівае дзяцінства, пісалі сачыненні і бажыліся быць заўжды

гатовымі змагацца за ягоную справу. Нават дрэвы ў гонар стагоддзя з яго нараджэння пасадзілі, і то самыя найлепшыя — дубы!

Прайшлі гады, дубы папрымаліся і скінулі ўвосень першыя жалуды з галінаў, ды вось толькі нешта ў Савецкім Саюзе перастала дапасоўвацца, даклейвацца і прыцірацца, і ён пачаў паціху-паціху, але развальвацца. Заўсёды, калі ў Саюзе адбывалася нешта не так, то найбольш зацятыя яго адвакаты і нахлебнікі — гультаі з партбілетамі ў кішэнях — верашчалі пра перабудову, пра вяртанне да ленінскіх нормаў партыйнага жыцця, да ленінскай прастаты і шчырасці. Толькі ж пазнаходзілася на той час дастаткова гісторыкаў у акулярах з тоўстымі шкелцамі, каторыя ўсе свядомыя сталыя гады праседзелі паміж пыльных паліцаў у архівах, і такога там панаадшуквалі, і пра каго б вы думалі — пра самога Леніна, і не пакінулі ад гэтай ягонай кіношнай прастаты і тэатральнай шчырасці нічога.

Півахлёб і ўдзельнік доўгіх словаблудных дыскусіяў у швейцарскіх кавярнях, нямецкі шпіён і здраднік інтарэсаў Вялікай Расіі, аматар палявання на бяскрыўдных перапёлак і шэрых зайчыкаў, крывавы кат расійскіх рабочых і сялян, педафіл, жыдамасон, каханак Інэсы А. — уся гэтая пікантэрыя вылівалася са старонак газет у неўскаламучаныя душы працоўных СССР і знявечвала ўшчэнт просты і ясны воблік найчалавечнейшага з чалавечных. І такога народ свайму нядаўняму герою і правадыру, увасабленню разнастайных ідэалаў, ужо ніколі не дараваў. Помнікі Леніну пачалі абліваць фарбаю і шмаравідлам, пісаць на пастаментах чырвоным спрэем «Пидар и казёл», у мястэчку S., што ляжыць на паўночны захад ад мястэчка G., невядомыя злачынцы адбілі ачольніку сусветнага пралетарыяту галаву, і так ён стаяў колькі месяцаў безгаловы, пакуль не прыляпілі другую.

У мястэчку Р. — сталіцы Палесся — нехта пусціў чутку, што ў галаве бронзавага Леніна, якога ўвесь горад называў Гоблінам, утварылася невялікая дзірка, туды падчас дажджоў паволі зацякае вада, а калі прыйдуць маразы, то Гобліна разарве на кавалкі. Чутку паўтарылі па рэспубліканскім радыё, і ўжо назаўтра з гаркама партыі прыбеглі спалоханыя

таварышы з драбінамі і пачалі сантыметр за сантыметрам даследаваць і галаву, і ўсё астатняе.

А ў мястэчку Р., там, дзе вартаўнік Сакалоўскі прамяняў помнік Сталіну на гарэлку і місу вінегрэту, таксама адбылася гісторыя з помнікам Леніну. Юрак Антолькінаў і Антачак Васюкевічаў, два старыя сябры, добра нарэзаўшыся, узялі кожны ў рукі па велізарнаму калу і пайшлі ўначы звальваць Збуя (бандыта, разбойніка) — так у мястэчку гэты помнік называлі.

Білі-білі каламі, а ён, хоць і гіпсавы, трымаецца! Тут сторож надышоў, пачаў свяціць ліхтарыкам, лямантаваць і палохаць міліцыяй — яны пакідалі калы і паўцякалі. Адбілі Леніну толькі вялікі палец на руцэ, якой ён паказваў наперад. Замест пальца застаўся стрычаць кавалак іржавай арматурыны, і так бы Ленін з гэтаю арматурынаю стаяў, ды нейкі начальнік загадаў аднавіць палец, і мясцовыя ўмельцы зляпілі Ільічу новы, ды толькі завялікі, разы ў паўтара большы...

І Юрка, і Антачка даўно ўжо няма, занеслі іх на плячах на могілкі пад Заполічы, а Янушак Мацеенчын, штовечар абыходзячы вартаю свае аб’екты, кідае вокам час ад часу і на помнік Леніну. «Што, Янушак, — пытаюся я ў яго, — баіцца начальства, каб Юрак з Антачкам не ўсталі з магілаў і не звалілі Леніна?»

Янушак у адказ толькі пасміхаецца...

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ПАХАВАННЯ

*Памяці майго прыяцеля*
*Віктара, які калісь скончыў*
*школу ў мястэчку G.*

Дзіўна: усе людзі, пакуль жывуць на свеце — то яны розныя: і высокія, і лысыя, і худыя, і гаркавыя, і брыдкія, і смешныя, мужчыны і жанчыны. Дык чаму ўсе пахаванні як дзве кроплі вады падобныя адно на адно?

Ну памёр чалавек, ведалі ўсе, што павінен памерці, таму што рак лёгкіх ці падстраўнікавая залоза — гэта вам не абы-што, памёр, дзякаваць Богу, ва ўласным ложку, у прысутнасці жонкі, другой ужо па ліку, праўда, але законнай! Прыехала «хуткая дапамога», канстатавала скон, у морг не забіралі, таму што і так усё было ясна... І вось ляжыць нябожчык у навюськім касцюме ў труне пасярод уласнае, нядаўна адрамантаванае трохпакаёвае хрушчоўкі, у паветры пахне фармалінам і хвойкаю, патрэскваюць свечкі, і тут пачынаецца...

Спярша ў дзвярах з'яўляюцца дочкі, адна ці болей, якія пры бацькавым жыцці рэдка ставілі нагу на парог хаты, маючы прэтэнзіі да бацькі, чаму ён да канца тэрміну не дацягнуў з мамаю, а пайшоў да іншае кабеты. Адразу ля труны ўзнікаюць вялікія непрыгожыя вянкі са стандартнымі бяздушнымі надпісамі «Дорогому любимому папе от дочери Ани и её семьи», святочнага выгляду шасціканцовы крыж з залатымі палоскамі і таблічка з інфармацыяй, хто пад ім будзе ляжаць і абуджаць у нас вечную памяць. Дочкі будуць стабільна плакаць і мяняць кожныя некалькі гадзінаў MP3-фарматную плыту з хрысціянскімі песнапеннямі на такую ж, але іншую. Нікому там асабліва не ўваб'ецца ў вушы, што песнапенні не заўпакойныя, а велікодныя — у такіх дробязях зараз ніхто не сячэ, — ну спевы як спевы. Будзе паціху падцягацца народ, прыносіць хто што — хто вышэй згаданыя гадкія пластыкавыя вянкі рознага колеру, якасці і

цаны, а ў каго лепей з густам — той акрэсленую колькасць хрызантэмаў ці белых гваздзікоў, перавязаных чорнаю стужкаю. Потым тут жа, пры труне, нехта пачне абавязковую размову пра тое, як добра сябе нябожчык пачуваў некалькі дзён таму, як выгульваў сабаку ці купляў яблыкі на базары, як на Новы год вазіў унука на санках... і тут раптам, на табе!

Усе згодзяцца, што выглядаў някепска і мог бы яшчэ пахадзіць па вуліцах, але, ну што зробіш, ад лёсу не схаваешся, і мы калісьці там будзем... І затым размова ізноў пераскоквае на нейкую іншую тэму, зусім далёкую ад сённяшняй, на палітыку, на цэны і надвор'е, як быццам не будзе іншае хвіліны, каб пра гэта пагаварыць. Народу пад вынас пачне значна прыбываць, у хаце зробіцца зусім душна, і ты пойдзеш на вуліцу глытнуць свежага паветра. Паміж першым і другім паверхам вы разміняцеся з бацюшкам у цывільным гарнітуры — бацюшка прыйшоў служыць паніхіду ў хату, хаця лепей і сапраўдней выглядала б гэта ў царкве. Па прыходзе бацюшкі ўсе тыя, каму трэба было сыходзіць, а не было як, вырвуцца ўслед за табою на маленькі надворачак перад пад'ездам і першаю справаю пачнуць моўчкі прагна курыць, потым паціху пазнікаюць, як бы іх і не было зусім.

Бацюшка перад пачаткам службы пажартуе з дачкой, па-добраму ўсміхнецца — ясна, што ён хоча неяк прыабадзёрыць сваякоў — толькі ля расчыненай труны гэта будзе выглядаць больш чым дзіўна. Потым пачне адпяванне і сам сабе будзе і за папа, і за дзячка, таму што людзі, якія спалохана рассунуліся па кутках у кватэры, могуць толькі хрысціцца, а абрадаў і ўсяго астатняга не ведаюць — тут родную мову мала хто ведае, а пра царкоўнаславянскую — не кажы не гавары!!!

Потым ужо, пасля сканчэння паніхіды, бацюшка пачне раздаваць загады, як і што выносіць з кватэры ў першую чаргу, куды крыж, куды вянкі, куды вечка. Цёткі і дзядзькі хуценька паразбіраюць і пазносяць гэтае дабро да машыны, і пачнецца складаны працэс вынасу труны з нябожчыкам. Калі гэта робяць хлопцы з пахавальнай канторы, то працэс доўга не трывае, горш, калі за справу хапаюцца дылетанты, тады некаму абавязкова прыціскаюць пальцы на руцэ,

некаму парвуць і запэцкаюць куртку, але труна ўсё роўна прывандруе ўніз, да ўвахода, ці, правільней выказацца, выхаду з пад’езда...

...Бабуля старая, ну вельмі старая, сядзіць ля суседняга пад’езда і выграваецца на сонцы, дзеці ці ўнукі штодзень, калі надвор’е спрыяльнае, зводзяць яе пад рукі з чацвёртага паверха і зносяць ёй кіёчак і лёгкую табурэтачку, яна сядзіць, моўчкі назіраючы за нашымі дзеяннямі, за мітуслівым рассоўваннем вянкоў па машынах — вянкоў вельмі многа, аж занадта, і хіба ціха радуецца, што зносяць не яе, яна вельмі хоча яшчэ жыць, а мы ўсе не разумеем, чаму і нашто... Яна хоча жыць проста так, без высокіх словаў і тлумачэнняў, таму што сядзець на табурэтачцы з кіёчкам у сто разоў лепш, чым ляжаць у труне, нават у замежным дарагім гарнітуры і лакіраваных чаравіках.

Мясцовыя новыя могілкі больш падобныя не на могілкі, а на пакой адпачынку на чыгуначным вакзале, дзе на некалькіх квадратных метрах нерухома ляжаць дванаццаць ці пятнаццаць асобаў. Помнікі на магілах пераўзыходзяць адзін другога памерамі, формамі, надпісамі і колькасцю ўкладзеных грошай, здаецца, жывыя хацелі кампенсаваць нябожчыкам усё тое, што калісьці маглі, а так і не далі. Ад месца вечнага супакою нават і не пахне вечным супакоем, мітусня і нервовасць штодзённага жыцця дабраліся сюды і, як шашаль паліцу, патачылі і пагрызлі веліч і сум гэтага невясёлага кавалка поля... Побач рухлівая галосная шаша, а за шашою ўвесь час сыкаюць, пішчаць і ляскаюцца манеўровыя паравозы...

На могілках раптам адчайна зазіхаціць сонца і разам паляцяць у паветры малыя павучкі на павуцінні, чапляючыся за галовы і насы прысутных, за вянкі, нядбайна зваленыя ля адкрытай магілы, за крыжы і крыжыкі — а на двары канец кастрычніка, і ўсе прысутныя яшчэ раз упэўняцца ў тым, якое прыгожае гэтае жыццё, і зразумеюць, чаму старая бабуля на двары перад суседнім пад’ездам так не хоча паміраць...

Пачынаецца канчатковы этап развітання з нябожчыкам. Нехта з пахавальнай каманды, хто больш-менш валодае словам, стае каля труны і з паперкі агалошвае біяграфію

нябожчыка: дзе, калі і што. Потым слова бярэ калега з апошняга месца працы, гаворыць вельмі ціха, запалохана і каротка, відаць, што такія рэчы ён робіць ну вельмі рэдка... Потым запаноўвае маўчанне. Удава незразумела каму, нібы сама з сабою размаўляючы, выціскае з сябе: «Можа, яшчэ хто хоча што сказаць?..» Але ніхто нічога не хоча, усё і так ужо ясна, толькі зіхаціць нязвыкла сонца і апантана нясуцца ў апошняе ў гэтым годзе падарожжа «кудысьці» маленькія адважныя павучкі.

Бацюшка, той самы, што быў на кватэры, падыходзіць да труны, кажуць, ён малайчына і вялікі разумнік, кандыдат філасофіі, выкладае ў новапаўсталым тутэйшым універсітэце, толькі калісьці рассварыўся са сваім праваслаўным начальствам у Жыровіцах і перайшоў да ўніятаў. Бацюшка прапануе сваякам развітацца з нябожчыкам, апырсквае яму і труну святою вадою і пачынае «Вечную памяць». Хлопцы-пахавальшчыкі зашрубоўваюць труну і ўсталёўваюць яе на нейкім прыгожым чатырохвугольным прыстасаванні з нержавейкі, пастаўленым над магільнаю ямаю, адзін з іх націскае на прыстасаванні адмысловы прыціск — і труна сама, вельмі, ну вельмі паволі, апускаецца, з’язджае ў магілу. Усе прысутныя проста слупянеюць ад уражання, а магільшчыкі задаволена разбіраюць прыстасаванне і хапаюцца за рыдлёўкі. Тры жменькі зямлі ўласнаю рукою трэба яшчэ кінуць у яму на вечка і адысці, каб даць магчымасць зрабіць гэта іншым. Хлопцы з рыдлёўкамі тым часам борздзенька закідваюць твайго сябру рыжаю зямлёю і фармуюць прыгожы бугорчык з крыжам, які потым прафесійна абстаўляюць вянкамі і букетамі кветак: ад сям’і і дачок — у галаву, усе астатнія — у ногі... Удава запальвае свечку і ўсталёўвае яе на магілу...

Доўга, вельмі доўга збіраюцца людзі на памінкі, кагосьці трэба па сто разоў угаворваць, хтосьці не можа, бо з працы адпрасіўся толькі на пару гадзінаў, а гэты тое, а гэты гэтае. Урэшце прыходзяць усе, нават тыя, каторыя бажыліся і кляліся, што не змогуць, і ў зале маленькай кавярні палаца культуры будаўнікоў раптам не стае месца. Афіцыянты пачынаюць даносіць крэслы і дастаўляць талеркі з нажамі

і відэльцамі. Нарэшце апошні прыйшоўшы ўцісквaецца паміж бабулькамі, і можна пачынаць хаўтуры. Першая чарка, нейкія словы, другая чарка, ізноў нейкія словы, на гэты раз ты гаворыш, і разумееш, што не так, крыху не тое трэба было казаць... гарачае, трэцяя чарка, і ўсё гэта неяк паязычніцку, хутка, мітуслівa, непатрэбна, як быццам нябожчык быў нічога не вартым нулём, а не дырэктарам неблагога малога прадпрыемства. Высвятляецца паміж чаркамі, што ёсць у машыне да мястэчка G. месца і праз пятнаццаць хвілін трэба ехаць.

Едзем — кіроўца спяшаецца, каб да вечара патрапіць у Скідаль — ён працуе на цукровым заводзе і мусіць у 20.00 выйсці на працу. Едзем — у машыне, апрача цябе, родны і стрыечныя браты нябожчыка... Слонім, Зэльва, заскокваем у Ваўкавыск, Рось... Воўпа... Лунна...

Потым ужо, месяцаў праз некалькі, высветліцца, што нябожчык не напісаў тастаменту, каму і што трэба будзе аддаць па ягонай смерці, хоць абачлівая жонка і прасіла яго: «Віця, ну на ўсялякі выпадак...», але ён махаў рукамі і аднекваўся: «Адчапіцеся ад мяне, самі, калі што, разбярацеся!», але неяк так адразу ж пасля пахавання на бедную ўдаву накінуліся ўсе — і дочкі, і браты нябожчыка — і пачалі разбірацца, і канца гэтым разборкам няма, а нібы ўсе такія ціхія і харошыя былі...

А пакуль што мы вяртаемся і нічога яшчэ пра гэта не ведаем...

Воўпа...

Лунна...

І, уязджаючы за мястэчкам Лунна на мост цераз Нёман, ты ўспомніш, як твой сябра-нябожчык любіў тут хадзіць са спінінгам уздоўж берага, асабліва вясной, калі на закінутых футарах у здзічэлых садах апантана белым і ружовым цвілі грушы, аж да Дубна пехатой даходзіў ад гэтага моста, і па-дзіцячаму ўсміхаўся, калі нешта такое больш кілаграма яму на блясну траплялася, як ён любіў гэтую вясну, які ён быў маўчун і нават радаваўся моўчкі. Не дуры сабе галавы, спі спакойна, Віцька!!!

# ХВЕДАР МІКАЛАЕВІЧ І САБАКІ

Працаваў калісьці ў нашым яшчэ тады старым драматычным тэатры ціхі, малапрыкметны, у гадах ужо дзядзька, Хведар Мікалаевіч, працаваў рабочым па абслугоўванню будынка — існавала такая калісьці пасада. Ніхто пра яго нічога дрэннага сказаць не мог — чалавек быў як чалавек, не горшы за іншых, а за іншых крышку і лепшы, рабіў і выконваў тое, што яму дырэктар загадаў, падмазваў і падлепліваў, вычышчаў і разломваў — ва ўрослым у зямлю ветхім драмхлеўчуку часоў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага працы яму заўсёды хапала. І было ў жыцці ягоным адно вялікае захапленне — вельмі любіў Хведар Мікалаевіч здымацца ў мастацкім кіно, а паколькі ён выглядаў абсалютна народна, тыпова, ненайграна, то асістэнты рэжысёраў са шматлікіх кінагрупаў, і беларусьфільмаўскіх, і маскоўскіх, улетку акупуючых мястэчка G., ахвотна запрашалі яго ў эпізоды, і Хведар Мікалаевіч пагаджаўся, дый грошы за ўдзел у кіназдымках плацілі ў васьмідзясятыя гады дваццатага стагоддзя не самыя малыя...

У дабралюбаўскіх слынных «Белых росах» ён проста па-майстэрску ідзе па ходніку, штораз абганяючы дурнаваценькага п’янаватага галоўнага героя, і ідзе мудра, упэўнена, засяроджана, падымаецца па вуліцы да Высокага рынку і знікае, растварыўшыся ў натоўпе такіх жа мудрых і засяроджаных пярэхадняў, — умеў нябожчык народны артыст рэспублікі Ігар Дабралюбаў выстройваць кадр і працаваць з непрафесійнымі выканаўцамі! Гэты эпізод у выкананні Хведара Мікалаевіча бачылі ўсе жыхары вялікай і магутнай краіны, не ўсе толькі ведалі, што мудры пярэхадзень — не змучаны славаю сталічны артыст, а сціплы тэхнічны працаўнік драмтэатра...

Любіў Хведар Мікалаевіч тэатральнае мастацтва, і не саромеўся ў гэтым прызнацца, і часта, калі на тэатральных банкеціках яго прасілі сказаць слова, ён нетаропка падымаўся з крэсла і, падумаўшы, пачынаў: «Я очань

люблю ціятар...» — гаварыў ён глухавата, бэз усмешкі, з незнішчальным усходнебеларускім вясковым акцэнтам, ні на каго не гледзячы, заглядаючы хутчэй у сябе самога, але гаварыў проста, даходліва, без з'едлівых інтэлігенцкіх адступленняў і метафараў, і яго слухалі і заслужаныя артысты, і народныя, і ўсім гэта падабалася.

А яшчэ ён быў франтавіком і меў сур'ёзныя ўзнагароды — ордэны і медалі, але ніколі нікому не ўспамінаў, дзе і за што які ордэн атрымаў, і ўсе лічылі гэта праявай ягонае сціпласці — а што, вельмі нармальны чалавек, бо не любіць жа хваліцца мінулым... Усякае на вайне бывала, можа, цяжка яму варочацца да тых падзеяў, што адбыліся сорак з нечым год таму, і ніхто яго асабліва не церабіў і не выпытваў, тым больш, што фантазёраў-аматараў распавесці пра свае нязвыклыя вайсковыя подзвігі тады ў Краіне Саветаў хапала і без Хведара Мікалаевіча...

Памёр Хведар Мікалаевіч ці то напачатку вясны, ці то позняю восенню — не памятаю, гэтыя дзве пары так у нашым мястэчку G. падобныя, што зблытаць іх лёгка. Пайшлі мы, маладыя акцёры, дапамагчы родным на паховінах — мужчынскія рукі ў такіх справах заўсёды прыдатныя — прыйшлося і вечка, і труну з нябожчыкам падаваць у акно, бо дзверы ў старой камяніцы за мурамі касцёла Францыска Ксаверыя былі занадта вузкія. Прыехалі на могілкі — і тут пачаліся рэчы неверагодныя! Хведара Мікалаевіча з'явіўся выпраўляць у апошні шлях узвод ганаровае варты — маладыя аднолькавыя салдацікі-першагодкі ў непамерна доўгіх шынялях і кірзавых ботах з аўтаматамі Калашнікава і старшы лейтэнант-начальнік з імі. Салдаты па камандзе спярша тры разы стрэлілі халастымі ў паветра, у нізкае шэрае неба з набухлымі дажджом хмарамі, а потым, калі магільшчыкі засыпалі труну і змайстравалі рыдлёўкамі бугорчык, прайшліся, высока задзіраючы боты і месячы імі раскіслую брудна-жоўтую зямлю, урачыстым маршам каля магілы...

Людзей на пахаванні было нямнога — сваякі, суседзі, мы, маладыя артысты, і нейкія дзве дзіўныя кабеты, бабулькі пасляпенсійнага ўзросту, вельмі блага апранутыя. Адна з іх маўчала і ўсхліпвала, а другая, пакуль закопвалі

Хведара Мікалаевіча, хадзіла па суседніх магілах і пяшчотна папраўляла там пластыкавыя кветкі, прыгаворваючы па-руску: «Вот, может, когда кто и мне на могилке цветочки поправит...»

А ўжо потым, гады праз тры, я ўспомніў, што Хведар Мікалаевіч вельмі ўмеў, як ніхто іншы, абыходзіцца з нашымі тэатральнымі сабакамі, што прыбіваліся маленькімі да дзвярэй службовага ўвахода, а міласэрныя цёткі-вахцёршы даглядалі іх і кармілі, бо з сабакам уначы ўсё ж не так боязна хадзіць па цёмным двары і турзаць шматлікія дзверы — ці не адамкнуў, не дай Бог, хто!

Хведар Мікалаевіч з сабакамі вытвраў сапраўдныя цуды! Па загадзе Хведара Мікалаевіча яны станавіліся на тыльныя лапы, падавалі голас, клаліся на гарачы чорны асфальт, паўзлі і сядзелі. Ніхто не мог зразумець, чаму ў Хведара Мікалаевіча так атрымоўвалася вывучваць сабак, і ніхто не зразумеў ніколі...

# HORTUS MUSICUS

Яны завярнулі да нас дзесьці ў сярэдзіне васьмідзясятых зусім прыпадкова, спяшаліся кудысьці ў Еўропу, а завярнулі таму, што мястэчка нашае стаяла на чыгунцы паміж Санкт-Пецярбургам і ўсёй астатняю часткаю Старога кантынента, і мабыць, ці не камерцыйны дырэктар падпавёў Мустанэну гэтую ідэю: «Андрэс, тут па дарозе мы маем філарманічную кропку на пяцьсот месцаў, дык, можа, спынімся і накосім крыху бабла, насельніцтва неблагое, людзі збяруцца», на што меланхалічны Мустанэн згадзіўся, таму што які сапраўдны эстонец не любіць славу і грошы!!!

Гледачоў сапраўды набегла, назбіралася поўная зала — «Хортус музікус» быў вельмі вядомым музычным утварэннем, ці не адзіны іграў старажытную музыку і залічыў на свой рахунак некалькі вельмі харошых плытаў. Да таго ж нельга абмінуць яшчэ адну істотную дробязь — увогуле ўсе славяне, ды і неславяне таксама ў былым СССР, мелі нейкі дрэнны, непрыхаваны комплекс прыніжанасці і непаўнавартаснасці перад маленькімі, дробненькімі, як грэчка ці мак, прыбалтыйскімі народцамі і лічылі іх, прыбалтыйцаў, інтэлектуальна і маральна вышэйшымі за сябе — немагчыма было зразумець чаму. Нават ролі фашыстаў ва ўсіх савецкіх фільмах салідныя маскоўскія рэжысёры-камуністы даручалі выконваць літоўскім, латышскім і часам эстонскім акцёрам, а зайграць фашыста ў тыя гады мог толькі акцёр з добра ўмэбляваным апошнім паверхам...

Ці былі прыбалты інтэлектуальна вышэйшыя за нас усіх — можна паспрачацца! Яны былі трошкі не такімі, як мы, інакшымі — інакшымі, можа, таму, што дагэтуль гаварылі паміж сабой на незразумелых, але родных мовах, а можа, таму, што іхнія Рыгі, Таліны і Вільнюсы на простага, задушанага будаўніцтвам камунізму і чэргамі савецкага чалавека-мураша з-пад такога Яраслаўля ці Вялікіх Шышкавіч рабілі забойча-пахавальнае ўражанне, а можа, таму, што нас, народжаных за Саветамі, як бы гэта смешна

цяпер ні гучала, падсвядома душыла сумленне за анексію Літвы, Латвіі і Эстоніі ў 1940 годзе і далейшыя, ну зусім непрыгожыя справы ў адносінах да бяскрыўдных і ні ў чым не вінаватых жыхароў, рыбакоў, сыравараў і земляробаў, а яшчэ, можа, таму, што мы мелі ідэалізаваную надзею, што савецкая зараза, якая праела ўсю нашу чалавечую існасць, іх неяк абышла ці з большага абмінула бокам...

«Хортусмузікусы» ўвайшлі на сцэну ўсе як адзін нязвыклыя, прыгожыя, барадатавусатакучаравыя, адмыслова апранутыя ў нешта выдатна-неакрэслена сярэднявечнае, з дзіўнымі дудкамі і скрыпкамі ў руках, быццам родам як не з нашага свету, гэткія Каперфільды ад музыкі, разгледзеліся хвілінку, абуладкаваліся ў прасторы, селі, памаўчалі, паўсміхаліся — і пачалася містэрыя!!! Мустанэн нешта такое са страшэнным акцэнтам ціха распавядаў, а яны гралі і спявалі, Мустанэн ізноў распавядаў, а яны гралі і спявалі яшчэ лепш — публіка вар'яцела і не шкадавала далоняў — музыкі адрываліся ад інструментаў і годна аддавалі паклон, найшыкоўней гэта рабіла цяжарная (было заўважальна) клавесіністка. Яна сачыла ноты ў акулярах, але калі трэба было кланяцца, то ўставала... і акуляры цудоўным чынам знікалі з яе твару — ці не ў рукаў хіба яна іх хавала, чорт ведае — і, мусіць, не адзін я дагэтуль памятаю пра той фокус з акулярамі і не магу яго разгадаць. Свята цягнулася і цягнулася...

Толькі ж было ў гэтай ва ўсёй гісторыі адно «але»... На самым пачатку канцэрта прыехала здымачная група з нейкага тэлебачання, запаліла ліхтары, хуценька ўсё відэазафіксавала і гэтак жа непрыкметна знікла, а на сцэне застаўся толькі адзін аператар з камераю... Быў ён маленькі, доўгавалосы, апрануты дастаткова рызыкоўна, бо па модзе 1976 года — штаны-клёш ад калена прыблізна 32 сантыметры, марынарка ў абліпку з вялізнымі каўняровымі адваротамі — адзенне не прасавалася хіба з паўтара месяцы, туфлі на высокіх абцасах, а камера ягоная была з ручною накруткаю, як савецкая турыстычная брытва, і гадка стракатала і гучна шалястала, бы камбайн у полі падчас жніва. Хадзіў аператар па сцэне гаспадаром, перасоўваўся і стаяў дзе хацеў і здымаў калі

хацеў, што прыносіла мала радасці гледачам і слухачам, а як ужо пакутаваў Мустанэн, як на яго і ягоную драндулету з нянавісцю выразна паглядаў, робячы адмысловыя паўзы!!! Але той поўзаў і сістэматычна накручваў камеру аж да тае пары, пакуль у яго не скончылася плёнка ў касеце, пасля чаго ён знік, знік як нячысты дух, разам аблегчана ўздыхнула зала, і павесялеў маэстра Мустанэн, і вельмі ж цёпла і мажорна скончыўся канцэрт, і былі кветкі, і нават расчуліліся суворыя эстонцы і дадаткова разы са два нешта яшчэ зайгралі... Болей яны ў наша мястэчка не прыязджалі, а шкада, маглі б...

# ЯН-ПАВАЛ ДРУГІ

Такога другога Папы ніколі больш не будзе. Як не будзе другога Нотр-Дам дэ Пары, другога Гендэля ці другога адкрыцця Амерыкі...

Яго дагэтуль па-ціхаму ненавідзяць, быццам Ён жывы і ходзіць па Зямлі, дагэтуль Яму не могуць дараваць, што як гэта Ён, Паляк, а так разварушыў і раскалыхаў згрыбелы і апатычны італьянскі Ватыкан, прымусіў гэтых неразваротлівых аматараў спагеці баланэзэ і чырвонага віна бегаць і лётаць мушкамі, а рыма-каталіцкую царкву з запыленага музейнага экспаната пераўтварыў у магутную і дынамічную структуру... І ўсё роўна клірыкі за Ім не паспявалі, як быдла з анекдота за будаўнікамі камунізму, што крочылі сямімільнымі крокамі ў будучыню. Яго ненавідзяць за тое, што Ён, просты хлопец з заходнегаліцыйскага мястэчка Вадовіцэ, славянін, уласнымі рукамі і розумам выкаваў ашаламляльную кар'еру, калі служэнне Пану Богу можна назваць кар'ерай, — гэтага Яму ніхто дараваць не можа.

А дзе традыцыя, дзе інтрыгі, лазня і голыя мараканскія дзеўкі ў басейнах, дзе трохлітровая банька самагонкі і сала з вёскі ў абмен на кампрамат у тоўстай сіняй тэчцы, падстаўлянне розных інтымных месцаў у абмен на пропуск на чарговую, ужо вышэйшую прыступку, дзе той шлях, якім ідуць і з якога не збочваюць усе ўладу трымаючыя? Яксьці і без гэтага абышлося... Ён, Караль Вайтыла, разварушыў не толькі Ватыкан, а цэлы свет, і свет вымушаны быў усе дваццаць сем гадоў ягонага пантыфікату лічыцца з Папаю і падладжвацца пад ягоны графік...

У Яго і стралялі, і труцілі, і сам Ён ногі ламаў, паслізнуўшыся, а ўсё роўна — ачомкаецца, дойдзе паціху да сябе — у самалёт — і наперад, у якую там Дамінікану ці Манголію, і пачынаюцца шматтысячныя багаслужбы, казанні, сустрэчы, супольныя малітвы, а людзі ад Яго проста шалеюць, а моладзь Яго спатыкае, нібы рок-зорку.

От, хай бы сядзеў у сваім папскім палацы і паказваўся з акна па святах, урбіў і орбіў, дык не — вось ужо гэтая праклятая пшэцкая зацятасць!

Таму калі Ён памёр, то з палёгкаю і адначасова ўздыхнулі і ў Маскве, і ў Рыме, толькі простыя людзі, звыклыя каталікі, пазбіраўшыся ў касцёлах па ўсім свеце, плакалі, як дзеці малыя, асірацелыя назаўсёды пасля смерці бацькі, і па сто разоў адгаворвалі «Анёл Паньскі».

Яго вельмі любілі Людзі, таму што Ён верыў у тое, што гаварыў, верыў шчыра сам і прымушаў Людзей паверыць таксама, і зрабіцца лепшымі, і жыць крыху інакш. І Ён не лыгаў — Людзі не пераносяць лыгачоў, барані Божа, асабліва тых, што, узлезшы на амбон ці трыбуну, спрабуюць нечаму адтуль павучаць, самі не маючы аб гэтым зялёнага паняцця.

Яго шанавала і лічыла ў дошку сваім польская творчая інтэлігенцыя, юдафільская, рассвараная, памешаная на халакосце і Едвабным, пагардліва лічачы свой уласны народ «народцам» і зборышчам ашаломаў і прыдуркаў, антыпатычна і па-лявацку настаўленая да каталіцызму і касцёла як органа атуманвання розуму — Яна-Паўла яна проста абагаўляла, а якія небыліцы і легенды пра Яго распавядалі пасля трэцяе чаркі на лібацыях і пасляканферэнцыйных банкетах, з якім смакам і шармам...

Але таксама, як і ўсім людзям на свеце, Ён вельмі быў патрэбны тут, у нас, на Беларусі — здавалася, ужо ва ўсіх Зімбабвах і Карэях бачылі Яго, а калі ж сюды прыедзе, чаму Яго гэтыя заразы не пушчаюць? І нібы здагадваліся чаму, толькі кожны баяўся ўслых сказаць.

А колькі разоў на розных пілігрымках ці сустрэчах на пляцы святога Пятра над тысячамі сабраных годна лунала і кідалася ў вочы густоўная прыгожая расцяжка, напісаная па-беларуску: «Ойча Святы, Беларусь чакае цябе!!!», ці папольску «Grodno czeka na przyjazd Ojca Świętego!!!», што, пэўна, Ён яе бачыў і так сабе меркаваў: «Ну, можа, у гэтым годзе не, а ў наступным мушу наведаць і Беларусь, і Гародню з Мінскам і Магілёвам, папрашуся, можа, на гэты раз візу адчыняць?» Але неяк маладая беларуская ўлада ні запрашэнняў Папе не дасылала, ні візы не хацела адчы-

няць, можа, саромелася, што Папа, пралятаючы з Мінска да Смаргоні, убачыць унізе няроўна засеяныя палі, ці раскрытыя мінулагодняю бураю стрэхі свінарнікаў, ці недабудаваныя аграгарадкі?

Можа, нашыя мясцовыя праваслаўныя іерархі баяліся, што іх паства гуртам кінецца паміж каталікоў паглядзець і паслухаць высокага госця і, зачараваная гукамі аргана, звонам званочкаў ці салодкім ядам каталіцкіх абяцанкаў-цацанкаў, ніколі ўжо не пераступіць парога царквы і не купіць свечку за пяць тысяч рублёў? Ва ўсякім разе, братацца з польскім Папаю і прымаць яго нашыя бацюшкі ў мітрах з панагіямі не жадалі: «Абыдуцца каталікі, абыдуцца, не вялікія паны, калі так хочуць, то хай сядаюць у аўтобус і кацяць у Рым, не бедныя ж!»

І што ж нам было рабіць, мы кацілі і ў Рым, і ў Чэнстахову, у Вільню, і ў Беласток, і ў Варшаву, займалі месцы ў сваім сектары і адстойвалі імшу добрых некалькі гадзінаў на нагах, пад простымі праменямі летняга пякучага сонца, некаторыя з нас, і маладыя дзяўчаты, і трохі старэйшыя кабеты, нават часам гублялі прытомнасць, тады прыбягалі знекуль змораныя польскія харцэрыкі з бутэлькамі мінеральнай вады ці з вішнёвым сокам альбо зарульвала ў праход паміж сектарамі машына «хуткай дапамогі» і выскоквалі з яе дакторка з заклапочаным тварам і санітары з насілкамі. А высока над чанстахоўскімі Блонямі ці варшаўскім Акэнцем традыцыйна лётаў выпушчаны нечаю рукою каляровы паветраны шарык з падабізнаю Яна-Паўла Другога...

Ах, як чакалі Яго візіту нашыя каталіцкія дзядкі і бабулькі з Юрацішкаў і Дудаў, Коханава і Багушэўска, Мазыра і Ваўкавыска!!! І не дачакаліся...

Ён старэў і драхлеў з кожным годам на экранах каляровых тэлевізараў, старэў і драхлеў на вачах усяго свету, і пачынала ўжо непрыемна раздражняць, калі Ён, седзячы ў крэсле, падчас чарговай імшы раптам па-дзіцячы засынаў, ці папросту губляў прытомнасць, хто там зараз ужо ведае, а прыбочны кардынал трос Яго за плячо. Людзі не любяць старасці і яе наступстваў, старасць выглядае непрыгожа і мярзотна, непрыемна і горка пахне. Людзі яшчэ

старасці баяцца таму, што, трымаючыся згодна за руку, разам з ёй прыходзіць Смерць. Тым не менш да апошніх дзён Папа, зусім ужо хворы, працягваў пілігрымаваць па свеце і збіраць дзясяткі тысячаў вернікаў на імшы. Хто яго ведае, можа, паміж Ім і Богам была калісьці заключаная таямнічая Дамова, сэнс якой палягаў на тым, што Адзін да канца дзён сваіх сведчыць Добрую Навіну, а Другі забавязваецца адразу пасля сканчэння жыццёвага шляху Першага забраць ягоную душу да сябе, і ніякіх там судоў, адвакатаў, расчыненых Дзённікаў Жыцця, страшных чарцей з віламі і арханёлаў з трамбонамі і пальмавымі галінамі. Так, мусіць, і было, бо занадта містычна выглядала цырымонія Яго пахавання, калі моцны вецер увесь час перагортваў старонкі Кнігі, што ляжала на вечку труны...

# ПАН СТАНІСЛАЎ

*Замест кветак і імшы арганісту*
*Станіславу Матусевічу*

Гэтую гісторыю з нашага мястэчка G. можна пачынаць расказваць, як андэрсэнаўскую байку: «Калісьці, дарагія мае, не паверыце, але нічога не было. Былі мясныя крамы, у якіх ніколі не было мяса, адныя свіныя галовы і ногі, і хоць у мястэчку G. быў мясакамбінат, але паколькі працаваў ён выключна на сталіцу нашае Радзімы — Маскву, таму і мяса не было, бо масквічоў было болей і яны таксама вельмі ж хацелі есці. Былі малочныя крамы, у якіх, не будзем лыгаць, час ад часу з'яўлялася малако, але яно было такім рэдкім, што пасля яго бутэльку можна было не мыць. Былі касцёлы ці цэрквы, у якія пасля 1945 года не ступала нага святара, дык добра, калі тыя касцёлы і цэрквы ўтрымоўваліся парафіянамі і выконвалі сваё сакральнае прызначэнне, бо існавалі храмы, у якіх увогуле складвалі хімічныя ўгнаенні ці заганялі сельгастэхніку на ноч, а храмы стаялі з васямнаццатага стагоддзя. Былі грошы, на якія калі і можна нешта было купіць, то толькі тое, чаго не хацелася і што не было патрэбным. Была камуністычная партыя, якая павінная была ўвасабляць сабою розум, гонар і сумленне нашае эпохі, але складалася яна ў асноўным з такіх індывідуумаў, каторыя ні першага, ні другога, ні трэцяга не мелі ніколі і не збіраліся мець — такія былі часы».

Але вернемся да тых людзей і здарэнняў, пра якія я хацеў вам распавесці.

Пасярод нашага мястэчка, акурат на Высокім рынку, стаяў вялікі прыгожы касцёл, які калісь пабудавалі айцы езуіты. А ў Савецкай улады (была і такая ўлада на нашай зямлі) увесь час свярбелі і часаліся рукі на гэты касцёл, таму што ўжо адзін, які таксама стаяў на Высокім рынку з чатырнаццатага стагоддзя і называўся Фарай Вітаўта, улада гэтая пусціла ў паветра, надышла чарга і езуіцкага. Але

ў нашым мястэчку яшчэ заставаліся вельмі прынцыповыя і адважныя людзі. Вось як пра іх распавядаў з агідаю нейкі прысланы сюды начальнік: «Иду я утром, часов так в сем, па Савецкай плошчадзи, а на ступеньках Фарного костёла сидзят жэншчыны с пустыми бидончыками для молока. Я подхожу ближе, здороваюсь и спрашываю: «Жэншчыны, милыя, а что это вы в сем утра за молоком собрались, магазины ешчо закрыты!» А они мне отвечают: «А мы знаем, что собираются взрывать Фарный костёл, и когда кого-нибудь здесь увидим, то начнём стучать крышками в битоны, прыбегут люди и не дадут его взорвать». Так что прышлось нам эту операцыю отложить, а потом как-то забыли про этот Фарный, а потом и Никиту Сергеевича Хрушчова сняли — ну и всё»...

Касцёл выратавалі і зберaглі для наступных пакаленняў не волаты з мячамі і шчытамі, не суперагенты з Захаду, а звыклыя простыя людзі, каталікі, якія, калі дажылі да выхаду гэтае кнігі, яшчэ штодзённа ходзяць, прыкульгваючы, па вуліцах, але ж не прымацуеш ім усім да плечаў дошчачку з надпісам «Выратавальнік Фарнага касцёла». Дый подзвіг іхні з цягам часу здэвальваваў і стаўся не такім ужо вялікім — ніхто зараз проста верыць не хоча, у эпоху павальнае любові дзяржавы да царквы, што такое мела калісьці месца быць!

А такое было, проста памяць чалавечая, на жаль, вельмі кароткая...

Потым жа гэтыя людзі, кабеты і мужчыны, на свае практычна грошы Фару і ўтрымоўвалі — плацілі манструальныя падаткі, хадзілі на душэшчыпацельныя размовы да абласнога рэлігійнага ці КДБэшнага начальства, пісалі паданні і суплікі ў ЦК КПБ, збіраліся самі і збіралі іншых людзей на нядзельныя набажэнствы, маліліся без ксяндза, якога можна было атрымаць раз у год ну на вельмі вялікае свята — на Божае Нараджэнне ці на Вялікдзень — прызначыць у Фару сталага пробашча бальшавікі ўсраліся б, здохлі, а ніколі б не пагадзіліся.

А я сам, звыкла заходзіўшы ў Фару ў нядзелю з раніцы, здзіўляўся прыгожаму барытону, які, вылятаючы з хораў,

проста забіваў усе шчыліны і куточкі ў аграмадным касцёле, барытону арганіста Станіслава Матусевіча. Пан Стах паходзіў з былога Ваўкавыскага павета, добра ведаў Зюніка Дуброўскага, мужа маёй цёткі, паразоўскага арганіста, які кожную нядзелю ездзіў граць да імшы пробашчу ў Мсцібаве, і роднага майго дзядзьку Януся, які вучыўся на арганіста, але не стаў ім, словам, пан Стах быў свой!

Арганістаў тады было няшмат, і ўсе яны ведалі адзін аднаго, і ўсе былі вельмі галасістыя, таленавітыя, а ў касцельных справах разбіраліся не горш за ксяндзоў, а можа нават і лепш, а колькі ўжо распавядалі розных баек і смешных выпадкаў, звязаных са сваім жыццём і працаю! Гэта быў своеасаблівы карпаратыўны клан, арыстакратычнае кола ці масонская ложа, калі так можна сказаць, даруй Божа! Без арганіста імша была напалову імшой, супам без кавалка хлеба, а што гаварыць пра парафіі, у якіх арганіста ніколі не было. І нечаканае з'яўленне ў нядзелю а палове першай у закрыстыі касцёла незнаёмага чалавека ўзрывала атмасферу, усім парафіянам загараліся вочы, і шэпт ляцеў па лаўках: «Арганісты, арганісты прыехаў, ксёндз з сабою арганіста прывёз». І можа, не такі быў цяпер важны ксёндз, як важны зрабіўся арганісты. Ахвотныя мужчыны лезлі на хоры і на змену пачыналі пампаваць паветра ў мяхі, закрыстыян званіў у званочак ля алтара, намалёўваўся і застываў у касцельнай прасторы першы ўпэўнены мажорны арганны акорд, няспешна і важна выходзіў з закрыстыі святар з міністрантамі, і імша пачыналася... Пра гэтую нядзельную імшу бабы потым з год успаміналі — і якія песні набожныя арганісты спяваў, і як удала ксяндза падхопліваў, і такі ў яго голас харошы, ну такі, што некаторыя амаль не плакалі...

Станіслаў быў адным з такіх адораных арганістаў, і гэта дзякуючы яму, ягоным «дзяўчатам» і нешматлікім старым парафіянам Фара ператрывала не самыя лепшыя часы ў сваёй гісторыі. Прыходзілі да пана Стаха на хоры на нядзельную імшу ягоныя харысты — у асноўным гэта былі жанчыны ў другой палове росквіту жыцця і крыху мужчынаў, мужчыны былі не надта вакальна моцныя, але гэта было няважна — важна было, што хор збіраўся і спяваў, спяваць

у хоры Фарнага касцёла лічылася подзвігам — падыміся паспрабуй па стромых каменных сходках туды, адспявай і спусціся назад.

І людзей у лаўках унізе хоць крыху, але збіралася, і арган стаяў выдатны — «Wacław Biernacki» — даваеннай віленскай фірмы, вось толькі не ставала ксяндза, і таму прыбыткі былі мізэрныя, а падаткі вялікія, і, хіба, бальшавікі, гледзячы на сітуацыю, меркавалі сабе так: «Народу з кожным годам у Фары менее і менее, пачакаем, пакуль усе старыя палякі павыздыхваюць, і зробім з гэтай гурбы камянёў выдатны музей атэізму». Але «старым палякам» не вельмі хацелася здыхаць — яны столькі ў сваім жыцці перажылі, што, з Божаю дапамогаю, збіраліся і гэтыя часы ператрываць. І яны, парафіяне без ксяндза, авечкі без пастуха, хворыя, глухаватыя, штонядзелі, крэхчучы, улазілі ў лаўкі, расчынялі старасвецкія кантычкі, пан Стах пстрыкаў піпку электраматора і націскаў на клавішы, пані Ірэна анёльскім голасам пачынала... І неяк так і хор, і парафіяне, і пан Станіслаў, і касцёл Святога Францыска Ксаверыя перажылі Брэжнева, потым Андропава і Чарненку, Гарбачова і перабудову з паскарэннем...

А за гэтымі часамі прыйшлі іншыя, яшчэ цікавейшыя часы. Гадзіннік на Фары адбіў аднойчы першую гадзіну беларускай незалежнасці, мястэчка G. нечакана займела свайго біскупа і каталіцкую духоўную семінарыю, а Фара пасля столькіх год бесксяндзоўя — пробашча, прыехаў да беларускіх калегаў пагасціць прымас Польшчы, кардынал Юзаф Глемп — здарэнняў было — не пералічыць!!! І ўсё неяк ажыло, зазелянела і расцвіло кветкамі надзеі, і хаця пан Станіслаў крышку пасівеў, але дажыў да гэтых хвілінаў, і анёльскагалосая пані Ірэна дажыла, і пані Гратулевічова, каторая ўсё жыццё прапрацавала «сматрыцелем касцёла», дажыла, і вышэй згаданы Юрак Антолькінаў, што быў майстрам на ўсе рукі і вечна нешта пілаваў і габляваў у падвале Фары, таксама дажыў, і такая эйфарыя тады апанавала местачковае паспольства, і такія перспектывы маляваліся ў грамадскім, рэлігійным і палітычным жыцці!!!

А затым усё раптам прыціхла, скуксілася і зрабілася як было дагэтуль, не, не вярнуліся бальшавікі, яны і не адыходзілі, проста людзі, як гэта прынята ў нашым мястэчку, пачалі паціху есці адзін аднаго, зайздросціць адзін другому, блытаць сваю кішэнь з касцельнаю скарбонкай, і да таго дайшло, што аднойчы загарэўся ўначы галоўны алтар у Фары. Пры бальшавіках не гарэў, хаця мог спакойна згарэць, і вінаватых бы не знайшлося, а пры жывым пробашчы, пры поўным штаце... і на табе!!!

І неяк ціхенька, без урачыстай імшы і кветак, выправілі з Фары на заслужаны адпачынак пана Станіслава... Не, ён трымаецца малайцом, так проста аднойчы сустрэліся на вуліцы і разгаварыліся. Хай кветкамі і імшой адначасова будзе вам, шаноўны арганісты Станіслаў Матусевіч, усё тое, што напісана вышэй!!!

# CZERWONE GITARY

Ах ты нашая мілая, далёкая маладосць!!! Несканчона прыгожыя дні і доўгія прыцемкі ў нецярплівым чаканні, калі ўжо нарэшце даспееш і станешся дарослым...

Але і цяперашняе тваё бесклапотнае становішча — някепскае: то праглынаецца за некалькі гадзінаў цікавая кніжка пра каханне, узятая ў бібліятэцы па вельмі вялікім знаёмстве, бацька бурчыць: «Свет запалі, а то очы папсуеш!», а цябе ажно пот прабівае ад усяго прачытанага, і думкі розныя варушацца ў галаве (ды і не толькі ў галаве), то вырашаюцца дробныя праблемы з лепшымі сябрамі і розныя рамантычна-грамадскія справы ў школе, а ўвечары ты скачаш цераз платы ўпоцемку, як дзікая незакелзаная жывёліна, спяшаючыся напрасткі на сустрэчу з тою адзінаю (гэта пакуль што), без якой тваё жыццё на вуліцы Якуба Коласа, 13 — не жыццё, а так, марнае існаванне, і табе ўсе без выключэння зайздросцяць (трэба было дажыць да пяцідзесяці з нечым, каб дазнацца пра гэты значны факт ад сваёй аднакласніцы, а мінула ажно трыццаць пяць год ад сканчэння школы). У малым мястэчку, як на тыя юнацкія запатрабаванні, то было куды кінуцца і што цікавае знайсці — свет жа толькі яшчэ пачынаў перад табою расчыняць дзверы, і першая бутэлька самагонкі, выпітая разам з Вовам Курылам і Міцем Вайцяхоўскім за гадзіну да пачатку школьнага вечара, ні ў якое параўнанне не пойдзе з рознымі шляхетнымі напоямі, каторыя ведаеш не з літаратуры, бо тая самагонка ўсё роўна была і будзе лепшаю і смачнейшаю!!!

Ці можна было выбрацца кампаніяй з аднакласнікамі пашвэндацца, і пайсці ў суботу, калі сцямнее, пад чыюсь хату ў канцы вуліцы на вяселле, пастаяць пад вокнамі, да Юзафа Парашчакавага, напрыклад. Юзік выдаваў замуж дачку і разам са сваім сябрам, краўцом Коўганам, яшчэ і агучваў вяселле — граў на кларнеце, а Коўган — на скрыпцы, і файныя старыя стандарты яны гралі, кшталту «Вішнёвага саду». Доўга мы стаялі пад вокнамі, стаялі і мерзлі, а потым

нехта з гасцей, расчыніўшы акно, каб трохі праветрыцца, заўважаў нас і, нікольві не шкадуючы, раптам працягваў цэлую бутэльку «Экстры» са стала і талерку нейкае добрае закускі: «Ну то маеце, хлопцы, бярэце, вып’еце за здароўе маладых, пагрэецеся!» І мы, не верачы ўласнаму шыху, бралі, дзякавалі, адыходзілі крышку далей ад вясельнай хаты, і, сеўшы на абледзянелую лаўку перад гародчыкам, выпівалі гэтую «Экстру» за пятнаццаць хвілінаў, і адразу рабілася цёпла, і не хацелася ўжо ісці спаць... Дык мы валачыліся і цёгаліся яшчэ — абыходзілі па чарзе ўсе заснежаныя маўклівыя вуліцы мястэчка Р. і пра нешта гаварылі — ці то пра сваіх дзяўчат, ці то пра настаўнікаў у школе, пляткарылі, словам, а з неба церусіў цудоўны дробны сняжок, рамантычна свяцілі ліхтары, і праз гадзіны паўтары, калі і тэмы былі вычарпаныя, і ўсе вуліцы па некалькі разоў абыдзеныя, — вярталіся па хатах.

А вяселле ў канцы вуліцы толькі пачынала разыходзіцца, і ішлі вялікаю кампаніяй маладыя хлопцы-дружбанты, крыху старэйшыя за нас, — Генюсь Дмухоўскі, Адольф і Чэсік Амбрушкевічы, Рэнё Казановічаў, а можа, гэта былі не яны, а нехта іншы — няважна, і раўлі на ўсё мястэчка ў чатыры горлы нешта вельмі вядомае і папулярнае, хіба гэта выглядала так:

Wszystko to w letnie dni
Przypomina ciebie mi,
Przypomina ciebie mi...
Sza-ła-ła-ła-ła-ła-ła-ła...

Мы ўсе, падшыванцы ад дванаццатага да пятнаццатага года жыцця, абшукваючы і абслухоўваючы доўгія, сярэднія і кароткія хвалі сваіх радыёлаў суботнімі і нядзельнымі вечарамі ў пошуках нечага прыстойнага, ужо па сто разоў чулі гэтую песню — «Historia jednej znajomośći», — яе спявалі маладыя, амбітныя польскія хлопцы з гурта «Czerwone gitary», а музыку напісаў Кшыштаф Кленчан, і нават тэкст песні быў калісь надрукаваны ў абсалютна шэрай і нецікавай газетцы «Robotnik rolny», якую некаторыя сябры мае ўгаварылі бацькоў выпісваць толькі з-за таго, што

там такія тэксты з'яўляліся, і дзякуй Богу, што з'яўляліся, бо на слых мала хто з нас што цяміў, і калі ў першым радку другога куплета «шлась пшэз сквэр» усё яшчэ было сяк-так зразумелым, то што такое «зтылупесглосвыбжэжавпыскунюсл» аніводзін з нас, не сутыкнуўшыся ані з польскай філалогіяй, ані з рэаліямі польскага жыцця, не ведаў, і такія неверагодныя варыянты праспеўваліся, пакуль нейкі прыезны падлетак, Вальдусь з Гноева, ёсць такая мясціна непадалёк ад Мальбарка, папулярна нам, тутэйшым варонам, не растлумачыў, што паволі і ў перакладзе гэта значыла «сабака ззаду нёс у пашчы «Глос Выбжэжа» — гэта назва мясцовай газеты, аналаг нашай «Ленінскай праўды» ці «Шляху да камунізму»...

Кленчан граў у легендарных «Czerwonych gitarach» разам з Севярынам Краеўскім, Бэрнардам Дарноўскім і Ежым Скшыпчыкам. Мы ведалі пра гэтую чацвёрку ўсё тое магчымае, што пра іх можна было даведацца, і то не з Інтэрнэту, якога і быць не магло ў тыя гады, нават у выглядзе сперматазоіда, а збіралі скупыя звесткі адусюль, адкуль далося, — нехта выцыганіў у бацькі-паштальёна свежы нумар польскага часопіса «Panorama», які прыйшоў падпісчыку Ежыку Арнольду, угаварыўшы бацьку, каб той аднёс яго ў восьмы дом на вуліцы Калхознай на дзень пазней, Ежыку ж усё роўна, нехта ў іншым часопісе — «Przekrój», нехта ў газеце «Życie Warszawy», нехта ў радыё, па першай польскай праграме. Але калі слухачы і гледачы, прыблізна ва ўзросце нашым і нашых старэйшых братоў і сясцёр, успрымалі гурт як мае быць, як сваё, то горай было з прадстаўнікамі трэцяй найстаражытнейшай пасля прастытутак і журналістаў прафесіі — я маю на ўвазе музычных крытыкаў.

Якія ж яны былі паганыя, задзірыстыя і смярдзючыя, гэтыя польскія музычныя крытыкі — былыя пасрэдныя музыканты ці няўдалыя вакалісты, — як яны праходжваліся па хлопцах, гадасці пісалі неверагодныя, бульдозерылі іх, вінавацячы і ў адсутнасці густу, і ў бесперспектыўнасці, і ў несуадноснасці іх музыкі з тым, што адбываецца ў новай сацыялістычнай Польшчы, а як ужо абглодвалі і смакавалі розныя падрабязнасці з іх асабістага жыцця... Праўду сказаў

пра такіх Альфонс Дадэ — з дрэннага віна атрымоўваецца добры воцат, з гэтых жа рапухаў не воцат, а цэлая эсэнцыя атрымалася.

Але нам, слухачам, было іхняе крытыкаванне да аднаго месца — мы слухалі сваіх ідолішчаў, лавілі іх новыя песні, прыйшоўшы са школы, на доўгіх хвалях Польскага Радыё Варшава — па абедзе пачыналіся моладзевыя перадачы, спрабавалі завучыць ці запісаць тэкст — тэкст быў ці не самы важны, а што рабілася, калі летам да каго ў госці прыязджалі сваякі з Польшчы і прывозілі, апрача сапраўдных амерыканскіх джынсаў на медных заклёпках і гумы да жуцця «Donald», яшчэ пару гукавых паштовак-саракапятак з запісамі — падарунак быў ці не найдаражэйшы. І тады на валік электраматора радыёлы, што круціў вялікае сталёвае кола, на якое ставілася плыта, насаджваўся спецыяльна абрэзаны і падточаны напільнікам-надфілем кавалак жоўтай гумовай трубкі — я такое сам прыдумаў! — і можна было слухаць і саракапяткі. Скажу, што гэтую працэдуру з вырабам і насадкаю трубкі я выконваў некалькі разоў, і гучанне плыты было не самае горшае...

А напачатку 1968 года «Czerwone gitary» ўпершыню прыехалі на гастролі ў Савецкі Саюз, не абмінулі нават сталіцы нашае рэспублікі — мястэчка М., і ўся джынсавая доўгавалосая прасунутая моладзь, хіпары-хлопцы і хіпарыдзяўчаты, акупаваўшы агульныя вагоны начнога цягніка «G.–M.», пасунулася туды з надзеяй дастаць лішні білецік, а калі не ўдасца, то нейкім чынам прарвацца так, а калі і гэтае не здзейсніцца, то хоць проста пастаяць каля службовага ўвахода, на ўласныя вочы ўбачыць музыкаў і выцыганіць ці які сувенір, ці аўтограф — такіх аптымістаў было вельмі многа... Якія заняткі ў школе, які хабзай, калі сустрэча з доўгачаканым шчасцем мае адбыцца на наступны дзень, трэба толькі вытрымаць пяць з нечым гадзінаў падарожжа...

І быў наступны дзень, з мокрым снегам, дажджом, бадзяннем па мястэчку М., і быў вечар, і быў канцэрт у новазбудаваным Палацы спорту...

А потым, пасля канцэрта, уся гэтая каляровая патлатая зграя вярталася тым жа цягніком дахаты, і цэлую ноч,

хто пры піве, а хто і пры танным віне, гаманілі шчаслівыя змучаныя хлопцы і дзяўчаты пра тое, як нехта спрытна прашмыгнуў праз кантроль, а некаму так пашанцавала — сеў на першы рад, бо трапілася пустое месца, і ўсё бачыў і чуў, і зблізку прытым, як быў апрануты і што рабіў Краеўскі, як патрэсна спяваў з ім на два галасы Кленчан, як спраўна валіў у свае бубны Скжыпчык, а найбольш шчаслівы хадзіў па вагонах і паказваў чорны вузкі стыльны гальштук і бажыўся, што сам Дарноўскі яго зняў з шыі і яму падараваў, а ўсе хоць і не верылі спачатку, але з зайздрасцю мацалі, і некаторыя нават абнюхвалі гэты прыгожы кавалак матэрыялу са стыльнай бірачкай «Made in France», а потым...

Напанараблялася потым з цягам часу ў жыцці кожнага і з іх, музыкаў, і з нас, слухачоў, прыемных і не вельмі прыемных здарэнняў — ад гэтага не адкупішся...

...Кленчан раптам, праз два гады, сышоў з «Czerwonych gitar» і з'ехаў у Злучаныя Штаты, у Чыкага, не вельмі яму там пайшло, сярод хмарачосаў, стрытаў, авеню і малаінтэлектуальнай польскай дыяспары, і там, на жаль, скончылася ягонае жыццё — вяртаўся пасля канцэрта ўначы дахаты і трапіў у аўтакатастрофу, а меў толькі трыццаць дзевяць год...

...мой сябра з Падліпак Янак Бяляўскі выпадкова злавіў у радыё і запісаў на магнітафон цэлую перадачу, прысвечаную памяці Кленчана, і мы ўтраіх — з Янкам і ягоным бацькам дзядзькам Станіславам, аднойчы, увосень 1981 года, выслухалі яе моўчкі, быццам вялікую і доўгую жалобную імшу...

...Краеўскі нешта не мог падзяліць з іншымі супольнікамі, таму нават судзіўся, ці могуць астатнія сябры гурта выступаць без яго пад назваю «Czerwone gitary», — сітуацыя выглядала не тое што непрыгожа, а зусім аніяк не выглядала...

...новае пакаленне слухачоў займела ўжо новых ідалішчаў і павыкідала на сметнік старыя зацёртыя плыты, пад якія калісьці перажывалі самыя лепшыя гады і хвіліны шчасця іхнія бацькі...

...бедны Рэнюсь Казановічаў так сабе ўклаў жыццё, што яно адразу ўзяло і развалілася, і калісьці, калі ён быў яшчэ

жывы і мы разам з ім выпівалі, то дастаў аднекуль і паказаў мне блакноцік блакітнага колеру, у якім ягонаю ўласнаю рукою былі перапісаныя тэксты і «Белага крыжа», і «Гісторыі аднаго знаёмства», і амаль усіх песень галасістай музычнай чацвёркі...

...«Czerwone gitary» працягваюць ездзіць па Польшчы з канцэртамі, старыя музыкі-заснавальнікі дабралі сабе маладзейшых калегаў, і так гэта выглядае, нібыта сляпыя, сівыя дзяды-лірнікі спяваюць з унукамі-павадырамі...

А ўсе тыя астатнія хлопцы-дружбанты, якія зімоваю суботняю ноччу вярталіся, гарланячы песню, з вяселля, што з імі сталася?

З імі таксама па-living рознаму...

Я ўспомніў дакладна, што яны спявалі, будзячы ўсялякае жывое стварэнне на вуліцы:

A bosman tylko zapiął płaszcz
I zaklął: «Ech, do czorta!!!
Nie daję łajbie żadnych szans
Dziesięć w skali Beaforta!!!»

# ВЕЧАР У КАМПАНІІ ЗМАГАРОЎ ЗА ЛАЦІНААМЕРЫКАНСКАЕ ШЧАСЦЕ

О, хаця мінула гадоў з трыццаць ад таго вечара, памятаю ўсё як дагэтуль!

Аднойчы загадчыца G...скага гарадскога аддзела культуры, шаноўная Ірына Іванаўна К. запрасіла нас, сяброў гісторыка-культурнага клуба «Паходня», на міжнародную сустрэчу з сапраўднымі змагарамі за шчасце працоўных...

З якой часткі свету ці хаця б нават краіны — яна канкрэтна не паведаміла, то была дзяржаўная таямніца, і, мабыць, для некаторых маіх таварышаў, што прыйшлі тады разам са мною на спатканне, месца паходжання гэтых змагароў і дагэтуль застаецца невядомым. Мы, тутэйшыя абарыгены, павінныя былі здзівіць абарыгенаў прыезных наяўнасцю мовы і культуры, але цалкам адметнай ад агульнасавецкай, то ёсць беларускай, адраджэнскай...

Сябры «Паходні» сабраліся, усе акуратна і прыгожа апранутыя, у нейкім чырвоным кутку аднаго са шматлікіх рабочых інтэрнатаў на вуліцы Урублеўскага... Там перад нашым прыходам ужо падмялі і памылі падлогу і рассцялілі навюськія чырвоныя дарожкі — найвышэйшы знак пашаны, таксама набегла з райкамаў і гаркама розных партыйных і камсамольскіх пацаноў...

І вось яны з'явіліся, іх прывезлі з самое Масквы... Не падобныя ні на кога, незразумелага ўзросту, усе чарнявыя, але не арабы і не афрыканцы, гаварылі па-іспанску, але не іспанцы, малыя, вымарачныя, дробныя. Былі сярод іх і дзяўчаты, толькі выглядалі яны страшэнна непрэзентабельна — з крывымі нагамі, сплюшчанымі шырокімі тварамі, смаляною капною валасоў на галаве і няроўнымі жоўтымі зубамі — маці-прырода, відаць, нешта не тое з імі хацела ўчыніць ці паставіла на іх не вельмі ўдалы эксперымент, але Бог з імі, з дзяўчатамі...

Пачалася вербальная частка сустрэчы, у ёй галоўнаю дзеючаю асобаю зрабіўся перакладчык. Замежныя госці,

якіх ён называў то таварыш Мігель, то таварыш Хуан, то таварыш Хуліа, распавядалі пра тое, як цяжка зараз маюцца ўсе жыхары іх айчынаў пад цяжмом крывавардэжымных дыктатараў і якім чынам яны будуць перабудоўваць свае любыя краіны пасля хутка маючай адбыцца перамогі працоўных над наймітамі міжнароднага імперыялізму, пасля чаго таварыш Мігель узяў гітару і абвясціў, што хоча заспяваць твор вядомага чылійскага песняра Віктара Хары! Спяваў і граў ён вельмі слабенька, але ўсе пляскалі так горача і ад сэрца, што Мігель вырашыў дабіць нас вельмі вядомым творам — італьянскай песняю «Бэла, чао!». Мясцовы музыка-баяніст, які быў адмыслова запрошаны на вечарыну на ўсялякі выпадак, хочучы падтрымаць таварыша Мігеля, ірвануў мяхі свайго дарагога баяна, але перакладчык рэзка абсёк яго: «Не надо!!! Пусть сам играет!», і таварыш Мігель дакончыў песню пра няпросты лёс партызанаў пры ўласным акампанеменце.

Потым мы ім спявалі беларускія песні, чыталі вершы Багдановіча і Купалы, вучылі іх беларускіх скокаў, а яны пачалі нас вучыць танцаваць свае мудрагелістыя танцы, прычым партнёркаю маёй была змагарка, якая мне колькі паіспанску ні тлумачыла, у мяне ні халеры не атрымоўвалася, бо я ж нічога не разумеў!

Пад канец была ўжо абсалютна нефармальная частка сустрэчы, дзе таварыш Мігель, каторы крыху ўмеў-такі размаўляць па-руску, патаемна ад перакладчыка паказаў нам нейкае чырванаскурае савецкае пасведчанне на сваё імя, паводле яго, ён быў слухачом хітрых міжнародных прафсаюзных курсаў, альбо дзесь каля таго...

А потым перакладчык прапанаваў гасцям пачаць развітвацца з гаспадарамі.

Таварыш Хуліа запэўніў прысутных беларусаў, што яны, змагары, аддадуць усе сілы, а калі трэба, дык і ўласнае жыццё дзеля вызвалення сваіх краінаў, госці разам адспявалі ці то «Вэнсэрэмос», ці то «Ін пэбло, унідо, хамасэ равэнсідо» (Што я дагэтуль нашу ў галаве, нашто, каб хто спытаўся?) і з’ехалі...

Дзе ж вы цяпер, бедныя ідэалісты, ці дабіліся чаго, і да чаго дабіліся?

Якіх пасадаў і партфеляў даслужыліся ва ўрадах вашых мілых, незалежных дэмакратычных краінаў, якія праблемы вырашаеце, каму прадаяце нафту і газ, у каго купляеце зброю, з кім сябруеце, а з кім не, з якімі ворагамі змагаецеся, ці здаровыя вашыя жонкі, мужы і дзеткі, вы самыя?

Калі так, то шчыра кажу: «Богу дзякаваць!!!»

Горай, калі вашымі чарапамі падкідаецца ля падножжа гары Охас-дэль-Салада няўцямная мясцовая дзетвара...

# МОГІЛКІ Ў ЛІМОЖЫ

Аднойчы, быўшы ў французскім горадзе Ліможы, я, нечакана для сябе, трапіў на гарадскія камунальныя могілкі. Звыкла так бывала, што, падарожнічаючы па Радзіме і завітваючы ў чарговае незнаёмае мястэчка, першым чынам, пасля закідвання рэчаў у гатэльчык, адбывалася наведванне мясцовых могілкаў — як выглядалі могілкі, так потым выглядала і мястэчка — альбо занядбанае, як могілкі, альбо крывое і бруднае, як яны ж...

А ў Францыі было, канешне, не да нябожчыкаў — тут бы на ўсё жывое і сённяшняе нагледзецца, убачыць і палацы над Луарай, і паліцы з вінамі ў супермаркеце!

Але, паўтараю, чыста выпадкова паставіў я нагу ў Ліможы на авеню генерала Леклерка, пайшоў па ёй у пошуках новых нязвыклых архітэктурных дзівосаў ці крамаў з ашаламляльна цікавым і якасным таварам, а дайшоў да агромнага кавалка зямлі, абгароджанага высокім шчыльным каменным плотам, з-за якога стрычалі, як галоўкі цікаўных дзетак, высокія крыжы з шэрага пясчаніку...

За плотам, аднак, усё выглядала аднастайна і беднавата, скупаваценькія французы, відаць, не вельмі пазітыўна ставіліся да надмагільнага мастацтва, хаця, здавалася, такі выдатны купецкі горад, як Лімож, мог калісьці займець сярод гараджан хоць аднаго выдатнага разьбяра, кшталту маэстра Шышкевіча, які, жыўшы ў мястэчку G., не адну магілу на высокай горцы на беразе Нёмана пераўтварыў з банальнага дзярновага бугра ў маленькі каменны маўзалей. Не, тут усё было роўна і аднолькава, нават помнікі ў жыдоўскай частцы амаль што не адрозніваліся ад сваіх помнікаўбратоў у хрысціянскім кутку, крыжоў на іх толькі не было, а шасціканцовыя зоркі Давіда...

Прозвішчы, імёны, месцы нараджэння — нібы гартаеш старонкі школьнага дапаможніка па фізічнай геаграфіі: гэная нябожчыца прыйшла на свет у Ніцы, гэная ў Каркасоне, а той вось са Страсбурга...

Але ў алеі Герояў французскага Супраціву вочы мае выхапілі зусім нетыповы надпіс на помніку:

Мсье
Шая Зайвлман
Нарадзіўся ў Акуневе
(Польшча)
Загінуў у 1943 годзе

Гэта ж колькі беднаму Шаю Зайвлману з маленькага падваршаўскага мястэчка Акунева прыйшлося перажыць: і варшаўскае гета, і ўцёкі з цягніка, які вёз вязняў у Штутгоф, каб пад Ліможам прыняць смерць, змагаючыся са зброяй у руках супраць немчуры?

...Велічна трапятаў угары на высокім даўгім дрэўку прыгожы французскі трохкаляровы сцяг...

Аніякіх нечаканасцяў на гэтых могілках больш хіба не прадбачылася, і я, прайшоўшы па некалькіх бочных алейках, накіраваўся да выйсця, але тут перада мною ўзнікла штосьці такое, што я на ніводных могілках не бачыў! Над магілай была пабудаваная сапраўдная маленькая хаціна — з празрыстымі пластыкавымі сценамі і страхой, з дзвярмі на маленькім замку, а што ўжо было ўсярэдзіне — там, на зялёнай штучнай траве, стаялі маленькія крэселкі, на якіх сядзелі лялькі, поўна было розных цацак — і машынак, і коцікаў, і сабачак, ляжалі фарбы для малявання, фламастары, кніжкі і розная іншая каляровая дробязь, з якой так цешацца малыя дзеткі, стаяў трохколавы дзіцячы ровар, і ўсяго такога было ну вельмі многа... Але аніводнага здымка, аніводнай таблічкі, напаміну пра тое, хто пад гэтымі лялькамі, фарбамі і забаўкамі спачыў...

І ўспомніўся мне чамусьці сціплы надпіс на пахіленым старасвецкім помніку на старых праваслаўных могілках у мястэчку G., мілы і пяшчотны, а усяго-та ў ім пяць простых словаў: «Царствіе Небесное милому дорогому Папеньке» — нібы ўпэўненае сцвярджэнне, нібы пажаданне, а нібы ліст да Пана Бога, каб ён прачытаў і не забыўся, што гэты чалавек сваім жыццём заслужыў...

# ТРЫ ШЭКЕЛІ НА ПАМЯЦЬ

Міністэрства абсорбцыі — гэта такое міністэрства, каторае, прымаючы жыдочкаў з розных дыяспараў у свеце, абчэсвае і робіць з іх стандартных, стаадсоткавых грамадзян дзяржавы Ізраіль. Атрымоўваюць дубоў — выпускаюць ліпу!

*Так мне нехта растлумачыў*

Ці вы, сябры мае, памятаеце, што рабілася ў нашым мястэчку G. напрыканцы васьмідзясятых і ў сярэдзіне дзевяностых гадоў, якраз пасля таго, як ляснуўся «созданный волей народов великий, могучий Советский Союз»? Да нас у G. пачалі гуртам наязджаць з усяго белага свету рознага знешняга выгляду і арыентацыі госці з таксама рознымі мэтамі. Гэта былі прадстаўнікі шматлікіх дабрачынных і грамадскіх арганізацыяў, сярэдняй рукі журналісты і незлічоныя пратэстанцкія казнадзеі, крышнаіты і каталіцкія місіянеры з Польшчы, бахаісты, і вісарыёнаўцы, і, нават і такое здаралася, прыхільнікі культу драўляных удмурцкіх бажкоў і неапаганцы.

Наведалася ў мястэчка аднойчы сама Марыя Дэві Хрыстос са сваім сужыцелем... Памятаеце, яны прастаялі з якую гадзіну на холадзе на рагу Ажэшкі і Савецкай, метрах у дваццаці ад таго месца, дзе нябожчык Дзіма Кісель з табурэтачкі гандляваў газетамі... Яна была апранутая ў белае, а ён, сужыцель, стаяў побач і, варочаючы нядобрымі вачыма, панура глядзеў на пярэхадняў — відаць, не пахмяліўся яшчэ ці нешта там у іх не клеілася фінансава.

Местачковыя ўлады тады былі заклапочаныя зусім іншымі праблемамі, не да бахаістаў і неапаганцаў ім было, а ўсе гэтыя нашыя госці біліся над аднымі і тымі ж мэтамі: навербаваць сярод разгубленых і недасведчаных местачкоўцаў як найбольшую колькасць прыхільнікаў, зняць з найбагацей-

шых, калі гэта магчыма, сякое-такое бабло, пакінуць па сабе добрае ўражанне ці, вярнуўшыся на сваю Радзіму, распавесці пра гэтую дзікую краіну па тэлебачанні, напісаць салодка-бяздарную кнігу-рэпартаж пад назваю «Галасы Наднямоння» альбо «Беларусь — джынсы і бульба», памяшаўшы там боб з гарохам, халакост с плытагонамі і немцаў з Пілсудскім, але заўсёды, тым не менш, зрабіць ашаламляльную справаздачу для спонсара з тым, каб ён расшчодрыўся і натрос на другі і на трэці ваяж. Большасць гэтых ваяжораў другі раз на g...скіх вуліцах ніколі ўжо не з'явілася — не аплочвалася, а некаторыя дзівакі дык ездзяць сюды дагэтуль па некалькі разоў на год — спадабалася ім тут!!!

А аднойчы нашае мястэчка звізітаваў віцэ-міністр абсорбцыі Ізраіля — пра гэта варта ўспомніць.

З тае трыццацітысячнае жыдоўскае грамады, якая калісьці кішэла і гергатала на g...скіх вуліцах, не засталося амаль нічога, ну, можа, якая тысяча ці дзве сыноў і дачок Ізраіля, дый тыя мешаныя, перажэненыя ці перамужаныя з гойкамі і гоямі.

Але, відаць, яны, нават і ў такім стане, былі яшчэ нечага ды вартыя, раз да іх завітаў сам віцэ-міністр...

Невялічкі Ізраіль, сімпатычная прыгожая дзяржава на Блізкім Усходзе, увесь час збірала сваіх раскіданых па цэлым свеце дзяцей пад бацькоўскую страху, праўда, няўдзячныя гэтыя дзеці, гадоў з некалькі памыкаўшыся там і скаштаваўшы нязвыклай экзотыкі, лічылі за лепшае спакаваць валізкі і навастрыць лыжы ў якую Канаду, каб адтуль праз некаторы час з'ехаць найперш у Бостан ці Чыкага, а потым і ў Нью-Ёрк — шлях, вядомы ўсім!

Але ж не ўсе дзеці былі такімі пераборлівымі і няўдзячнымі, былі і харошыя, каторым, апрача суседзяў-адзінаверцаў і Сцяны Плачу, нічога — ні вялікія грошы, ні афраамерыканцы з мексіканцамі — не было патрэбна. Яны ў Ізраілі і заставаліся, і жылі там, і любілі сваю маленькую краіну, і былі яе найвялікшымі патрыётамі. Вось у надзеі знайсці такіх патрыётаў і сабраў усіх ацалелых жыдочкаў на спатканне ў зале старога тэатра Тызенгаўза высокі госць.

Ён быў дробненькі і страшэнна востры на язык, гаварыў па-руску павольна, але вельмі добра, як можа гаварыць чалавек, каторы атрымаў і сярэднюю, і вышэйшую адукацыю ў Савецкім Саюзе. Пачаў ён так: «Я происхожу из ваших мест, но не скажу, откуда конкретно, потому что если я скажу, то у меня сразу же найдётся масса родственников»...

Увесь зал, а было ў ім людзей сто пяцьдзясят ці нават дзвесце, войкнуў, шалёна зарагатаў і заляскаў у далоні — ну наш жа чалавек прыехаў, адразу відаць, што наш!!! Кантакт быў наладжаны з першае хвіліны, і далей ужо высокі госць спакойна распавядаў прысутным пра тыя прыемнасці і грашовыя дажджы, каторыя ападуць на іх разумныя галовы адразу ж па прылёце ў аэрапорт «Бен Гурыён»: «И вот вы прилетаете в аэропорт, знаменитый аэропорт «Бен Гурион». Некоторые наши братья, сразу же, сойдя с трапа самолёта, становятся на колени и целуют священную землю праотцов. Это очень красивый и символичный поступок с их стороны. Мы заранее подготовились к этому, зная о том, что они это сделают, — на всей посадочной полосе вы не найдёте ни окурка, ни пылинки — такую землю и целовать приятно!.. Вы — пенсионеры и прилетели в Израиль тридцать первого марта — не переживайте! Вам выдадут пенсию за весь месяц март. Также по прибытии каждый член вашей семьи — неважно, кто он — младенец или глубокий старик, — получает пособие в размере...» — і дзесьці з палову гадзіны ён распісваў прыціхлым і ашалелым суродзічам кожную хвіліну іх прабывання на Святой Зямлі і колькі гэтая хвіліна ім прынясе прыбытку. І усе прысутныя ў зале, адначасова слухаючы віцэ-міністра, пачалі складаць у галаве шэкелі і пераводзіць іх у даляры — атрымоўвалася такая сума, што ў некаторых з вушэй паваліў пар...

Высокі госць скончыў прэзентацыю і, усміхаючыся, вымавіў: «А теперь я бы хотел посвятить время ответам на вопросы, которые у вас, конечно же, есть».

Пытанняў было, і было шмат, некаторыя пыталіся, устаўшы з месца, некаторыя пісалі на маленькіх шматках паперы і перадавалі праз суседзяў на сцэну:

«Какие льготы предоставляются в Израиле ветеранам труда?»

«Имеют ли льготы в Израиле многодетные матери?»

«Какие льготы предоставляются в Израиле лицам, награждённым медалью “Ветеран труда”?»

«Можно ли приехать в Израиль на собственном автомобиле?»

Трэба аддаць госцю з Ізраіля належнае — ён цярпліва і падрабязна адказваў на кожнае такое пытанне, не шкадуючы фарбаў і галасавых адценняў, але хіба ў канцы і ён не вытрымаў: «Знаете, дорогие земляки, я бы очень удивился, если бы на сцену пришла записка: “Что я могу сделать для Израиля?”»

Мы назіралі за гэтым дзействам з галёркі тэатра разам з маім кумам і сябрам Лёнікам Гівойнам. Лёнік, тады малады пачынаючы бізнесмэн, гаспадар усебеларуска вядомай кавярні «Батлейка», што месцілася тут жа, у тэатры, гледзячы на ўсю трагікамедыю, плюнуў і сказаў: «Віця, бяжы давай уніз і запрашай міністра на каньяк, харошы ж чалавек, я сумняваюся, што яны яму халоднай вады прапануюць, бяжы хутчэй», — і я паляцеў на сцэну, падышоў да госця, павітаўся і сказаў, што хоць мы не адзінаверцы, але, тым не менш, вельмі б хацелі яго запрасіць, калі ён не супраць, у тэатральную кавярню на сціплы пачастунак. Нейкія два маладзёны савецкаватага выгляду, відаць, ягоныя прыбочныя ахоўнікі ці дзеячы жыдоўскага Адраджэння, пачалі рашуча пярэчыць: «Нет, не надо!», але ён неяк жарсткавата абарваў іх, і я павёў тройцу да кавярні.

Лёнік, малайчына, ужо пастараўся — на стале стрычала адчыненая бутэлька найлепшага малдаўскага каньяку, не левага, дарэчы, стаялі на талерцы бутэрброды са шпротамі, а бармен заварваў каву. Госць сказаў, што выпіваць і закусваць яму нельга, а вось каву ён вып’е з задавальненнем!

Пілі мы каву і размаўлялі пра тое, што край наш які б ні быў, але прымаў з ахвотаю сыноў і дачок Ізраіля, і асаблівых канфліктаў паміж Янкамі і Абрамкамі ніколі не было. Адзін з маладзёнаў, праўда, нешта спрабаваў вякнуць пра 1935 год у G., але госць націснуў яму абцасам на чаравік —

Лёнік гэта бачыў — і маладзён змоўк. Таксама госць заўважыў, што, у адрозненне ад іншых краінаў СНД, жыдочкаў з Беларусі выязджае найменш...

Пачалі яны збірацца, падзякавалі прыгожа за гасціннасць, і раптам віцэ-міністр кажа: «Ребята, вы только никому не говорите, я хочу вам в память о нашей сегодняшней встрече подарить по шекелю, пожалуйста, никому не говорите, а то они (ён паказаў на дзверы) меня неправильно поймут», — і пакінуў на стале тры жоўценькія манеткі. Адну ўзяў сабе Лёнік, адну — я, а трэцяя дасталася адміністратару Наташы, якая дапамагала рабіць бутэрброды і накрывала на стол.

Правялі мы гасцей да машыны, вярнуліся назад, а стол стаіць некрануты...

І Гівойна, як гаспадар, вырашыў: «Не прападаць жа дабру, сядайце!»

Ну мы і селі...

# САЛЕЧНІКІ

Працаваў я напачатку дзевяностых у Польскай рэдакцыі абласнога радыё ў якасці дыктара — чытаў разам з каляжанкаю Ясяю Немчыноўскаю навіны і розную там бальшавіцкую хрэнь на польскай мове. Начальнік наш — светлай памяці Уладзімір Васільевіч Малашкевіч беспаспяхова спрабаваў запрэгчы ў адзін вазок польскі патрыятызм, любоў да сацыялізму і лаяльнасць да дагараючай сінім полымем Савецкай улады ў яе метастазаваным выглядзе, што яму, мякка кажучы, не вельмі ўдавалася, таму што ўсе нашыя мясцовыя палякі, якія хоць у частцы захавалі нацыянальныя традыцыі і прычыніліся да паўстання Польскай рэдакцыі, гэтую самую ўладу цярпець не маглі і штодзённа прасілі Пана Бога ў розных касцёлах, каб Створца Ласкавы выбавіў іх ад гэнае заразы, што неўзабаве і здарылася — Бог любіць палякаў, і пацвярджэнняў гэтаму мы маем аж занадта! Таксама не цярпелі яны і тое, што чулі па Польскай рэдакцыі, хаця ўжо сам факт, што радыёкропка раптам загаварыла па-польску, некаторых слухачоў у момант выхаду ў эфір першых перадачаў давёў да слёз. Пасля ўжо, калі перадача зрабілася штодзённаю з'яваю, то стала ўсім зразумела, што лухта — яна і па-польску, і па-беларуску лухта, і што б мы ні рабілі, з якімі цікавымі людзьмі інтэрв'ю ні запісвалі, існуюць нейкія цесныя ідэалагічныя рамкі, з каторых мы ніколі не выскачым, якімі б таленавітымі мы ні былі. Ясна зрабілася, што ў такім фармаце Польская рэдакцыя доўга не працягне, што потым і сталася, але гэта сталася праз некалькі гадоў, а пакуль трэба было працаваць, запісваць цікавыя матэрыялы, мантаваць іх і пускаць у эфір, не губляючы пры тым пачуцця ўласнай годнасці...

Выклікаў мяне аднойчы да сябе галоўны рэдактар радыё Алег Артуравіч Антані і прапанаваў падскочыць разам са старэйшымі калегамі-радыёжурналістамі ў Салечнікі, на Літву, там якраз салечніцкія раённыя ўлады абвясцілі польскую нацыянальна-культурную аўтаномію, і трэба было зрабіць пра гэта адпаведны рэпартаж. «Заадно і павучышся,

Віктар, майстэрству ў старэйшых калегаў», — патлумачыў мне мэтазгоднасць маёй камандзіроўкі Алег Артуравіч.

Выехалі мы ў Салечнікі службовым «Масквічом» з самага ранку — мой начальнік Уладзімір Малашкевіч, журналіст і паэт Валодзя Шурпа, вадзіцель і я. Прыехалі ў малазнаёмае літоўскае мястэчка — дзе каго шукаць? Малашкевіч, мой шэф, відаць, ведаў многае і адразу прывёў нас у будынак райкама кампартыі Літвы, да другога сакратара. Той (не памятаю, Пятроўскі ці Паўлоўскі было ягонае прозвішча) — высокі, прыгожы мужчына, відаць, былы спартсмен, завёў нас з Малашкевічам у свой кабінет. Селі яны за стол, дзядзька Валодзя разлажыў нейкія свае паперкі і дастаў партатыўны венгерскі магнітафон, а сакратар разлажыў на стале нейкія свае паперкі. І пачалося інтэрв'ю.

Малашкевіч чытае з паперкі: «Пане другі сэкрэтажу, як се то стало, жэ рэён Солечніцкі оглосіл польска культуральнонародова аўтономіе?», на што другі сакратар, не адрываючы вачэй ад паперкі, чытае ў адказ: «Пане рэдактожэ, поневаж констытуцыя Звёнзку Радзецкего не забраня, а констытуцыя Літэвскей Рэпублікі Совецкей гварантуе своім обыватэлём таке право, длятэго оглосілісмы наш рэён рэёнэм польскей аўтономіі». Другое пытанне таксама задалося з паперкі, і трэцяе, і чацвёртае, і адказы таксама чыталіся з паперкі, а я сядзеў збоку і глядзеў на гэтых сур'ёзных, дарослых людзей, у каторых былі і сем'і, і дзеці, і неблагія пасады.

І вось дзядзька Валодзя чытае апошняе: «Пане сэкрэтажу, і ото можэ найценжшэ для пана пытане: ходза поглоскі, жэ мейсцовэ дзялачэ з «Саюдзіса», нацыёналісці літэвсцы, грозілі пану не раз, жэ ежэлі пан не выжэкне се польскосці і не запшэстане дзялальносці на жэч пшэбудовы і одродзэня, то знішча оні пана і паньска родзінэ фізічне. Чы то ест правда?», на што другі сакратар крыху плачучым голасам прачытаў адказ, што так, гэта было, і не раз, і па тэлефоне яму дахаты званілі, і сям'ю палохалі, але хрэн ён паддасца нейкім цёмным сілам і не забаіцца нічога. На гэтым аптымістычным моманце інтэрв'ю скончылася, задаволеныя размоўцы паціснулі адзін аднаму рукі, і дзядзька Валодзя, пераможна сказаўшы: «Вучыся, малады, як трэба інтэрв'ю рабіць!!!», даў мне ў рукі магнітафон і загадаў пахадзіць па

салечніцкіх вуліцах, папытаць у месцічаў, як ім спадабалася абвяшчэнне польскай аўтаноміі.

Хіба я быў падобны з гэтым магнітафонам на хворага-сухотніка ў апошняй стадыі, ці на жабрака-вашабоя, ці, можа, ад мяне дрэнна пахла — бо людзі, як толькі бачылі настаўленае на іх рыльца мікрафона, адразу, без адзінага слова, перабягалі на другі бок вуліцы, альбо адварочваліся, альбо рабілі выгляд, што не разумеюць польскай мовы — і гэта ў сталіцы польскага аўтанамічна-культурнага раёна. Я паблукаў па вуліцах з паўгадзіны, і з мяне пацёк пот — я ж анічога не запісаў!!! Трэба было мяняць тактыку, гэта значыць, ставіць чалавека ў такія ўмовы, каб ён хоць слова, ды сказаў. Першым месцам, куды я зайшоў з цвёрдым намерам нешта запісаць, была кніжная крама — прадаўшчыца ж не кіне працоўнага месца ці не прыкінецца дурнаватай. Так і сталася!!! Ёй сапраўды няёмка было ўцякаць ад майго мікрафона, і яна была адна ў краме — хто там у Салечніках кнігі купляў. Толькі ж гэтая мілая кабета дрэнна разумела і зусім не гаварыла па-польску, але мне было ўсё роўна.

Я супакоіў яе, што адказ мы на студыі перакладзём, толькі было б што перакладаць, уключыў мікрафон і спытаўся, як яна ставіцца да абвешчанай нядаўна раённым начальствам польскай культурнай аўтаноміі. Прадаўшчыца пачырванела, доўга думала... і выказалася, што, па-першае, яна нічога пра гэта не ведае, а па-другое, непатрэбныя тут ніякія аўтаноміі, бо ў Салечніках розныя людзі жывуць, і палякі, і беларусы, і літоўцы, і нармальна паміж сабою ладзяць, і ніхто нікога не крыўдзіць, і няма чаго тут дзяліцца і аўтанамізавацца. Адказ яе, канешне, быў зусім не тым адказам, які разлічвала атрымаць радыйнае начальства, але гэта быў мой першы рэпарцёрскі поспех на салечніцкай зямлі.

Асмелены доўгачаканаю ўдачаю, я вырашыў не мяняць схему і працаваць па ёй жа — я задаваў гэтае ж пытанне прадаўшчыцам, якія сядзелі за касамі ў крамах ці стаялі за прылаўкамі, пакупнікам, што разлічваліся за тавар, і адказы былі тыя ж самыя: нічога не ведаем, нічога не трэба мяняць, мы і так згодна жывём.

Вось табе і аўтаномія... Дык каму ж яна была патрэбная і хто мне раскажа, што на самай справе тут адбылося?.. І я

вырашыў пайсці на Школьную вуліцу да цёці Марысі — роднай сястры мужа маёй роднай сястры. Цёця Марыся працавала ў мясцовай школе настаўніцай, ведала ўсю сітуацыю, яна мне, не баючыся, распавяла ў мікрафон па-польску, што вільнюскія ўлады не вельмі прыхільна паглядалі на Салечнікі і Эйшышкі, таму што пераважная большасць насельніцтва тут была не жмудскай, а славянскай, адсюль і малыя інвестыцыі, і занядбанасць у асвеце і культуры, і беспрацоўе, і ніклае жыццё штодзённа. А што тычыцца культурна-нацыянальнай польскай аўтаноміі, то адказ трэба шукаць у райкаме партыі...

Гэта цяпер, з адлегласці гадоў, гэтая жалю годная інтрыга з аўтаноміяй, потым са спробай стварэння Усходнепольскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі выглядае наіўна і смешна, бедныя камунякі і камітэтчыкі не ведалі, як задушыць «Саюдзіс» і, робячы памылкі адна дурнейшая за другую, усё больш і больш сваімі дзеяннямі дабівалі каханае ленінскае дзецішча — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Вярталіся мы дахаты, выехалі за Воранава, і раптам замітусіўся Валодзя Шурпа, які драмаў усю дарогу і туды і назад: «Хлопцы, пачакайце, мне ж таксама трэба нейкае інтэрв'ю запісаць!!! Давайце ў які калгас завернем». Ну завярнулі ў нейкі калгас, пад'ехалі пад праўленне, якраз старшыня праводзіў там чарговую сходку, перадалі праз сакратарку, што прыехаў карэспандэнт з G., хоча ўзяць у яго інтэрв'ю. Праз хвілінаў пятнаццаць на ганак выйшаў змрочны, заклапочаны старшыня. Валодзя адвёў яго пад запырсканы граззю «УАЗ» і пачаў задаваць ну зусім нецікавыя пытанні кшталту: «На скалькіх гектарах вы ўбралі кукурузу?», «Какой в этам гаду уражай картофеля?» і гэтак далей. І апошняе задаў Валодзя пытанне нярадаснаму старшыні: «А што вы дабаўляеце ў сілас, чтобы он не так гніл?». Старшыня падумаў, памаўчаў, і раптам папрасіў: «Выключыце мікрафон!» Валодзя выключыў, і тады старшыня крыкнуў некаму ў калідор: «Пеця, как называецца тая х...йня, каторую мы в сілас сыплем?» З калідора імгненна, як мячык, вылецела ў адказ: «Серавуглярод!!!»

# МАСТАК
# І ЯГОНАЯ ЮБІЛЕЙНАЯ ВЫСТАВА

Калі вы чытаеце гэтыя радкі, значыцца, што я вырашыў апавяданне пра мастака ўключыць у зборнік, нягледзячы на тое, што вельмі рызыкаваў, таму што многія героі гэтага твора не ведаю як сябе павядуць пры сустрэчы са мной. Прозвішчаў нічыіх называць не будзем, таму што дакладна тады па «бессаромнай насатай мордзе» атрымаю.

Жыў сабе ў нашым мястэчку G. Мастак, не можна сказаць, што ён быў вялікім суцэльным прафесіяналам, але нешта там маляваў, дастаткова няблага, умеў дзе трэба і верш, адпаведны да сітуацыі, прыгожа і ўдумліва працытаваць, і слова сказаць пад чарку, і ў майстэрню да сябе запрасіць — пахваліцца новымі працамі і задумкамі. Увесь ён быў такі файны, мяккі, украдчывы, інтэлектуальны інтэлігент-кніжнік, і кабетам вельмі падабаўся, і начальству, выкладаў студэнтам у мясцовым універсітэце, і нібы яго прафесійная кар’ера складалася няблага, як на правінцыяла — вазіў ён выставы сваіх твораў і ў Маскву, і ў Вільню, і ў Піцер, і нават ў Злучаныя Штаты — дачакаўся-такі сваіх пяці хвілінаў славы ў гэтым жыцці. Толькі меў вельмі згубную звычку — любіў выпіваць каньяк, і то памногу, бутэльку, а можа нават і болей, і так кожны дзень. А дзён у каляндарным годзе ажно трыста шэсцьдзясят пяць — палічыце, якая невясёлая статыстыка атрымалася. Аніводнае сэрца ці вантроба такой колькасці падазронага бурштынавага колеру вадкасці, якая прадаецца ў крамах пад назвай «коньяк», не вытрымае. Так яно і сталася — аднойчы па Мастака прыехала «хуткая» — інсульт, кроў вылілася ў мазгі, і ніякай, нават самай маленькай магчымасці выжыць у яго не было...

Але пашанцавала нашаму мястэчку з дактарамі — яны выцягнулі Мастака літаральна з лапаў пані Смерці, нешта, адкрыўшы чэрап, доўга там чысцілі, і выратавалі беднага чалавека, хай пажыве яшчэ! Толькі ў якім стане? Вельмі нецікавым — Мастак ужо не мог больш хадзіць, гаварыць,

рухацца і варушыцца, ніколі ўжо, толькі нерухома сядзець у крэсле і чакаць альбо Жонкі, якая прыйдзе з працы, пакорміць і зменіць памперсы, альбо тае самае Пані, каторая першы раз ужо прыходзіла па яго, а пайшла з пустымі рукамі.

І вось збіралася Мастаку споўніцца шэсцьдзясят год. Калегі з універсітэта паклапаціліся, каб выдаць да гэтае даты прыгожы каталог яго прац, знайшлі недзе сякія-такія грошы, а некаму ў галаву прыйшла яшчэ лепшая ідэя — зрабіць рэтраспектыўную выставу ягоных малюнкаў у Новым замку, і каб ён сам з'явіўся перад публікай...

Пазбягаліся амаль усе цікаўныя — і калегі-мастакі, і творчая інтэлігенцыя, і шматлікія прыхільнікі ягонага таленту, круціліся па зале аператары з мястэчковага тэлебачання з камерамі, журналісты з радыё і з некалькіх газет, прыйшло культурнае начальства — і можна было пачынаць адкрыццё выставы, але сам юбіляр нешта пазніўся... Паспольства, растусаваўшыся па кутках, ці вяла размаўляла аб нечым, ці боўталася па зале, разглядаючы развешаныя на сценах трохі прыбляклыя акварэлі на тэмы вершаў Багдановіча і музыкі Чурлёніса, не вельмі іх, прац, многа было — калі раптам нехта ўбачыў у акне і адразу пусціў у народ: «Прыехалі, прывезлі яго, вон выгружаюцца». Усіх прысутных нібы токам страсянула, усе насцярожыліся, рассунуліся, зрабілі праход і пачалі чакаць.

У калідоры зашалясталі колы вазка, і Жонка ўрачыста, пад апладысменты, увезла Мастака ў залу. Тыя, хто стаялі не ў першых радах, а ля сцен, пачалі выцягаць шыі, як на вайсковым парадзе, каб хоць нешта ўбачыць — цікава, як ён цяпер выглядае? А выглядаў ён нічога сабе, нават добра — дагледжаны, ружовашчокі, прыгожа апрануты, з традыцыйнаю бародкаю а-ля Мікалай Другі, вось толькі, бедны, ані слова не мог сказаць.

Вярбальна-мастацкую частку выставы вёў нейкі мясцовы Паэта, вялікі сябра Мастака і яго сям'і, і, як нехта, хто стаяў блізка каля мяне, акрэсліў зласліва, сабутэльнік — разам каньяк жэрлі з усімі выцякаючымі з гэтага наступствамі. Паэта пад змрочную музыку Чурлёніса, якая гучала фонам, высакаштыльна і шматслоўна прааналізаваў творчасць

Мастака, запаліў свечкі і пакадзіў яму, параўноўваючы ці то з Рэрыхам, ці то яшчэ з некім падобным — не памятаю ўжо, прыплёў агульнавядомыя іншыя аўтарытэты, панегірнічаў, узвысіў яго да ўзроўню айцоў нацыі, паміж гэтаю прозаю кускамі ўстаўляў вершы, у тым ліку і свайго ўласнага клёпу, і рабіў гэта маласвяточна, аднастайна, галосна і пасялянску занудна. Потым Паэта даў слова культурнаму і ўніверсітэцкаму начальству — тыя таксама нешта падобнае згаварылі, адгаварыліся — і пабеглі па сваіх справах. Юбіляр, седзячы ў калясцы, толькі вачыма міргаў, і не было зразумела, падабаецца яму гэта ці не... Потым слова ўзяла Жонка і доўга дзякавала і дактарам, і начальству, і сябрам, расказвала, як цяжка было ў першыя дні пасля хваробы, і як палепшылася здароўе Мастака, і цяпер нават можна з ім неяк паразумецца...

Паэта запрасіў прысутных павіншаваць Мастака са святам — да ягонага вазка кінуліся нейкія дзеўкі з букетамі, і трэслі ягоную руку, і заглядалі ў вочы, абцалоўвалі, і, пакінуўшы букеты яму на каленях, саступалі месца іншым дзеўкам, а тыя таксама трэслі ягоную руку, заглядалі ў вочы, абцалоўвалі, і, кінуўшы букеты яму на калені, саступалі месца іншым...

Мы з сябрамі не дабылі да канца — не маглі на гэта ні глядзець, ні слухаць больш не маглі, — а я ўявіў, што файна было б, калі б Мастак раптам падняўся з вазка, усміхнуўся і спытаў: «Ну, як я вас усіх напалохаў? Што гэта вы за завочнае адпяванне тут мне зладзілі, я ж жывы яшчэ, канчайце хернёй страдаць, давайце па чарцы зробім, замочым адкрыццё!!!»

Але цудаў у нашым мястэчку не бывае...

# КАНТРАБАНДЫСТЫ

Не бачу я нічога рамантычнага ў гэтай прафесіі! Ды і не прафесія то цяпер у мястэчку G., а так, пекла на тэрыторыі асобна ўзятага цягніка, сумесь дурдома і турмы! Можа, калісь быў ва ўсіх гэтых перацёгваннях тавараў праз мяжу нейкі флёр, нейкі прысмак авантурніцтва, а як жа — на плячах прэш непамерна вялікі, цяжкі мех, перакідаеш яго праз калючы дрот, перавальваешся сам, хапаеш мех — і наўцёкі, а за табою — мат-перамат, сабачы брэх, стрэлы з аўтамата, з тваёй левай рукі пырскаціць струмень крыві, а ты бяжыш...

Можа, калісь такая рамантыка і была, але прапала. Зараз туды ўсё возіцца ў абшыўцы дабітага вагона, на людзях, альбо на сабе, і ці не ў самых інтымна-нечаканых месцах...

...І аніякае там золата ці мікрафільмы, на якіх зафіксаваны спіс штатных супрацоўнікаў музея атэізму і гісторыі рэлігіі з адрасамі і хатнімі тэлефонамі, а так, дробязі, у асноўным танныя цыгарэты.

А пачыналася ўсё якраз вельмі нязвыкла і нават прыгожа.

Напрыканцы васьмідзясятых — напачатку дзевяностых паадчыняліся раптам знешнія межы Краіны Саветаў, і імгненна ў бок Заходняй Еўропы, як і з яе, пацяклі, перакрыжоўваючыся, дзве людскія ручаіны — савецкія людзі стараліся дабраць за некалькі месяцаў тое, чаго ім Савецкая ўлада даць за шэсцьдзясят гадоў свайго існавання не ў стане была — ад пішучых відэаплэераў «Goldstar» да патрыманых нямецкіх аўто, а замежнікі, у асноўным палякі, ратавалі сябе ад галоднае смерці ва ўмовах ваеннага стану беларускай смятанай і сырам, ездзілі па танныя каляровыя тэлевізары, але былі сярод іх патрыёты і ідэалісты, каторыя хацелі ўбачыць родныя мясціны, з якіх вымушаныя былі паехаць трыццаць ці сорак год таму.

Адзін дзядзька з Беластока то ў наша мястэчка G. прыбег на дзвюх сваіх нагах, бо якраз улады арганізоўвалі сумесны бязвізавы беларуска-польскі марафон ці то з Сакулкі, ці то з Кузніцы ў G., дык той беластачанін, народжаны і выхаваны

колісь у нашым мястэчку, падаўся на ахвотніка, хоць ніколі ў жыцці не бегаў, і прысунуўся ад польскае мяжы ажно да помніка Леніну на Гарадніцы — там яго чакаў фініш.

Я бачыў гэтага чалавека на ўласныя вочы — ну нічога асаблівага: маленькі, лысаваты, гадоў пад шэсцьдзясят, з мокрымі вачыма, можа, ад непрывычна доўгай дыстанцыі, а можа, ад пяражытага за некалькі апошніх хвілінаў, калі перад табою, бягучым, адчыняецца раптам нязменная панарама — на правым беразе — Каложа, побач Стары і Новы замак, Базіліянкі, няма толькі з дзяцінства помнай высокай вежы Фары Вітаўта...

Ты бяжыш мостам, пад табою годна цурчыць Нёман, а з моста ў горку — і на Высокі рынак, справа ад цябе велічна праплываюць Бернардыны, Францыск Ксаверы, а ты апошнімі сіламі пхнеш сябе ўніз Дамініканскаю, і цябе вітаюць воплескамі з ходнікаў выпадковыя пярэхадні, а перад табою паволі едзе міліцэйскі «Масквіч» з мігалкаю, і ты быццам з гэтага мястэчка нікуды ніколі не выязджаў, ты свой, цябе тут любяць і ведаюць усе...

Гэта быў адзін з першых колішніх ураджэнцаў мястэчка G., каторы адведаў бацькоўскія палеткі вельмі нетыповым спосабам, не раўнуючы, сярэднявечны студэнт! Далей візітаваць сваякоў і знаёмых пачалі і іншыя грамадзяне суседняй краіны, толькі яны перасоўваліся ў прасторы цягнікамі і маленькімі польскімі «Фіятамі». Ніколі не забудуся сівога дзядульку ў вагоне электрацягніка «G. — Беласток». Гасцінныя g...скія сваякі, відаць, з вечара напаілі польскага госця не вельмі добраю мясцоваю гарэлкаю (зараз яна значна палепшала), а калі ўбачылі з ранку, што яму дрэнна, то ўсунулі на дарожку ў руку бутэльку паскуднага піва пад назваю «Каложскае» і сказалі, што пасля перапою піва павінна дапамагчы... І вось сядзіць бедны дзядулька, мучаецца, лыкне паганага піва з гарла, скрывіцца, сапне, зноў лыкне — ну аніякай палёгкі. І тады ён, гледзячы на жоўтую этыкетку, выдушыў: «У нас то такі бровар бы спалёно!»

Потым суседзі-рамантыкі ўцямілі, што не варта вяртацца з Бацькаўшчыны з пустымі рукамі, трэба ж нешта і прывезці блізкім сваякам, апрача грудкі роднай зямлі. І па-

чалося! Паколькі ў крамах яшчэ было поўна рознага тавару, таму што легкадумныя тутэйшыя жыхары не адчулі на сабе цяжару інфляцыі і ўздзеяння эканамічнага крызісу, то куплялася іншаземцамі і валачылася за мяжу ўсё, што толькі мела нейкую прыдатнасць. Я сам стаўся аднойчы сведкам, калі беларускі мытнік, адчыніўшы велізарны чамадан ад'язджаючага паляка, пачаў з яго даставаць і выкладаць на стол, як фокуснік трусікаў з цыліндра, банальнейшыя кальсоны. Ён акуратна лічыў іх, а ад'езны стаяў і наліваўся бураковай чырванню. Палічыўшы дакладную колькасць штук, мытнік спытаўся паляка бездакорліваю пальшчызнаю, якой бы не пасаромеўся сам Адам Міцкевіч: «Прошэ Пана, я розумем, жэ маце у себе крызыс, але для чэго Пан везе тшыдзесці пар калесонув?», на што канчаткова збянтэжаны паляк адказаў: «Прошэ Пана, я хцэ се усправедлівіць!!! Я... я родзіне бардзо велькоў мам!»

А потым у нас выбухнуў небывалы росквіт тавараабмену, але толькі ў адным, заходнім накірунку. Палякі, зрэфармаваўшы сваю кволую эканоміку, у адначассе пабагацелі, паганаровелі і перасталі ўжо ездзіць да нас — а нашто ім было?

Затое мы, нагрузіўшы пстракатыя торбы з цыраты розным экзатычным таварам — цыгарэтамі, італьянскім мылам, маззю ад радыкуліту, гарэлкаю, матрошкамі, прэзерватывамі, інгалятарамі, адэкалонам «Рускі лес», пінскім трыкатажам, кавамолкамі і сакаваркамі, вантузамі, крышталём з Бярозаўкі, стаялі потым з гэтым усім на марозе ці на пякучым сонцы на прасторы ад Сакулкі да Познані і ад Кэнтшына да Ёрданава, і нешта-такі ды расходзілася, не за раз усё, але паволі. Аднойчы на базары ў Бельску-Падляшскім прадаўся нават чырвоны піянерскі барабан, і калі ўладальнік падлічыў прыбытак, то атрымалася, што фінансавы пад'ём на барабане склаў ажно трыста адсоткаў у параўнанні з тым, за колькі ён быў куплены на Радзіме! А мой знаёмы кіроўца аўтобуса, бедалажка, так і не змог збыць польскім панам конскі хамут, усе падыходзілі, прыцэньваліся, ды толькі хамут быў замалы, не як на коніка, а хутчэй як на жарабя, затое нашая іншая сяброўка, аблажыўшыся сталёвымі косамі-літоўкамі, што

рабіла яе падобнай на сярэднявечную Смерць-сухарэбрыцу, так бойка імі гандлявала, што за паўгадзіны пакупнікі выкупілі ўсё, і сяброўка шкадавала: «Эх, трэба было яшчэ штучак з пяць у сумку ўціснуць!!!»

Амаль што ўсе тады такім бізнесам займаліся —і дактары навук, і выхавацелькі дзіцячых садкоў — трэба было ж неяк і сем'і карміць! Таму ад панядзелка да пятніцы людзі хадзілі на працу, а ў суботу з самага ранку цягнуліся з торбамі на цягнік на чыгуначны вакзал, праходзілі мытню і пашпартны кантроль, і праз гадзіну-дзве ўжо раскладалі тавары на гасціннай польскай зямлі...

А потым неяк сітуацыя тут стабілізавалася, палепшала крыху, і на працы пачалі плаціць нібы больш, і многія нашыя грамадзяне, з палёгкаю ўздыхнуўшы, пахавалі пстракатыя торбы па шафах і болей ужо іх адтуль не даставалі. А цёгаць самы ходкі тавар — папяросы і гарэлку — працягваюць толькі хочучыя падлатаць зусім дзіравы сямейны бюджэт, іх зараз неверагодна паболела!

...Ці тыя, хто думае, што гэта хуткі і лёгкі заробак, у асноўным знерваваныя, брыдкія, нявыхаваныя, пакінутыя мужамі кабеціны, але яны праз паўгода співаюцца і дурэюць, а на іх месцы прыходзяць такія ж елаватыя...

...І тыя, у каго гэта найлепей за ўсіх атрымоўваецца, — сапраўдныя прафесіяналы: непітушчыя, халаднакроўныя, вытрыманыя, карацей гаворачы, мужчыны. Яны займаюцца гэтай працай ад канца васьмідзясятых і па сённяшні дзень, трымаюцца заўсёды разам, з імі можна пагаварыць на любыя тэмы, яны разбіраюцца ў палітыцы дый эканоміцы, пра іх вялікае багацце і катэджы пад Малою Бераставіцаю ходзяць ашаламляльныя чуткі, але толькі чуткі — часам такое здараецца, што тое, што сёння зарабіў, заўтра страчваеш беззваротна...

Кажуць, нядаўна нейкія вучоныя знайшлі ў архівах Адама Міцкевіча адзіны ягоны верш на беларускай мове, не верш, а так, два радкі:

На Страшным Судзе
Усім у сраку будзе!

Дык адзін разумны чалавек, седзячы ў вагоне цягніка і гледзячы на гэтыя дантэйскія сцэны — раскручванні і закручванні сцен і столі ў вагоне, хаванні і перахоўванні папяросаў, мат-перамат, агульную дэмаралізацыю, брак элементарнага ўстыду і збыдленне роду чалавечага, галосна пракаментаваў, што ўсё-такі меў на ўвазе геніяльны сын Рэчы Паспалітай многіх народаў: на Страшным Судзе Анёл Помсты будзе кожнаму кантрабандысту забіваць ў сраку вогненным мячом роўна столькі пачкаў папяросаў, колькі ён іх правёз праз мяжу на працягу жыцця. І добра, калі будзе забіваць пачкамі, яны маленькія, а што, калі блокамі...

Хіба гэты чалавек быў святар альбо пераапрануты біскуп, вельмі разумная асоба, відаць...

# ТАМ...

Ёсць на свеце такая краіна, якая існуе толькі ў людскім уяўленні, але некаторыя сцвярджаюць, што яна існуе рэальна.

Там усё не так. Там час затрымаўся гадоў на пяцьдзясят, калі не на ўсе сто.

Там ходзяць пехатою і босымі, там радыё калі ёсць — то на лямпах, і адно на ўсю вуліцу — у доктара, там гадзіннікаў на руках не носяць, а толькі ў кішэнях, там гандлёвы дзень — дзясятае кожнага месяца, няважна, серада на яго перападае ці нядзеля, і з самага ранку грукацяць па каціных ілбах вуліцы каваныя колы вазоў, а на вазах пішчаць малыя парасяты ці сыкаюць звязаныя гусі.

Там прыгожыя, вымаляваныя дзяўчаты з Працуцічаў і Студзенік прыязджаюць на нядзельную імшу да касцёла ровaрамі-дамкамі і пакідаюць ровары на тваім надворку пад акном хаты, і не разу не было, каб які ровар прапаў. І так файна вазіцца на гэтым ровары, калі ніхто цябе не бачыць, ніхто на цябе не крыкне: «Злазь, засранец малы, бо паб’еш чужое ці папсуеш».

Там шпакоўні на старых грушах, кусты маліны каля плоту, глыбокія калодзежы, і чэрці водзяцца ў альшыне за крыніцаю, а адзін чорт штовечар прыходзіць у хату да старой Паўлюшкі, сядзе ў кутку і маўчыць, а яна ганяе яго: «Ідзі, ідзі туды, адкуль прыйшоў, не пайду я за цябе замуж, непатрэбен ты мне...», а ён сядзіць і маўчыць.

Там слепаваты жыдок Абрамко выпадкова разбівае аб камень цяжкую бутэльку з газаю і плача, бедны, так горка плача, таму што грошы гаспадару за газу трэба будзе вяртаць, а дзяцей карміць за што?

Там твой прадзед Ян, едучы з Поразава возам да Свіслачы з малою ўнучкаю Альжбетаю, скажа ёй, а яна потым пад канец жыцця часта будзе прыпамінаць гэтыя словы табе: «Каб яшчэ мне тут з вамі пажыць, паглянуць, што тут далей будзе...»

Там галантэрнікі на фэстах гандлююць каля касцёлаў размалёванымі святымі Станіславамі і Антоніямі Падуанскімі за пяць рублёў і ружанцамі за рубель...

Там анучнік сунецца з канца вуліцы канём і возам, валіць у чыгунчык канцом пугі і крычыць: «Бабы! Бабы! Бабы!», і ляцяць да яго кабеты, несучы рознае ветхае рыззё, а ўзамен атрымоўваюць пачак змыдліку ці некалькі кавалкаў смярдзючага гаспадарчага мыла.

Там рабін у пятніцу папалудні аббягае ўсе завулкі, дзе жывуць дзеці Ізраілевы, і абвяшчае аб надыходзе Шабату, а хрысціянскія смаркачы бегаюць за ім і перадражніваюць: «Гіп...шу...ра...лаім... Шабас — шабас — шабас!!!», а ён спыніцца, падыме каменя, шпурне ў іх і бяжыць далей.

Там велізарная бочка, якую везлі параю коней з Падароска, скочваецца з воза ў рышток, і са шчылінаў пачынае выцякаць чысты спірытус, і ўсе бягуць да яе, хто з кубкам, хто са збанком — дабро ж прападзе, а нехта, каму сіл не хапіла злётаць дахаты за посудам, стае на калені і пачынае, перажагнаўшыся, смактаць спірытус з рыштока цераз саломку.

Там жанчына на ганку каля аўтобуснай станцыі гандлюе чырвонымі цукровымі пеўнікамі на драўляных палачках па пятнаццаць капеек, і бывала, што табе пеўніка стае, а твайму лепшаму сябру Юрыку — не, і вы аблізваеце твайго пеўніка па чарзе.

Там можна выбрацца са стрыечнымі братамі з ранку ў лес і цёгацца да самага вечара.

Там на імяніны ідзецца да дзядзька Казіміра ці цёткі Паўліны з букетам кветак і паштоўкаю, а вяртаецца з пакамечаным рублём і жменяю ландрынак.

Там у касцёле моліцца па-польску, а ў хаце гаворыцца па-простаму.

Там у нядзелю ніхто не працуе, бо няможна.

Там Маці Божая з малым Езусам перачакала аднойчы навальніцу пад арэшнікам, і камень з яе следам дагэтуль ляжыць.

Там можна заблудзіцца ў высокім жыце, прабегаць, плачучы ад страху, хвілінаў пяць, затым, як мама вучыла, стаць на калені, згаварыць пацеры — і адразу выскачыць на дарогу.

Там салавей на могілках так пяшчотна і чула высвіствае ноты, быццам хоча, каб усе нябожчыкі, нават тыя, каторыя ляжаць за ровам, пачулі яго і пашкадавалі, што ўжо ніколі не паставяць нагі на мокрую ад расы траву.

Там твае дзяды — Юзаф і Станіслаў, і бабы — Франя і Марыля, твае бацькі і сёстры, сваякі, добрыя і не надта суседзі, твае каты і сабакі, твае першыя кніжкі і простыя забаўкі — аранжавы пластмасавы карабельчык з таямнічым надпісам «Руденск», паламаны Чыпаліна і сіняе жалезнае вядзёрка са смешным зайцам. Там тваё ўсё. І ты там, зусім яшчэ малы, недасведчаны... І тваё першае каханне там, усё тваё там.

Толькі дзе гэтае «ТАМ?»

# ПАДАРОЖЖА З МЯСТЭЧКА М. У МЯСТЭЧКА G. ПРАЗ БАРАНАВІЧЫ І ВАЎКАВЫСК ПРЫГАРАДНЫМІ ЦЯГНІКАМІ, ТАМУ ШТО ТРЭБА БЫЛО ПІЛЬНА СУСТРЭЦЦА СА ЗНАЁМАЙ...

Наперад, сябра мой, наперад! Ляці штосілы на чыгуначны вакзал мястэчка М. да дваццаць чацвёртых рэйкаў, займай месца ў любым вагоне электрацягніка, бо калі не зоймеш — тваё месца зойме нейкі п'яніца ці пенсіянер, а ты так і прастаіш усю дарогу!

Найперш мілы жаночы голас з вакзальных дынамікаў папярэдзіць цябе, па-беларуску і па-руску, што да адыходу цягніка засталося толькі пяць хвілінаў, потым нешта такое ж, але малазразумелае, прабалбоча машыніст у мікрафон, узгадае пра падазроныя пакункі без гаспадара і што трэба ў гэтым выпадку рабіць, пройдуцца два важныя каратканогія таўстасракія міліцыянты з чорнымі дручкамі, пільна ўглядаючыся ва ўсе твары — яны дагэтуль шукаюць арганізатараў выбуху ў метро, а за імі адразу пакажацца на пероне знаёмы фатограф з велізарным апаратам — ясна што не самагонным, а фатаграфічным, раней гэты харошы хлопец працаваў у малабюджэтнай дэмакратычнай слонімскай газеце, а потым яго перацягнулі вялікімі грашыма ў «СавБелію» — ён таксама пройдзецца ўздоўж цягніка туды і назад — відаць, выгналі з кабінета праветрыцца ці зрабіць актуальны рэпартаж кшталту «Народ рванул в деревню!», прымчыцца ў апошнюю хвіліну засапелая сям'я з трох асобаў — мама і двое дзетак — маленькая, ну зусім маленькая дзяўчынка і увесь чырвоны ад хуткае хады, сур'ёзнатвары хлопчык з цяжкою пластыкаваю торбаю — мужчына, адным словам, надзея сям'і... Яшчэ раз плентанецца ўздоўж вагонаў п'янаваценькі мужычок, які цэлую гадзіну настойліва чапляўся да кожнага, пытаючыся пра электрычку на нейкія міфічныя Стоўбцы, але так на яе і не сеў, відаць,

перадумаў пушчацца ў падарожжа, потым анемічна свісне свісток — і ты паехаў! I калі ты не дурны і ўмееш сачыць і назіраць, то многа карыснага для сябе за гэтыя некалькі гадзінаў падарожжа ўбачыш...

Прыблізна прыпынкі праз тры ад галоўнай станцыі, у чыстым полі, у невысокай зялёнай азіміне будзе абавязкова ляжаць чорна-белы коцік і па-філасофску, мудра аглядаць наваколле, атрымоўваючы відочную асалоду ад самотнасці і індывідуальнага перабывання на прыродзе, коцік выглядае як выдатная парцалянавая фігурка...

Побач няма ані хлявоў, ані хат, ані абы-якога жылля, скуль гэты коцік тут узяўся?

Можа, ён пасварыўся з нядобраю жонкаю і вырашыў так вось адпачыць ад сям'і, шматлікіх пярэстых кацянятаў і дастаўвучага гаспадара, а можа, проста захацеў папалявадзь на мышэй і прынесці ўвечары родным і блізкім пару напаўжывых экзатычных палёвых стварэнняў...

Мірганудзь у нямытым векі-вечныя вагонным акне па чарзе: мужчынкі, валакучыя на самаробнай паламанай калясцы макулатуру, дзеці, што апантана махаюць з горкі нам усім рукамі, шуляк на прыдарожным тэлефонным слупе, чыгуначны рабочы з вядром і пэндзлем — ён паволі фарбуе сіняй фарбай нейкую трубу, і побач стаячая кабецішча з сігнальным чырвоным сцяжком, дзяўчынка з дробным сабачкам, а ў сабачкі на ружовым ашыйніку — флікер, выпіваючая ў ельніку разнаполая кампанія, замшэлы каменны каталіцкі крыж пачатку дваццатага стагоддзя ў кустах — ніхто ж яго не зачапіў усе гэтыя гады, слаба цякучыя з брудных горбаў дагэтуль нерасталага снегу дробныя ручаіны і крыху большыя, зіма адпаўзла дзесьці далёка ў лес і затаілася да снежня, а брудныя горбы — толькі слабы спамін па ёй...

А на наступнай станцыі вынесуць з хаты вянкі, вечка і труну з нябожчыкам — і гэта ты паспееш убачыць!

Народ пачынае есці, пасмоктваць з гарла, азіраючыся па баках, таннае жыгулёўскае піва, размаўляць на грамадска-палітычныя тэмы, чытаць загадзя купленую друкаваную дрэнь і разгадваць красворды, а ўвойдуць на прыпынку дзве

кабеты — адна з іх цяжарная, — і малады хлапец з суседняе лаўкі, хіба, відаць, нядаўна жанаты, хуценька схопіцца і саступіць сваё месца побач з жонкай, таксама цяжарнай, той цяжарнай, каторая ўвайшла, і прастаіць ён амаль да самых гэных вышэй спамянутых Стоўбцаў, а дзве цяжарныя жанкі, як біблейскія Марыя з Альжбетай, усміхнуцца да сябе і нават пачнуць аб нечым размаўляць...

Гэткая ідылія будзе доўжыцца амаль што да самых Баранавічаў — народ з працы з М. едзе выхаваны, у асноўным малады, камп'ютарна падкаваны, грашова забяспечаны. Чыста апранутыя, адукаваныя, высокааплочваемыя людзі — таму і паводзяць сябе ў асноўным годна, нетаропка, стрымана, матам ніхто не лаецца і на жэбры не ходзіць, але ўвесь гэты малады народ паволі будзе пакідаць цягнік — хто выйдзе ў Фаніпалі, хто ў Койданаве, а ўжо самыя цярплівыя сыдуць на Баранавічах Палескіх. Усё — цягнік далей не ідзе! Бягом з яго — і на сустрэчу!

Выкарыстаўшы плённа гадзіну, якая вымалявалася паміж прыбыццём электрычкі з М. і адпраўленнем дызельцягніка на G., на важную размову з сяброўкаю, ты куляю ляціш на станцыю Баранавічы Цэнтральныя, купляеш квіток і ўскокваеш у дзверы надыходзячага старога заслужанага дызеля з ваўкавыскай дэпоўскай прапіскаю...

А тут усё далёка не так ружова, як у папярэднім цягніку. Станцыі праз дзве ў дызель настойліва пачнуць старацца ўлезці чалавек з дзвесце жаўнераў нашае роднае арміі, прычым усе шчэмяцца ў адзін вагон і ў адныя дзверы. Цягнік салдацее адразу — пачынае смярдзець стаптанымі чаравікамі, гуталінам, шмаравідлам, сырымі старазапаветнымі палаткамі, таннымі цыгарэтамі, гаспадарчым мылам і чатырнаццацццю днямі без чыстае бялізны і гарачае вады. Салдаты, пазбіваўшыся ў купкі ў тамбурах, пацíху кураць у рукаў, нясмела пачынаюць зачапляць словамі дзяўчат, але тым не менш з іхніх твараў не сыходзіць нейкі выраз прыбітасці і вінаватасці, яны нібы не з гэтае зямлі, і ясна чаму — што такое пасля двух тыдняў стрэльбаў у глухім лесе ўлезці ў звыклы, нармальны, штодзённы грамадзянскі

свет. Я не вытрымліваю і пытаюся старшага сяржанта — а з якой такой пары жаўнеры тэрміновай службы пачалі ездзіць з палігону ў казармы дызелямі, а дзе ж славутая і надзейная вайсковая транспартная тэхніка, дзе крытыя брызентам ЗіЛы і «Уралы» з надпісам белай фарбаю «Люди», на што старшы сяржант прастадушна адказвае адным сказам: «Дык дызпаліва няма!»...

Трэба ж было пры Савецкай уладзе столькі гараваць і цяжыцца, замест вырошчваць свіней і кароваў — кляпаць БТРы і аўтаматы Калашнікава, вазіць упоцемку, хаваючыся, ракеты з боегалоўкамі з Палесся на Віцебшчыну, каб потым дажыцца да такога — перціся разам з усімі ў цягніку!

Жаўнеры вывальваюцца з дзвярэй на перон у Слоніме, шыхтуюцца і з левае нагі маршыруюць у казармы пехатою...

Амерыканскім шпіёнам — аніякае работы!

Далей, з Слоніма да Ваўкавыска — ужо зусім нецікава — адныя засіканыя бамжы незразумелай арыентацыі, з імі бамжыхі — класічныя вельмі — з паламанымі насамі, бяззубыя і хрыплагалосыя, у руках — торбы, каторыя дасціпныя палякі ахрысцілі акрэсленнем «мара акупанта», а ў торбах — вельмі падазроны тавар, ці, не дай Бог, парэзаны на кавалкі в'етнамец...

Штохвілінна ляскаюць дзвярыма, лаюцца непрыгожым матам і швэндаюцца то пакурыць, то ў прыбіральню нейкія крываногія смаркатыя сікшы...

Усе яны злезуць з цягніка ў Ваўкавыску, і ў вагоне стане святлей і чысцей.

Застанецца толькі пара — ён, добра падпіты, увесь час засынае і гучна храпе, і тады яна раздражнёна піхае яго ў бок і пачынае дакараць: «Ну Валодзя, людзі ж побач едуць, як ты можаш!», Валодзя лыпае вачыма і ўгукае ў знак згоды, але праз пяць хвілінаў паўтараецца дакладна тое ж самае... Але і гэтая пара пасунецца да выхада за Россю, і вагон спусцее цалкам...

Толькі ў Мастах падсядзе на лаўку насупраць гаротная бабуля, адна з тых многіх, каго бессардэчныя дзеці ці ўнукі выкінулі з хаты, і таму яна начуе па цягніках, яе горкую гісторыю ведаюць усе кандуктары на гэтай чыгунцы, і не

зачапаюць яе, і білетаў ніколі не пытаюць, бабуля павячэрае сухімі скарынкамі, потым заплюшчыць вочы і пачне ці то гаварыць пацеры, ці то размаўляць з нейкім невідочным і добрым, скардзячыся на долю, на Бога, каторы забыўся пра яе і не забірае, на сваякоў, на дзяцей і ўнукаў, на ўсё, словам...

І так мы ўтраіх, з бабуляю і яе нябачным суразмоўцам даедзема да канцавой станцыі G.

# FINALE

Няма нашага мястэчка G, няма!!! І мястэчка Р. няма, і мястэчка S. няма, і мястэчка L. няма, і таго няма, і гэтага, і іншых... Былі яны, але калісьці. А потым цеснымі зрабіліся. Расцягнулі мы іх па ўсім свеце, нібы здавалася — ну адзін з нас сабраўся, паехаў і не вярнуўся, за ім другі. Але кожны, выязджаючы, НЕШТА такое адсюль забраў, і сам не вярнуўся, і НЕШТА з сабою не прывёз. Так мы нашыя мястэчкі і парасцягалі, паразменьвалі на паштоўкі, на фотаздымкі, на сувеніры, на танныя акварэльныя малюнкі і карціны маслам.

І маючы іх на сцяне ў спальні ці на маніторы камп’ютара, мы не разумеем — купляючы чарговую акварэльку ці робячы чарговы здымак, мы гэтым самым адбіраем частку прыгажосці ў нашага мястэчка, а сабе прыдбоўваем індульгенцыю, што нібы гэты ўбогі твор невядомага жывапісца будзе прыпамінаць нам, у разе нашай немагчымасці вярнуцца, нейкія родныя, знаёмыя мясціны, знаёмыя ад маленкосці... Ні халеры!!! Самападман наіўны і крыўдлівы!!! Фотаздымак не пахне хлебам за чатырнаццаць капеек, яго нельга палізаць, як цукровую вату, з яго не дзьме цёплы паўднёвы вецер, і выпадковыя людзі, якія на ім навечна замерлі, ужо ніколі не ажывуць, не паціснуць адзін аднаму рукі і не пасунуцца брукаванымі вуліцамі па сваіх штодзённых справах.

І мястэчка нашага G. даўно няма, і краіны той няма, краіны без межаў, без урада, паліцыі і войска, краіны, якая пачыналася за парогам хаты, а канца і краю ёй не было...

Нібы хочучы адкупіць сваю віну за невяртанне, час ад часу нашае G. наведваюць тыя, хто з яго з’ехаў па сваёй, але ў большасці не па сваёй волі, адныя прыязджаюць проста так, за ўласныя грошы, іншыя — з нейкай смешнай аказіяй, ці то з гуманітарнай дапамогай, ці яшчэ з чым...

Але ўсе тыя добраахвотныя ваяжоры з Розных Бакоў Свету, прывозячыя сюды кніжкі з памылкамі, танныя цукеркі і пратэрмінаваныя лекі, усё ніяк не могуць зразу-

мець, альбо не бачаць, ці не хочуць бачыць, што сітуацыя даўно перамянілася, што таго мястэчка G. і ваколіц, каторыя калісьці былі апетыя Ажэшкаю, Міцкевічам, Чачотам ці Кандратовічам, ужо даўно няма, ды іх і не было ніколі!

Была нейкая паэтычна-песенная фантазія ў галаве творцы, якая малявала чытачам чорна-белыя ідэалізаваныя малюначкі з жыдкамі, хлопамі і пастушкамі, вербамі і крыжамі на раздарожжах, сіроткамі Марысямі, Янкелямі-вазніцамі і Янкамі-музыкантамі, біскупамі і жабракамі, а і гэтага тут рэальна ніколі не было — у асноўным было зусім іншае жыццё, жорсткае і несправядлівае ва ўсёй сваёй штодзённасці, была аднастайная, ніколі не сканчаючаяся праца, цяжкая неверагодна, без механізмаў і трактароў, з канём і возам, і, як выратаванне ад яе, былі ў канцы тыдня субота, а потым нарэшце і нядзеля, калі можна было ляжаць, колькі вылежыш, і не браць да галавы нічога, таму што святы дзень маем абавязак шанаваць, імша а трынаццатай гадзіне ў касцёле ці царкве, потым абед і пасляабедзенны сон на засланым ложку за шафаю, не распранаючыся, а заўтра — ізноў ПАНЯДЗЕЛАК!!!

Быў цар, потым Другая Рэч Паспалітая, былі першыя Саветы, немцы і другія Саветы, зноў нешта мянялася, і мянялася на горшае цэлы час, забіваліся людзі, руйнаваліся касцёлы, цэрквы, сінагогі і могільнікі, перакройваліся межы, а на сэрцы нашага мястэчка G. штораз болей рабілася плямаў і ран... Ах яно беднае, беднае, яно ж памятае кожнага свайго жыхара, кожнага з нас па імені і прозвішчы...

Сюды варта прыехаць, першага ці другога лістапада, на Усе Святыя ці на Задушкі, хоць апошні раз у жыцці, каб старымі нямоглымі нагамі ізноў прамераць ад пачатку з дзяцінства прывычнае кола — шлях ад мейсца, дзе стаяла калісь Ратуша на Высокім рынку — Дамініканскаю вуліцаю на Гарадніцу — з Гарадніцы — да чыгуначнага вакзала — адтуль на Бернардзінскія могілкі, — спыніцца перад помнікам над магілаю Элізы Ажэшкі, запаліць свечкі ёй і ўсім сваім сваякам і знаёмым, — а потым Ерусалімскаю і Гандлёваю вярнуцца на Высокі рынак, і, пасядзеўшы з гадзіну ў лаўках Фарнага касцёла, вышараваных да ідэальнага бля-

ску рукавамі сталых парафіян, ці проста пастаяўшы ля алтара Маці Божае Кангрэгацкай, памаўчаўшы, пачуўшы, як б'ецца тваё ўласнае сэрца пад мокраю ад хвалявання кашуляй, паўспамінаўшы сваю выдатную прыгожую непаўторную маладосць, потым вярнуцца ў такі Вышкаў Мазавецкі пад Варшаваю ці ў Квідзынь... і праз некалькі дзён ціха... нечакана... памерці...

*Grodno–Visby–Grodno,*
*2010–2011–2012*

# КАРЧМА НА РАЗДАРОЖЖЫ (ЗАБАВА)

*Спроба заходнебеларуска-ўсходнепольскага кабарэ з жартамі і песнямі колькасцю адзінаццаць...*

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:**

Шоўмэн з мікрафонам.
Самюэл Зэлігман.
Ёсель Зэлігман.
Пяць музыкаў: скрыпачка, кантрабасіст, акардэаніст, бубнач, гітарыст.
Сроэл Варашыльскі, прадавец папугая.
Папугай.
Рэбэка-вар’ятка.
Таварыш інструктар.
Першы камсамолец.
Другі камсамолец.
Трэці камсамолец.
Камсамолка.
Сцяпан Максімавіч, будучы студэнт Камунпрацусходу.
Голдвін.
Мэер.
Першы паліцыянт.
Другі паліцыянт.

**ДЗЕЯ ПЕРШАЯ**

Пачынаецца ўсё традыцыйна і па-англійску, калі ў нуварыша-амерыканца, які трапіў у сотню самых багатых людзей у гэтым годзе, пытаюцца, як і калі ён гэтага дасягнуў, ён расказвае пра сямейныя традыцыі, што яго дзед да прыбыцця ў Амерыку трымаў карчму на раздарожжы, і нават добра ў яго ішлі справы, проста потым уся сям’я вырашыла пашукаць шчасця трошкі ў іншым краі, ну і прыехалі сюды, у ЗША.

Такім чынам, на сцэне нешта накшталт аскарнага местачковага Галівуда, усё блішчыць і пстрыкае, пераліваючыся рознымі таннымі кітайскімі лямпачкамі. Выходзіць пад апладысменты шоўмэн з мікрафонам, гучыць нейкі музычны джынгел.

Шоўмэн (*па-англійску*). And now I'm talking to Mr. Samuel Zeligman. According to the WAIS magazine, last year he was on the list of one hundred richest businessmen of this country.

Выходзіць шчаслівы Зэлігман, музыка і воплескі.

Mr. Zeligman, is it difficult to become a millionaire in this blessed country, in general, and in such a small town like Gardatown, in particular? (*Потым глядзіць на публіку, нешта мяркуе і выдае па-беларуску.*) О, пачакайце, містэр Зэлігман, дык яны ж нічога не зразумеюць па-ангельску, трэба валіць па іхняму. (*Вяртае Зэлігмана на месца і паўтарае сцэну ад пачатку па-беларуску.*) А зараз мы размаўляем з містэрам Сэмюэлем Зэлігманам, які ў мінулым годзе ўвайшоў у сотню самых багатых бізнесменаў нашай краіны па версіі часопіса «Вайс».

На сцэне з'яўляецца містэр Зэлігман, з дзясятак асобаў з фотакамерамі падлятаюць да яго і пачынаюць пстрыкаць флешамі, ён задаволена ўсміхаецца.

Шоўмэн. Містэр Зэлігман, ці цяжка чалавеку зрабіцца мільянерам у нашай благаслаўлёнай краіне, ды яшчэ ў такім малым мястэчку, як Гардатаўн?

Самюэл Зэлігман. А, добра!!! (*І пачынае па-беларуску.*) Ну, ёсць два шляхі, каб зрабіцца мільянерам. Першы — традыцыйны, калі ві падымаеце на вуліцы з зямлі брудны яблык, мыеце яго, абгортваеце ў паперу і прадаяце за дзесяць цэнтаў. Назаўтра вы назберваеце на вуліцы ўжо пяць кілаграмаў яблыкаў, мыеце і прадаяце іх, зарабляючы пры тым ажно даляр, потым пашыраеце штат — наймаеце чарнаскурых афраамерыканскіх хлопчыкаў, якія ўжо не падбіраюць яблыкі на вуліцах, а толькі трасуць іх па адмыслова заарэндаваных табою садах, мыюць і абгортваюць у паперу, і толькі справа пачынае выходзіць на добрае, як з

Бостана ў вашую хату прыходзіць паштальён з тэрміновай тэлеграмай: Сэмюэль, сёння з ранку памерла твая цётка Разаля, якая ў спадку пакінула табе роўны мільён даляраў. І ты не ведаеш — ці плакаць табе, ці смяяцца, бо, з аднаго боку, твая цётка памерла, з другога — у цябе цэлы мільён у кішэні, а што з таго мільёна, калі твой яблычны бізнес ужо ні табе, дый нікому не патрэбны. Праўда, у мяне ў Бостане ніколі не было багатай цёткі, і я вымушаны быў ісці другім шляхам, трохі цяжэйшым, — выдумаць і прадаць нейкую простую рэч, якая неабходная і патрэбная ўсім, пра якую ўсе мараць, але якую ніхто не можа здагадацца зрабіць, апрача цябе, ясная справа. У нашай god-bless-America апошнім часам вельмі марозныя і халодныя зімы, дык вось я некалькі год таму заняўся на сваёй фабрыцы вырабам цёплых шкарпэтак з казінае воўны і дайшоў з гэтымі шкарпэткамі да першага мільёна даляраў, потым да другога і трэцяга. У той краіне, скуль калісьці прыехала сям'я майго дзеда, у свой час таксама былі вельмі суворыя зімы і людзі, каб ратавацца ад холаду, насілі ўзімку такія ж шкарпэткі з казінае воўны, ой, дык яны дапамагалі не толькі ад холаду, але і ад болю, ад гарачкі, і ад трасцы, і ад развальнення страўніка — словам, залатыя былі шкарпэткі. (*Як доказ вымае з кішэні і паказвае прысутным у зале велізарную, амаль метровую шкарпэтку.*)

Зала ў захапленні.

Ш о ў м э н. А скуль паходзіць вашая сям'я?

С а м ю э л  З э л і г м а н. Ёсць такі кавалак зямлі, такі куток ва Усходняй Еўропе — у розныя часы ён называўся па-рознаму: то Вялікім Княствам Літоўскім, то Рэччу Паспалітаю, то Расійскаю Імперыяй, то Польшчаю, назвы мяняліся, толькі людзі там не мяняліся, — карацей, калі вам пашчасціць настолькі, што ві калісьці паедзеце з Ваўкавыска старым каралеўскім трактам на Палессе, напрыклад у Шарашова, то паміж Поразавам і Новым Дваром, роўна на палове дарогі, абавязкова мінаце месца, якое называецца Забава. Там цяпер нічога няма, адно лес парос... А калісьці такое бойкае месца было... Там стаяла карчма «Забава», якую трымаў мой дзед. Бачыце, карчмы даўно няма, а на-

зва засталася. А колькі там перабывала цікавых людзей, а колькі перагаварылася, пераспявалася, пражылося!!! Ой-ёй-ёй!!! Дык вось, калі ў мяне пытаюцца: «Сэмюэл, а што б ты хацеў рабіць апрача таго, чым ты зараз займаешся?», то я адказваю: «Я б хацеў мець карчму на раздарожжы, як мой дзед Ёсель».

**ДЗЕЯ ДРУГАЯ**

Знікаюць усе прысутныя, разыходзіцца заслона, і мы з вамі апынаемся ў сапраўднай карчме другой дэкады дваццатага стагоддзя — драўляныя лаўкі, простыя сталы, маленькія вокны, нізкая столь, на бэльцы вісіць клетка з пудзілам. У карчме цемнавата, пуста, звонку ўсё мацней пачынаюць валіць грымоты. Па карчме праходжваецца стары Ё с е л ь  З э л і г м а н.

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Ай-яй-яй, дык што ж гэта такое нарабілася — канец верасня, добра было, цёпла, і раптам такія страшэнныя хмары насунуліся ад пушчы, ад Навасёлкаў, і грымоты, ой, зараз уваліць навальніца, так уваліць, ой дасць дык дасць!!!

Першы раз ударае гром — у карчму ўскоквае с к р ы п а ч к а з інструментам пад пахаю, другі раз валіць гром — а к а р д э а н і с т з акардэонам, трэці ўдар — б у б н а ч, чацвёрты — к а н т р а б а с і с т, пяты — г і т а р ы с т. Валіць дождж так, што аж нам, гледачам, непрыемна і холадна.

Г і т а р ы с т. Людзі вы мае мілыя, дзе ж вы бачылі, каб пад канец верасня такая навальніца ўваліла! Халера, ледзьве паспеў воза паставіць пад паветку і каня распрэгчы. Вось уваліла, дык уваліла. Добры вечар, пане Ёсель!

Ё с е л ь  З э л і г м а н. І вам такога ж вечару, пане Яне! Як я бачу, то вы ад мінулага разу не змяніліся, каля вас толькі музыкі змяніліся, як кавалеры каля прыгожай пасажнай паненкі!

Г і т а р ы с т. Што зрабіць, пане Ёсель, мяняюцца, бо аднаму грошай замала, другі ажаніўся і жонка з хаты не выпушчае, баіцца, каб чаго не вычаўп, трэці ў Амерыку на заробкі паплыў ды ўжо два гады як няма, а людзі шлюбы

бяруць, вяселлі гуляюць — то мушу іншых брацъ. Добрым музыкам заўсёды знойдзецца ў нас на кавалак хлеба.

Ё с е л ь   З э л і г м а н. А дзе зараз былі?

Г і т а р ы с т. На Палессі, аж пад Высокім, тры дні вяселле гралі. Добрае вяселле было, багатае... Праўда, маладая была старавaтая, як на маладую, а малады — дык замалады, як на маладога, але якая нашая справа — хай сабе жывуць шчаслівыя, калі змогуць, а нам што — мы грошы атрымалі — і дахаты!

Паўза, валяць грымоты і бліскае ў вокнах маланка.

От часам вяртаемся мы ўначы пасля вяселля, праз адну вёску праязджаем, праз другую — усюды цёмна, глуха, ано дождджык кропіць і сабакі брэшуць... І думаем самі сабе — якія мы шчаслівыя, і якія гэтыя людзі навокал нешчаслівыя.

Ё с е л ь   З э л і г м а н. А чаму, пане Яне?

Г і т а р ы с т. А таму, пане Ёселю, што мы-та мусіма ехаць, а яны-та мусяць спаць. Хлопцы, дзяўчаты — калі ласка!

М у з ы к і (*спяваюць песню «Верасень»*).

Верасень — слотная пара,
Дождж ідзе бесперастанку.
Эх, прыбіцца б нанач да двара,
Дзвярэй не адчыняць — не бяда,
Пераспім на ганку.

Не касі вокам, коню шэры,
Пачакай — праз паўвярсты
Замігціць агеньчык залаты,
Будзе вёска, а ў вёсцы — вячэра,
Адпачнеш нарэшце ты.

Можа, ў вашай хаце, гаспадар,
Вольны знойдзецца куточак,
Хіба нас, пане гаспадар,
Хіба нас, добры гаспадар,
Нанач з хаты гнаць не схочаш?

Верасень — слотная пара,
Дождж ідзе бесперастанку.

Эх, прыбіцца б нанач да двара,
Дзвярэй не адчыняць — не бяда,
Пераспім на ганку.

Ё с е л ь  З э л і г м а н (*пасля песні*). Ой, як яна мне спадабалася, колькі я ў ёй адчуў свайго, роднага, блізкага... Усь-усь-усь, мусіць, гэтую песеньку напісаў нейкі Адам Гольд, ці Зыгмунт Беластоцкі, ці сам Юрак Петэрбургскі, ці Юлек Тувім з Варшавы?

Г і т а р ы с т. Ды не, шаноўны пане Ёсель, напісалі яе мы. Як прыгаворвае наш калега Джамбул з няблізкага Савецкага Казахстану — што бачу, пра тое і спяваю. А што гэта ў вас у клетцы пудзіла вісіць, раней жа не было?

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Як, ві не памятаеце? Гэта не пудзіла, гэта нешта большае. Дык ві не памятаеце майго папугу? Уй, што гэта быў за разумнае стварэнне, ён быў такі разумны, такі Саламон, Давід і Саул разам!!! Стары зрабіўся і не захацеў больш быць тут з намі. Я вам раскажу, якая цікавая гісторыя была з ягоным купляннем. Прыехаў я гадоў пяць таму да места, дзе ві маеце гонар быць замэльдаваным і таптаць падмеценыя з ранку ходнікі, прыходжу на Сенны рынак, а там мой стары знаёмы Ісроэль Варашыльскі прадае гэтую птушку. А было гэта так...

**ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ**

На сцэне з'яўляецца старазаконны жыдок С р о э л В а р а ш ы л ь с к і, апрануты традыцыйна, з велізарнаю клеткаю, у рост чалавека, у якой сядзіць акцёр, апрануты за п а п у г а я...

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Уй, пане Сроэл, што ві робіце тут, на гэтым не вельмі прыемным месцы з такога самага ранку, ды яшчэ з клеткаю ў руках, сярод сена, дроваў і рознай дробязі? Ві ж павінныя, згаварыўшы мадлітву ў сінагодзы, стаяць у сваёй краме «Мануфактуры-Эконома» і адмерваць і гоям, і нягоям тавар метрамі!

С р о э л  В а р а ш ы л ь с к і. Вяльможны пане Ёсель, кліент скончыўся, кліент цяжка захварэў, кліент памёр, і крама на векі вечныя зачыненая з нагоды смерці кліентуры.

Крызіс, крызіс, і яшчэ раз крызіс!!! Перасталі купляць нават тыя, якія раней куплялі напавер, на крэдыт, на крэску, на запіс у сшытак з цыратнай вокладкай. Няма нават пары грошаў, каб прыдбаць гэтай бязвіннай птушцы, гэтаму цуду красамоўства якіх жменю семак ці шклянку зерня. Пане Ёсель, дарагі мой, залаты, срэбны, брылянтавы, купеце ві ад мяне гэтую папугу, ён жа ж такі разумны, такі ўжо Барух Спіноза, што ўмее размаўляць па колькі словаў на ўсіх мовах гэтага свету, ві мне зробіце вялікую прыемнасць і выратуеце і гэтае гаркавае стварэнне, і маю шматлікую сям'ю ад галоднай смерці!!!

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Добра, добра ўжо, не прасіце ў мяне так жалосна, а то я зараву, як цяля на бойні... Зараз спраўдзім вашага лінгвіста. Папуг, ду ю спік інгліш?

П а п у г а й (*крыкліва*). Ес, сэр, оф косс!!! Год сэйв зэ квін!!! Ха-ха-ха!!

Ё с е л ь  З э л і г м а н. О, што я чую? Такі ві мелі рацыю, пане Сроэл, нешта ён умее.

С р о э л  В а р а ш ы л ь с к і. Я ж вам казаў...

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Паспрабуем трохі іншае! Папуг, а парле ві франсэ?

П а п у г а й. Ві, месье, дакор, ха-ха-ха!!! Малёр аррівэ — кордон, сіль ву пле!!!

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Ну вы гляньце, такі разумны, што аж я не знаю што... А гэтага ты не ведаеш!!! Папуг, шпрэхэн зі дойч?

П а п у г а й. Я, майн лібэр фройнд, натурліш, Анна унд Марта бадэн, ха-ха-ха!!!

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Гэта не птушка, а гэта цуд... Бяру, але астатні раз запытваюся, а ці можаш ты, вянец жывёльнага свету, гаварыць па-нашаму, па-жыдоўску?

П а п у г а й. А ты што, сляпы?

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Як?

П а п у г а й. Ты што, не бачыш, якога я маю носа?

Адпаведная рэакцыя Ёселя Зэлігмана.

А яшчэ я ўмею спяваць мексіканскую песеньку пра пацукоў.

Ёсель Зэлігман, Папугай і Сроэл (*разам выконваюць песню пра пацукоў «Кукарача»*).

Дзевятнаццатага снежня
На узгорку ля ракі,
Ля былой пажарнай вежы
Два сустрэлісь пацукі.
Два старыя кавалеры
Мелі па сямнаццаць год.
Адзін чорны, другі шэры.
А можа, і наадварот.

Што гэта значыць, што гэта значыць?
Хіба што ад ста вякоў
Ніхто не бачыў, ніхто не бачыў
Такіх прыемных пацукоў.

Чарку выпіўшы гарэлкі,
Закусіўшы агурком,
Выхваляўся пацук шэры
Перад чорным пацуком:
«Гайда са мною, мой браце!
Там, на ўсходзе, хоць зіма,
А зато там дэмакратыя
І дзяўчаты задарма».

Што гэта значыць, што гэта значыць?
Хіба што ад ста вякоў
Ніхто не бачыў, ніхто не бачыў
Такіх прыемных пацукоў.

Чарку выпіўшы другую,
Закусіўшы сальнай свечкай,
Усебакова і дарэчна
Чорны прамаўляў пацук:
«Непрыстойна і нягодна
Ганьбіць роднае услых.
Гарадзенскія дзяўчаты
Прыгажэйшыя за ўсіх!»

Што гэта значыць, што гэта значыць?
Хіба што ад ста вякоў
Ніхто не бачыў, ніхто не бачыў
Такіх прыемных пацукоў.

Хмара неба зачыняла,
Галасіла дзесь піла,
А дыскусія трывала,
Бо гарэлачка была.
Толькі раптам з-за магілак
Паказаўся брудны кот.
Й адзін шчур папёр на захад,
А другі уцёк на ўсход.

Што гэта значыць, што гэта значыць?
Хіба што ад ста вякоў
Ніхто не бачыў, ніхто не бачыў
Такіх прыемных пацукоў.

**ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ**

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Такая вось была гісторыя!!! А чаго вось той ваш музыка, ну той, з агромнаю скрыпкаю, увесь час альбо заглядае па вокнах, альбо адседжваецца па кутках? Мусіць, ён баіцца людзей ці чакае нашага пісьманосьца Абрамка з пільнаю весткаю, а можа, нешта нядобрае зрабіў?

Г і т а р ы с т. Каторы? А гэты, кантрабасіст? Кантрабасіст наш хаваецца ад паліцыі, і даўно ўжо хаваецца, гады са два...

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Што ві гаворыце, і што ж ён такога нарабіў нецікавага, што мусіць боўтацца па вяселлях і адпустах, замест каб спакойна хадзіць па чыстых гарадзенскіх вуліцах?

Г і т а р ы с т. Дык ён афіцэра шпурнуў з моста ў Нёман.

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Ой, ві з мяне, мусіць, здзекуецеся! Ён далібог непадобны на Лейбу Троцкага! Ён, такі малы і дробны, а кінуў у ваду з моста цэлага польскага генерала?

Г і т а р ы с т. Не верыце мне, дык хай ён вам сам усё распавядзе!

К а н т р а б а с і с т. Такая справа, пане Ёсель, што да васямнаццаці год я жыў у Гародні, на Палестыне, а потым, перайшоўшы аднойчы па мосце, нешчасліва закахаўся ў дзяўчыну з супрацьлеглага берага сівога бацькі Нёмана — яе звалі Ганка і жыла яна на Пагулянцы. А да яе заляцаўся і нейкі вайсковы. І вось вяртаўся я аднойчы ўлетку ўвечары праз гэны мост дахаты, а на мосце... А, давайце я пачну ад самага пачатку гісторыі! (*Спявае песню «Ганка».*)

Заплаціце аркестры,
Каб болей не грала,
Хай штось вып'юць, закусяць,
Хай ано памаўчаць.
Я, пабіты, парэзаны,
Пашыты, пастрэляны,
Аб каханні сваім недарэчным,
Як ўмею, вам буду спяваць.

Ганка — дзеўка з Пагулянкі,
Хата бляхай крыта,
Нябрыдкія вочы,
Але ж нябрыдкі і пасаг.
Ганка — няверная каханка,
Як сказаў стары Савоська:
«A żeby ciebie, głupia kurwo, trafił szlag!»

Усё было надта спраўна,
І паціху, патроху
Нават меліся шлюб,
Як належыць, узяць.
Але ў ботах вайсковец
Перабег нам дарогу,
Я ўначы раз іду, а яны двох
На нёманскім мосце стаяць.

Ганка — дзеўка з Пагулянкі,
Хата бляхай крыта,
Нябрыдкія вочы,
Але ж нябрыдкі і пасаг.

Ганка — няверная каханка,
Як сказаў стары Савоська:
«A żeby ciebie, głupia kurwo, trafił szlag!»

Эх, як кроў закіпела!
Дык да помсты, панове!
Болей гэтага здзеку і здрады
Цярпець я не мог.
Першай Ганку-каханку
Кінуў ў чорныя хвалі,
А за ёю вайсковец у ботах
Паплыў, як купальскі вянок.

Ганка — дзеўка з Пагулянкі,
Хата бляхай крыта,
Нябрыдкія вочы,
Але ж нябрыдкі і пасаг.
Ганка — няверная каханка,
Як сказаў стары Савоська:
«A żeby ciebie, głupia kurwo, trafił szlag!»

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Па такім драматычным здарэнні ў жыцці то ві ўсе маеце права крышку адпусціць нервы і выпіць ганаровага дармовага кілішка. Запрашаю! (*Заходзіць за стойку і налівае ўсім па шклянцы гарэлкі.*)

У гэты ж час удараюць страшэнныя грымоты, бліскае маланка і на парозе паказваецца Р э б э к а-в а р’я т к а, дзяўчына паволі праходзіць праз усю сцэну і сядае ў кутку. Яна так містычна выглядае і настолькі ненатуральна апранутая, як вавілонская багіня, што ўсе пачынаюць глядзець толькі на яе... Паўза... Не вельмі вялікая...

Г і т а р ы с т. Пане Ёсель, ну вы гляньце, якія прыгажуні самотна боўтаюцца па пустой дарозе ўвечары, ды яшчэ і ў навальніцу. Колькі ведаю ўсіх мясцовых, а гэтую дык першы раз бачу.

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Не, пане Яне, ві яе ведаць не павінныя, яна нетутэйшая, гэта Рэбэка, і ажно з Ваўкавыска. У яе не ўсе клёпкі на месцы, і як хваля на яе надыдзе, дык

уцякае з бацькоўскага дома на вуліцы Міцкевіча і за дзень можа дабрысці аж сюды...

Г і т а р ы с т. Дык што з ёй зрабілася?

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Атруцілася мухаморамі, уй, бедная-бедная, хацела адабраць сабе жыццё, а страціла толькі розум, а гэта яшчэ горш... А ўсё з-за нешчаслівага кахання. Рэбэка, раскажы нам пра таго прыстойнага пана, што купіў у цябе ў краме цукеркі?

Р э б э к а (*выконвае свой нумар*).

Штодня вы бачыце мяне ў маленькай краме —
Гандлюю драбязою ад дзявятай да шасці.
Ў мястэчку нашым заўсёды процьма п'яных,
І маладой дзяўчыне няма куды пайсці.
І вось аднойчы звычайным летнім ранкам
Ў маю благую краму Ён дзверы адчыніў,
Купіў цукеркі, ў вочы раптам глянуў,
Ласкава усміхнуўся і сэрца мне разбіў.

О мой незнаёмы, вылеплены з мараў,
Ты не ведаеш зусім,
Што ў малым мястэчку сумую я
Усё па табе адным.

Бедная Рэбэка, верна я чакаю:
Можа, ты прыедзеш зноў,
І адсюль вандроўку мы распачнем
У краіну нашых сноў.

Той крык, той гвалт, той шум
Штодня я ўяўляю — Божа мой!
На плошчы тлум, натоўп,
Я ў белай сукні, а ты — побач са мной!

О мой незнаёмы, вылеплены з мараў,
Я табе аддам усё!
Бедная Рэбэка! Гэта мой сон,
Што доўжыцца жыццё!

Фонам — грукат жаўнерскіх ботаў. Рэбэка, адсптваўшы, выходзіць, знікае з карчмы. Адразу, мінаючыся з ёй, увальваецца ў карчму г р у п а  м о л а д з і: юнакі і дзяўчаты ў традыцыйных купалаўскіх лапцях і вопратцы хатняга вырабу, але вырозніваецца паміж імі чалавек у скураной тужурцы, скураной шапцы і ганавіцах з ботамі — відаць адразу, што ён нетутэйшы. Усе прысутныя звяртаюцца да яго «таварыш інструктар».

Т а в а р ы ш  і н с т р у к т а р. Так, Сцяпан Максімавіч, праверь, всё лі ты з сабой захапіў?

С ц я п а н  М а к с і м а в і ч (*мацае сябе па кішэнях*). Дакументы тут, грошы тут, здэцца, усё, таварыш інструктар.

Т а в а р ы ш  і н с т р у к т а р. Не здэцца, а кажецца! Всё, Сцяпан, адвыкай ужо патроху ад сваіх вясковых рэгіяналізмаў. Як у Маскве ў прысутнасці таварыша Сталіна раскрыеш рот і пачнеш так балбатаць па-здешняму, так товарішч Сталін нічево не поймёт, і не дай Бог, разозлітся, і не прідёт к нам на помошчь, і что, так вечно будем здесь корпеть і горбатіться на польскіх панов і іх пріслужніков? Давай начінай говоріть по-нормальному, по-человеческі, по-русскі, словом!

С ц я п а н  М а к с і м а в і ч. Харашо, товарішч інструктор!

Т а в а р ы ш  і н с т р у к т а р. Ну відішь, как захочешь, так і сразу получается. Маладец! Сразу відна будушчэго студента комуністічэскага універсітета трудяшчыхся Востока!

К а м с а м о л к а. І передай нашаму роднаму таварышу Сталіну, Сцяпане, калі пойдзеш да яго ў адведкі, вось гэтыя гасцінцы (*дае нешта завернутае ў хустку*), толькі глядзі, не зжары па дарозе, мы цябе ведаем!

Д р у г і  к а м с а м о л е ц. А яшчэ перадай, Сцяпан, дарагому таварышу Сталіну вось гэтую самапісную кніжачку вершаў, дзе сабраныя лепшыя творы нашых маладых паэтаў-камсамольцаў, прысвечаныя яму, і папрасі, каб ён яе надрукаваў у Маскве, тады пра нашыя Дарані, Савані і Свінуры дазнаецца ўвесь Савецкі Саюз!

Т а в а р ы ш  і н с т р у к т а р. І яшчэ перадай таварышу Сталіну, што працоўныя масы, эксплуатуемыя польскімі

панамі і абшарнікамі, спяць і бачаць кожную ноч, як пераможная Чырвоная Армія нясе ім на багнэтах свабоду і раўнапраўе!!! Ну, таварышы, трэба пацiху варушыцца, нас са Сцяпанам чакаюць, давайце заспявайце вашаму сябру на развітанне якую аптымістычную рэвалюцыйную песню!

К а м с а м о л к а. Можа, «Камсамолачку»?

Т а в а р ы ш  і н с т р у к т а р. Не, яна занадта сумная. Давай лучшэ пра факстроты в карчах, ну гэтую, новую. Ух і класные здесь у вас песні поют, у нас в Москве і то такіх нет!

К а м с а м о л ь ц ы (*хорам*). Давайце гэтую новую!!! (*Спяваюць «Песню камсамольцаў».*)

Вось жаба спявае факстроты ў карчах,
Вось конік сумуе ў пракосе,
А вось вісіць горда чырвоны наш сцяг
На дубе... І есці не просіць.
Яго мы павесілі сёння ўначы,
А ён чырванее, а ён трапячыць
І з ветрам усходнім размову вядзе,
І з сонцам аб нечым балбоча.

Перамены, перамены ў нашым краі,
Перамены хутка набліжаюцца.
І эксплуатататараў шалёных зграя
Ад помсты працоўных не схаваецца!

Як сцяг апынуўся на дубе на тым,
Не ведае ніхто на свеце,
Бо спала паліцыя, п’яная ў дым,
Па ўсім Ваўкавыскім павеце.
А зараз ім ўжо не да сну, не да сну,
Папруць заўтра з працы — і вось табе ну!
Па людзях пачнеш ты хадзіць-жабраваць,
Памрэш, як сабака, пад плотам!

А народ на дуб паказвае рукамі,
А народ глядзіць і пасміхаецца,
Бо эксплуататараў шалёных зграя
Ад помсты працоўных не схаваецца.

Войт слінаю пырскае, пальцам трасе
І паліцыянтаў штук з дзвесце,
Дарэмна стараюцца яны ўсе
Да нашага сцяга далезці.
Ён вельмі высока на дубе старым
Надзейна прыбіты цвіком не адным
І побач таблічка, а на ёй вуглём
Напісана: «Смерць акупантам!»

Ужо нядоўга вам, працоўныя сяляне,
Засталося гараваць і наракаць,
Дажылі да змроку, то і да світання
Дажывём і будзем жыць і прыпяваць.

Праспяваўшы песню, інструктар са Сцяпанам Максімавічам сыходзяць, і ў карчме застаюцца камсамольцы.

Д р у г і  к а м с а м о л е ц. Ой, забыўся (*вымае з кішэні нейкі канверт і кідаецца да акна*). А яны ўжо далёка пайшлі, ах я раззява, лейда кабызяцкая!

Ё с е л ь  З э л і г м а н. І што вы забыліся, шаноўны змагар за правы працоўных, забыліся перадаць таварышу Сталіну пачак махоркі з уласнага загону, ці торбачку сушаных грушаў, ці вязку баравікоў?

Д р у г і  к а м с а м о л е ц. Эх, забыўся перадаць яму ліст!

Ё с е л ь  З э л і г м а н. І што ў гэтым лісце, калі не такі вялікі сакрэт?

Д р у г і  к а м с а м о л е ц. Просьба дапамагчы мне парадай! Мая дзяўчына — з праваслаўнай сям'і, а я сам — каталік, і бацькі не дазваляюць нам пажаніцца, і што хочаш, тое і рабі! (*Спявае песню «Яна — праваслаўная, я — каталік».*)

Чаму ж ты, мой Божа, так свет падзяліў
Няроўна? Няма ў ім спакою.
Багатаму зранку калышаш дзяцей,
Да беднага — ані нагою!
Куды нам падзецца, дзе ўцехі шукаць?
Наўкола — ні друга, ні брата.
Дый знаюць у вёсцы і пан, і мужык:
Яна — праваслаўная, я — каталік.

Дый скажуць у вёсцы і пан, і мужык:
Яна — праваслаўная, я — каталік.

Нібыта спачыў старажытны праклён
На вузкіх бацькоўскіх палосках.
Глянь — цягнуцца бедныя нашы шнуры
Ад лесу да самае вёскі.
І доля — адна, і нядоля — адна
Ва ўсіх, не мінае нікога.
Дый знаюць у вёсцы і пан, і мужык:
Яна — праваслаўная, я — каталік.
Дый скажуць у вёсцы і пан, і мужык:
Яна — праваслаўная, я — каталік.

Навошта ты бедны народ падзяліў
На рускіх і польскіх, мой Божа?
Ўчыні якісь цуд, бо на гэтай зямлі
Ніхто нам з ёй не дапаможа.
Яна без мяне, ані я без яе
Гадзіны пражыці не зможам.
Дый знаюць у вёсцы і пан, і мужык:
Яна — праваслаўная, я — каталік.
Дый скажуць у вёсцы і пан, і мужык:
Яна — праваслаўная, я — каталік.

У час спявання дзесьці на задніку можа ўзнікнуць падабізна Сталіна, які адчыняе пісьмо, доўга яго чытае, потым у канцы песні нешта зробіць — папівае галавой ці дастане хустачку і вытра слязу, альбо яшчэ штосьці, як у нямым кіно.

Ё с е л ь  З э л і г м а н (*дастае насоўку з кішэні і выцірае слёзы*). Уй, якая прыгожая, рамантычная гісторыя. Уй, я плачу як бабёр, што гаварыць, як два бабры!!!І я толькі не разумею, якім бокам да яе дапасаваць таварыша Сталіна? Каб от пра яе пачулі мае старыя прыяцелі Голдвін з Мэерам, то яны б зрабілі з гэтай вашай гісторыі такі мастацкі фільм, такі фільм, што ўся Каліфорнія захлынулася б ва ўласных слязах.

Д р у г і  к а м с а м о л е ц. А хто такія гэтыя Голдвін з Мэерам?

Ё с е л ь  З э л і г м а н. А, так, такія, ну, гешэфтмахеры адсюль родам! З'ехалі пазаўчора ў Каліфорнію, захацелі купіць сабе на двох нейкую кінафабрыку ў тамтэйшай вёсцы, а вёска нібы называецца Галівуд, не чулі такой, кажуць, не большая за нашыя Прыблудзічы, не ведаю, як ім пайшло, ці хоць грошы здолеюць вярнуць, што ўклалі...

**ДЗЕЯ ПЯТАЯ**

На сцэне з'яўляюцца  Г о л д в і н  і  М э е р.

М э е р. Паслухайце, пане Голдвін, ці ведаеце ві, што я вам хачу сказаць?

Г о л д в і н. Канешне, не ведаю, адкуль ж я яшчэ магу ведаць, калі ві не пачалі гаварыць?

М э е р. Ну як не ведаеце, то і не трэба вам ведаць!

Г о л д в і н. Паслухайце, пане Мэер, ну ві ж адзін такі адукаваны чалавек на нашай вуліцы, да вас прыходзіць газета «Ідішэ штэрн», што ві тут з мяне здзекуецеся, калі ўжо прачыталі што важнае, то кажэце!

М э е р. Ну, пане Голдвін, ві не запярэчыце, што ўсе самыя разумныя людзі на зямлі паходзяць з нашага ізраэліцкага роду: Марксы, Ротшыльды, Калумбы, Бахі, Меерберы, Мендэльсон і Бартольдзі!

Г о л д в і н. Што ві кажаце? Дык Мендэльсон і Бартольдзі — гэта не два чалавекі, гэта адзін, Фэлікс, проста праз рысачку!

М э е р. Хай будзе па-вашаму! Але самым разумным на свеце на сённяшні гістарычны момант з'яўляецца Альберт Айнштайн.

Г о л д в і н. Гэта той жабрак, каторы жыве на рагу Свінога завулка і Балотнае вуліцы? Фу, ну які ж ён разумны, калі ад яго нават жонка, і тая ўцякла...

М э е р. Не, гэта не той жабрак, гэта фізік і філосаф, зусім як Эма Кант, ён жыве ў Германіі. Дык вось, ён выдумаў слынную адноснасцёва-ўмоўнасцявую тэорыю і разам з ёю паехаў ажно ў Японію.

Г о л д в і н. Што ві кажаце, у такую далёкую дарогу і за свае грошы?

М э е р. Не, яго запрасіў іхні імператар Хірахіта, каб Айнштайн растлумачыў маладасведчаным японцам некаторыя складаныя аспекты тэорыі і наступствы, якія вынікаюць з гэтых аспектаў.

Г о л д в і н. Уй-юй-юй! А што значыць, гаворачы звыклаю, лапідарнаю моваю, адноснасцёва-ўмоўнасцёвая тэорыя нашага чалавека Айнштайна?

М э е р. Ну ві такі просты, такі просты, як сцежка паміж магіламі, але я вам растлумачу. Калі вас нібы палажыць на адну ноч у вялікі мяккі ложак з прыгожаю маладою кабетаю...

Г о л д в і н. А калі гэта будзе? Папярэдзьце мяне, калі ласка, хоць за тыдзень да такога выдатнага здарэння! Я ж вымушаны буду пайсці ў лазню, змяніць бялізну, апрануць чыстае адзенне, пагаліцца і пачысціць зубы, папырскацца адэкалонам!

М э е р. Пане Голдвін, я не кажу, што гэта будзе на самай справе, я кажу нібы...

Г о л д в і н. Шкада, а я меў такую надзею пайсці ў ложак з маладою кабетаю, ды яшчэ задарма, а вы мне паламалі маю светлую мару! А выпіўка якая там будзе? А паесці дадуць?

М э е р. Пане Голдвін, я вам кажу, што гэта нібы!

Г о л д в і н. А...

М э е р. І вось, з ранку устаючы з ложка і развітваючыся з ёй, ві заўважыце, што...

Г о л д в і н. Што у мяне прапалі ўсе грошы з пуралеса?

М э е р. Не!!!

Г о л д в і н. Што яна не такая прыгожая і маладая, якой здавалася з вечара?

М э е р. Не!!!

Г о л д в і н. Што гэта была мая ўласная жонка?

М э е р. Не!!!

Г о л д в і н. Што гэта была, не дай Бог, вашая жонка?

М э е р. Ну не!!!!

Г о л д в і н. А што тады так?

М э е р. ...Што гэтая цэлая доўгая зімовая ноч прабегла і ўцякла вам, як адна салодкая хвіліна, правільна?

Г о л д в і н. Дык ві пра гэтае? Ну ясна!!! Правільна! Ну, з ложкам мы ўжо высветлілі справы, яго не прадбачыцца, а што далей?

М э е р. А калі вас, прабачце, нібы пасадзіць на пяць хвілінаў голаю сракаю на вельмі гарачую патэльню ў кухні рэстарана «Парадыз», то гэтыя пяць хвілінаў, праведзеныя голаю сракаю на гарачай патэльні ў кухні рэстарана «Парадыз», вам пакажуцца вечнасцю, нібы так?

Г о л д в і н. Нібы так!

М э е р. Вось гэта і ёсць спрытна пераказаная простаю моваю адноснасцёва-ўмоўнасцёвая тэорыя нашага чалавека Айнштайна!

Г о л д в і н. Што ві кажаце? І з такімі вось штучкамі яго запрасіў імператар у Японію. Ну зусім у гэтай Японіі ўсе падурэлі! (*Спявае песню «Nokh Eyn Tants».*)

Nokh eyn tants, beyt ikh itst bay dir,
Libzter her, ikh beyt bay dir shenk zhe mir nokh eyn tants.
Siz shoyn shpeyt, bald di nakht fargeyt,
Un die shtern vern bald on dem glants, nokh eyn tanz.

Ikh hob dikh gesukht mayn gants lebn lang,
Itst farlir ikh dikh, tut mir azoy bang.
Zhot gelebt mayn freyt far eyn shtunde bloyz,
Bizt gekumen tsu shpeyt in mayn glik.

Iz shoyn oys, libzter her, ikh beyt bay dir,
Shenk zhe mir nokh eyn tants.

То, можа, яшчэ што цікавага маеце мне сказаць?

М э е р. А так, амаль што не забыўся. Ві ведаеце, што Хрыстафор Калумб — наш чалавек, каторы адкрыў Амерыку, — паходзіць адсюль, з нашых мясцінаў?

Г о л д в і н. Што ві гаворыце? Ві хочаце сказаць, што Калумб паходзіць са Скідаля?

М э е р. А чаму менавіта са Скідаля?

Г о л д в і н. Таму што ві сказалі — наш і з нашых мясцінаў. А я ж паходжу са Скідаля.

М э е р. Ну не, ён паходзіць не канкрэтна са Скідаля, а адсюль, ну, можа, са Слоніма, можа, з Ліды.

Г о л д в і н. Што, ён толькі напалову наш?

М э е р. Чаму?

Г о л д в і н. Ну ві самі сказалі — з Ліды! Ліда — гэта што, так называецца яго маці?

М э е р. Гэта не маці яго так называецца, а горад, з якога, магчыма, паходзіць Калумб.

Г о л д в і н. А чаго яго бура паперла адкрываць Амерыку, ды яшчэ на караблі! Цяпер туды лётаюць самалёты!

М э е р. Кажуць, што амерыканскі консул не даў яму візы, і Калумб вымушаны быў, як звыклы кубінскі нелегальны эмігрант, паплыць на караблі...

Г о л д в і н. З Ліды?

М э е р. На Фларыду! Ой, пане Голдвін, ві мяне заблыталі сваімі маларазумнымі пытаннямі.

Г о л д в і н. А ві мяне сваімі высокаінтэлектуальнымі, пане Мэер, адказамі на іх...

Паўза.

М э е р. Дарэчы, у аддзеле аб'яваў «Ідішэ штэрн» пішуць, што ў Амерыцы, у вёсцы Галівуд, прадаецца нейкая кінафабрыка. Можа, скінемся і купім? Кіно будзем здымаць! Нават калісь Ульянаў, каторы Ленін, сказаў: «Из всех искусств для нас важнейшим является кино!»

Г о л д в і н. Калі Ульянаў такое сказаў, то нічога не маю супраць! Пойдзема знойдзема грошы, атрымаема візу і паедзема!!! (*Спявае «Песню пра Галівуд».*)

Весткі ходзяць па Еўропе,
І гаворыць просты люд:
Прадаецца кінафабрыка
У вёсцы Галівуд!
Той, хто спрытны й нелянівы,
У далонях чуе зуд —
Мае суперперспектыву:

Справа ў вёсцы Галівуд.
Пашпарт у кішэні з візай
І білет на карабель.
Будзе для усіх сюрпрызам,
Як мы купіма сабе
Фабрыку блакітных мараў,
Фабрыку цудоўных сноў.

Маема грошы, не абяцанкі.
Фільмы пачнуць вылятаць, бы з канвеера.
Чаго не патрапілі выдумаць янкі,
Тое здолеюць Голдвін і Мэер.

Ад сцэнарыяў і сцэнаў
Абслязяцца гледачы,
І пачнуць даляры, цэнты
У кішэню к нам цячы.
«Мікі-Маус», «Хросны бацька»,
«Гладыятар», «Гамлет», «Шрэк» —
Гэта ўсё павінен ўбачыць
Кожны просты чалавек.
Спрытны розум — сочым, чуем,
Пабываем там і тут.
Суперфабрыку збудуем
Мы у вёсцы Галівуд,
Фабрыку блакітных мараў,
Фабрыку цудоўных сноў.

Маема грошы, не абяцанкі.
Фільмы пачнуць вылятаць, бы з канвеера.
Чаго не патрапілі выдумаць янкі,
Тое здолеюць Голдвін і Мэер.

Стэп, паклон і сыход са сцэны.

## ДЗЕЯ ШОСТАЯ

Вяртаецца ў карчму Т а в а р ы ш і н с т р у к т а р. Ён ужо дзесьці добра дзеўбануў, але яшчэ трымаецца на нагах.

Т а в а р ы ш і н с т р у к т а р. Ну, пайшла справа! Адправіў Сцяпана Максімавіча пад Ракаў, а там ён з надзейнымі людзьмі пяройдзе польска-савецкую мяжу і... здравствуй, Москва, здравствуйце, таварыш Сталін! Гэтую справу варта замачыць. Господін шінкарь ілі как там вас, карчмар, стаканчік водкі я б у вас попросіл, не задаром, конечно!

Ё с е л ь З э л і г м а н. Якія праблемы, хоць сто стаканчікаў!

Т а в а р ы ш і н с т р у к т а р. Эх, плеснём в хайло, как в каменку! (*Выпівае.*) Перамены, таварішч карчмар, перамены, набліжаюцца семімільнымі крокамі вялікія перамены... Хутка на ўсёй тэрыторыі згнілай мяшчанскай Еўропы запануе сацыялістычны лад, і прыйдзем да ўлады на тысячы і тысячы год мы — рабочыя і сяляне, і хто не далучыцца да нас, той апынецца не ў самай лепшай сітуацыі, хто не ўвагне галаву ў плечы, дык той яе страціць, застанецца без галавы, як вершнік у кнізе Майн Рыда!

Ё с е л ь З э л і г м а н. А што вы маеце на ўвазе?

Т а в а р ы ш і н с т р у к т а р. Калі вы на працягу двух гадоў не пазбавіцеся вашае карчмы, то, пэўная справа, потым яе ў вас адбяруць, а яшчэ потым з-за гэтай няшчаснай карчмы напсуюць крыві і жыцця і вам, і ўсёй вашай фаміліі, так што... Я вам гэта раю, як адзінаверац адзінаверцу!!!

Раптам у карчму ўваходзяць д в а п а л і ц ы я н т ы, абыходзяць, заглядаючы ва ўсе куткі і свецячы ліхтарыкамі ў публіку, падыходзяць да музыкаў, потым да Таварыша інструктара.

П е р ш ы п а л і ц ы я н т (*казыраючы*). Dokumencik pana poproszę?

Т а в а р ы ш і н с т р у к т а р. Niema sprawy, proszę bardzo.

П е р ш ы п а л і ц ы я н т (*чытаючы дакумент*). To pan się nazywa...

Т а в а р ы ш  і н с т р у к т а р. Janusz Dąbrowski, porucznik rezerwy, zameldowany w Grodnie, przy ulicy Piaskowej, dom numer 8 mieszkanie 4.

Д р у г і  п а л і ц ы я н т. Zgadza się, a co Pan robi w tym zabitym dechami zakątku świata, zdala od osiągnięć cywilizacji?

Т а в а р ы ш  і н с т р у к т а р. Panie kochany, widzowie ni cholery nie rozumieją po-polsku, wal pan po-prostu.

Д р у г і  п а л і ц ы я н т (*гаворыць з моцным беластоцкім акцэнтам*). Ага, зразумеў! Усё сыходзіцца! А што вы робіце тут, у гэтым забітым дошкамі месцы, якое далёка ад дасягненняў цывілізацыі?

Т а в а р ы ш  і н с т р у к т а р. Ведаеце, пане паліцмайстар, я хачу сабе купіць кавалак пушчы ва ўласнасць!

П е р ш ы  п а л і ц ы я н т (*вяртае дакумент*). Калі ласка, вашыя дакументы, выбачаюся! Служба — не дружба, мы шукаем пэўнага чалавека, савецкага агітатара, ён спрытны, як халера, — дзесьці тут лазіць увесь час, толькі дзе — вось пытанне!

Т а в а р ы ш  і н с т р у к т а р. На жаль, апрача нас, тут нікога не было і няма, хіба вам трэба пашукаць яго ў іншым месцы!

Д р у г і  п а л і ц ы я н т. Выбачаемся, пане паручнік, усяго найлепшага! (*Адыходзяць.*)

Непрыемная паўза.

Ё с е л ь  З э л і г м а н. Паслухайце, пане паручнік Дамброўскі, ці як там вас, ві ж мне казалі пару хвілінаў таму, што ві — мой адзінаверац. Але як паручнік Дамброўскі можа верыць у тое, у што верыць карчмар Зэлігман?

Т а в а р ы ш  і н с т р у к т а р. Дарагі пане Зэлігман, у жыцці бываюць і не такія метамарфозы! Вось паслухайце! (*Спявае песню «Цнота».*)

У каяковым клубе сёння ўвечар будуць танцы...
У каяковым клубе сёння будуць танцы.
У клуб не ходзяць мужыкі і абарванцы,
Там грае музыка прыемна, мілагучна,
Сюды аднойчы завітаў сам пан паручнік,

Рукою шчодраю аркестры даў два злотых
І папрасіў, каб заігралі танга «Цнота».
Арліным позіркам разгледзеўся наўкол
І да Агнешкі цвёрдым крокам падышоў.

Ach cnota, moje srebro i złoto,
Mam przy sobie twój ciężar, twój głaz,
Ale miłość to zdarza się raz!

На Сенным рынку, на вуліцы Баніфратраў
Агнешку ведалі даўно і аж занадта.
Агнешка хоць і маладая — год ўжо з пяць
Як пачала зусім няблага зарабляць.
Аркестра танга «Цнота» задушэўна грае,
А пры сцяне ціхутка хлопцы размаўляюць.
Яўген і Ярак, Лёнік, Зьміцер і Антось —
Усе чакаюць: chyba dalej będzie coś!

Ach cnota, moje srebro i złoto,
Mam przy sobie twój ciężar, twój głaz,
Ale miłość to zdarza się raz!

Скончыўшы танга, пара нашых закаханых
Пайшла шукаць куточак ціхі, ўтульны, цьмяны.
І толькі селі на траву пад нейкім плотам,
Як ён пачуў: «Najpiersz pieniądze! Miłość — potem!»
Паручнік цяжка уздыхнуў, заплюшчыў вочы:
«Nieszczęście, ach! Bo tych pieniędzy ani grosza!»
Але намеры ён яе разбіў ушчэнт,
У ход прывёўшы найважчэйшы аргумент:

«Ach, cnota! Nasza wspólna tęsknota!
Pani — Polka? A ja też Polak,
To czy nie da mi Pani za tak?»

Ў гэтую ноч раптоўна так і нечакана
Агнешка сталася ахвяраю падману.
Апроч таго што злоўжываўся арганізм,
Дык быў зняважаны яе патрыятызм.
Паручнік той меў на імя Мэнахэм Вольфсан,

Паручнік быў, на жаль, жыдом і камсамольцам,
Лічыўся лепшым ён агентам ДПУ
І неўзабаве збег з Гародні у Маскву.

Па шкодзе будзь мандрэйшаю, цнота,
Памятай: хоць ён жыд, хоць паляк —
Не давайся ніколі за так!!!

Ну, пане карчмар, пільныя справы прымушаюць мяне яшчэ сёння пакіравацца ў слаўнае места Беласток. А дарэчы, у якім накірунку трэба пачаць рух, каб праз гадзіну апынуцца ў Сакольніках?

Ё с е л ь З э л і г м а н. Ідзіце на Навасёлкі, Студзенікі, з Студзенікаў на Баяры — і ві ў Сакольніках! Так пехатою ў навальніцу да Беластока і пойдзеце?

Т а в а р ы ш і н с т р у к т а р. Канём да Сакольнікаў давязуць, а ў Сакольніках мяне чакае аўтамабіль, якім пакіруе сам нашчадак слаўнага роду Бутаўт-Андрайковічаў! Каб полымя сусветнай рабоча-сялянскай рэвалюцыі разгарэлася як належыць, трэба перад гэтым кінуць у сімвалічную печ дзеянняў чалавецтва вельмі многа сухіх дроваў! Я гэтым і займаюся — езджу паўсюль і сушу... усім мазгі!!! Ну, музыканцікі, сто злотых вам пакіну на дробныя выдаткі, калі зайграеце мне нешта тое, што я дагэтуль не чуў і чуць не мог! Толькі такое, з праклятага капіталістычнага Захаду, такое ЭХ!!!

Гучыць «Парыжскае танга».

Вось яно — з Парыжа танга, месье.
Злосць вас душыць — з’ешце манга, месье.
Не жыве на свеце Ванга, месье.
Але мы жывем, месье!

З Парыжа танга, з Парыжа танга,
Не вальс, не полька, не фанданга.
Насаты чэх, салідны фін,
Паляк, і немец, і грузін,
Ўсе разам — танга! Танцуюць танга
І п’юць віно, і так ім файна!

Няхай ўсё к чорту прападзе —
Гуляць мы будзем ноч і дзень!

У адной беднай карчме
Усе ўжо ні бэ ані мэ.
Шклянкі, кішэні пустыя,
Думкі ў галовах не тыя.
Тут раптам нехта ўстаў,
З куфра гармонік дастаў,
І палілося наўкола
Нешта з Астора П’яцолы.

Вось яно — з Парыжа танга, месье.
Злосць вас душыць — з’ешце манга, месье.
Не жыве на свеце Ванга, месье.
Але мы жывем, месье!

З Парыжа танга, з Парыжа танга,
Не вальс, не полька, не фанданга.
Насаты чэх, салідны фін,
Паляк, і немец, і грузін,
Ўсе разам — танга! Танцуюць танга
І п’юць віно, і так ім файна!
Няхай ўсё к чорту прападзе —
Гуляць мы будзем ноч і дзень!

Але надыдзе той час —
Месца не будзе для нас
Ні ў карчме, ні на рынку.
Нас запіхаюць у скрынку,
Вечка цвікамі прыб’юць
І на плячах панясуць.
А па дарозе да раю
Скрыпка нам танга зайграе.

Вось яно — з Парыжа танга, месье.
Злосць вас душыць — з’ешце манга, месье.
Не жыве на свеце Ванга, месье.
Але мы жывем, месье!

І цёця Вэрця, і баба Ванда
Штовечара танцуюць танга.
Мядзведзь, і зайчык, і пчала,
І дзяк з суседняга сяла,
Ўсе разам — танга! Танцуюць танга
І п'юць віно, і так ім файна!
Няхай ўсё к чорту прападзе —
Гуляць мы будзем ноч і дзень!

**ДЗЕЯ СЁМАЯ**

На апошніх радках гэтае песні зачыняецца заслона, і зноў мы бачым на сцэне шоўмэна з мікрафонам і Зэлігмана-мільянера. Яны даслухаюць апошнія такты песні... Перачакаўшы рэакцыю гледачоў, Зэлігман выходзіць на авансцэну, тры секунды маўчыць, і потым пачынае гаварыць. У гэты час да яго падцягваецца з-за кулісаў увесь аркестр, на другі куплет — іншыя выканаўцы, і трэці куплет усе спяваюць разам...

Самюэл Зэлігман. Праз год дзед прадаў карчму і з'ехаў у Амерыку. Таварыш інструктар меў рацыю — потым тут такое пачалося... Мы з дзедам Ёселем вельмі сябравалі — стары з малым... Ён мяне навучыў многім патрэбным рэчам — любіць жыццё, шанаваць старэйшых і малодшых, не раскідвацца капейкай... І яшчэ навучыў адной вельмі прыгожай песні на той мове, на якой размаўлялі калісьці ўсе навокал — і нашыя суседзі-праваслаўныя, і нашыя суседзі-каталікі, і мы на ёй усе маглі і ўмелі размаўляць, і вельмі любілі гэтую мову... (*Дэкламуе.*)

Калі на захадзе заблісkаюць зарніцы
І сон паморыць і жывёлу, і людзей,
Прыходзь тады, мая Марыська, да крыніцы,
Як мае быць нам заспявае салавей.
Закрэхчуць жабы гэтак млосна у балоце,
Як быццам заўтра не крахтаць ім і не жыць.
І пры паваленым Яновічавым плоце
Мы станем ціхенька і будзем гаварыць.

Быў я у Гайнаўцы ў мінулым панядзелку,
Вазілі з бацькам мы на продаж воз гаршкоў.
І даў стары мне трохі грошай на гарэлку,
А я замест карчмы у краму — шась цішком.
Забег у надта у пажондную я краму,
Дзе мае гэшэфт сам пан Волавац Абрам,
І, старгаваўшыся з Валовацам Абрамам,
Купіў пярсцёнак. Прыйдзеш — то табе аддам.

Вось певень заспяваў, за ім другі і трэці,
На лямпы фукнуў працай здушаны народ.
Цябе ж, Марыся, пэўне, дзесьці носяць чэрці,
Хай лепш прынеслі б пад Яновічавы плот.
Пара ісці — напэўна, трэцяя гадзіна,
Вунь месяц ссунуўся за Крынкаўскі бальшак.
І з плота я цягну здаровую тыніну,
Каб чым было мне адбівацца ад сабак.

З а с л о н а.

*Visby, luty 2011, Гродна, сакавік–красавік 29.04.2011*

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 30

**Шалкевіч** Віктар

**Мястэчка G…**
**…і ваколіцы…**

Дзевятнаццаць апавяданняў і п’еса

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Алесь Пашкевіч
Вёрстка Ларысы Ваўчок
Карэктура Алены Спрытніч

Падпісана да друку 16.07.2012. Фармат 84х108 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 5,88. Ул.-выд. арк. 4,31.
Наклад 500 ас. Зак. 504.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.